Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 16 (4662) 20 красавіка 2012 г.

## Калонка рэдактара

### 26



Дзецям, якія нарадзіліся ў красавіку 1986 года, ужо 26… Можа быць, недзе на генетычным узроўні ў іх прапісана гэтае слова — "Чарнобыль", недзе ўнутры ў іх застаўся адбітак таго чакання, невядомасці і страху. Калі твой вораг нябачны, то страшней удвая.

Я памятаю, як пасля паўчутак-паўзвестак людзі чакалі нейкіх праяў, — хоць жоўтага дажджу з неба, хоць смугі, як куплялі ёд, зачынялі форткі і не выпускалі на вуліцу малых… Але ж нічога не бачна, дык можа нічога і няма?.. А страх не сыходзіў, бо не было інфармацыі. Калі сёння здараецца бяда на іншым канцы свету, тэлебачанне, інтэрнэт, радыё — усё імкнецца хутчэй распавесці пра яе. А тады былі толькі шэпты, чуткі і — страх. Мы, дзеці, збіраліся ў двары і сур'ёзна разважалі пра тое, каму колькі засталося…

Калі пра Вялікую Айчынную вайну многае становіцца вядомым толькі цяпер, калі пісьменнікі ўсё яшчэ адкрываюць для сябе і чытача нашу даўнюю гісторыю, то што казаць пра падзеі, якія яшчэ не сцерліся з памяці. Чарнобыль чакае — ужо не ахвяр, а тых, хто здолее асэнсаваць яго боль і ператварыць у мастацтва боль цэлага народа.

Перыяд паўраспаду Цэзія-137 — 30 гадоў. Але зямля атручана не толькі радыяцыяй — яна атручана страхам, і хто ведае, колькі трэба гадоў, каб пазбавіцца гэтай атруты.

Не ўсім дзецям, якія нарадзіліся ў красавіку 1986 года, ужо 26…

**Таццяна СІВЕЦ**

## У нумары:



# Знакі нашай непаўторнасці

**На сусветным календары знамянальных дат дзень 18 красавіка з'явіўся амаль трыццаць гадоў таму. Устаноўлены ён быў рашэннем Асамблеі Міжнароднага савета па пытаннях аховы помнікаў і адметных мясцін, створанай пры ЮНЕСКА, і адзначаецца з вясны 1984-га як Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцін. Зразумела, што дзень гэты вылучаецца ў чарадзе каляндарных падзей не як свята, а як штогадовы напамін пра тэму, актуальную для ўсяго цывілізаванага свету, важную для кожнага сумленнага чалавека. Тэму, неад'емную ад працэсаў захавання, развіцця і папулярызацыі культурнай адметнасці розных народаў, краін, рэгіёнаў.**



*Гістарычныя мінскія будынкі, над праектамі якіх працаваў І. Лангбард, сёння — помнікі архітэктуры, якія ахоўваюцца дзяржавай.*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Кастуся Дробава, калаж Віктара Калініна**

Сучасная Беларусь імкнецца да прыкладу развітых еўрапейскіх краін, дзе ашчадна і далікатна ставяцца да ўласнай мінуўшчыны, захоўваюць гістарычныя ландшафты, нават пасля археалагічных раскопак аднаўляюць краявіды памятных мясцін. Адпаведным чынам развіваецца і наша заканадаўства, скіраванае на рэстаўрацыю, рэканструкцыю, ахову і прапаганду гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь. Прыкладам — шэраг адпаведных урадавых праграм, дзяржаўных рашэнняў, скіраваных на аднаўленне замкаў Беларусі, палацава-паркавых комплексаў і сядзіб, старажытных культавых пабудоў і тэатраў. Тут і комплексная ўвага да развіцця горада Полацка ў 2008 — 2012 гадах, і распачаты капітальны рамонт унікальнага фарнага касцёла ў Нясвіжы, дзе, дарэчы, праз некалькі месяцаў адбудзецца доўгачаканае ўрачыстае адкрыццё адрэстаўраванай легендарнай рэзідэнцыі князёў Радзівілаў, і ўзнаўленне "святая святых" айчыннага мастацтва — Купалаўскага тэатра...

Са сваёй культурнай адметнасцю, годным стаўленнем да ўласнай — далёка не аднaзначнай і драматычнай, але багатай і вялікай — гісторыі мы можам заняць "пачэсны пасад між народамі", якія пакуль яшчэ, на жаль, гэтак мала ведаюць пра старажытную і маладую краіну ў самым цэнтры Еўропы. Зрэшты, а наколькі мы самі ведаем сябе, ці ўяўляем глыбіню і веліч гісторыка-культурнага патэнцыялу Беларусі?

Дуга Струве; Камянецкая вежа; Гомельскі палацава-паркавы ансамбль; Барысаглебская (Каложская) царква ў Гродне; Аўгустоўскі канал; узоры абарончага дойлідства — Сынкавіцкая царква ды касцёл у Камаях; замкавы комплекс "Мір", з якога пачалося далучэнне нашых каштоўнасцей да славутага Спісу ЮНЕСКА; гарады-музеі Полацк, Заслаўе, Тураў, Пінск, Нясвіж; плошча ў Паставах і Шклоўская ратуша; руіны Навагрудскага і Крэўскага замкаў; 600-гадовая Белавежская пушча. Рамантычная Лошыца. Паэтычныя Вязынка, Мікалаеўшчына і Ракуцёўшчына. Мясціны Адама Міцкевіча, Напалеона Орды і Станіслава Манюшкі, Міхала Клеафаса Агінскага, Тадэвуша Касцюшкі. Віцебск Салярцінскага, Шагала і Малевіча. А яшчэ — Брэсцкая крэпасць; "Хатынь", "Яма" і "Азарычы"; Буйніцкае поле...

Не пералічыць беларускіх помнікаў і гістарычных мясцін, звязаных з дзейнасцю выбітных асоб, са з'явамі духоўнага і мастацкага жыцця (якое разгортваецца тут і сёння), з ваеннымі падзеямі. Яны — па ўсёй краіне! Вось і ў сталіцы нашай ці не на кожным кроку можна заўважыць сляды далёкай і нядаўняй гісторыі, знакі нашай самасці, непаўторнасці. Подых мінулай эпохі, калейдаскоп гістарычных падзей, рысы адметнай культуры, значнасць вядомых асоб — усё гэта часам аб'ядноўваецца ў адну непадзельную з'яву. Менавіта як такую з'яву ўспрымаеш і вядомыя чатыры будынкі ў цэнтры Мінска: Дом урада (1934), Дом Чырвонай Арміі — сённяшні Цэнтральны дом афіцэраў (1939), Тэатр оперы і балета (1937), галоўны корпус Акадэміі навук БССР (1940). Яны не толькі вызначаюць і робяць пазнавальным архітэктурнае аблічча горада: гэта — неацэнная спадчына, помнікі, якія, нягледзячы на знішчальныя авіяналёты і артабстрэлы, перажылі вайну і паўсталі ў абноўленай сталіцы як сімвалы дасягненняў айчыннага дойлідства, неадлучныя ад культурна-гістарычных працэсаў. Чатыры выбітныя будынкі ў сталіцы, а таксама Дом Саветаў у Магілёве (1939) сталіся ўвасабленнем найбольш значных і смелых ідэй архітэктара Іосіфа Лангбарда.

Да 130-годдзя гэтага таленавітага дойліда, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, доктара архітэктуры, прафесара прымеркавана выстаўка, што адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Праз унікальныя экспанаты з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва навукова-тэхнічнай дакументацыі, матэрыялы Камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама, Дзяржаўнага музея гісторыі Санкт-Пецярбурга і з хатняй калекцыі сям'і Сакаловых — родзічаў жонкі І. Лангбарда раскрываецца свет вялікай творчай асобы. "Невядомы Лангбард", які, аказваецца, захапляўся і жывапісам, нарадзіўся ў Бельску (тагачасная Гродзеншчына). Атрымаў бліскучую адукацыю ў Вышэйшым мастацкім вучылішчы пры імператарскай акадэміі мастацтваў у Санкт-Пецярбургу. У 1929 г. перамог у конкурсе на праект галоўнага адміністрацыйнага будынка Беларусі — Дома ўрада. А ў 1937-м за дасягненні ў архітэктуры атрымаў Гран-пры Міжнароднай выстаўкі мастацтваў і тэхнікі ў Парыжы. Ён жыў у Ленінградзе, куды быў запрошаны выкладаць ва Усерасійскай акадэміі мастацтваў, але душою заставаўся з Беларуссю. Нават падчас эвакуацыі ў разгар вайны, у 1942-м (!), працаваў над праектам помніка змагарам Вялікай Айчыннай для БССР, дасылаў свае прапановы кіраўніцтву рэспублікі. А ў 1944-м у якасці творчага кіраўніка архітэктурна-планіровачнай майстэрні Упраўлення па справах архітэктуры пры СНК БССР І. Лангбард удзельнічаў у аднаўленні Мінска. Горад-герой, горад-помнік нясе ў сваім "архітэктурным сэрцы" іскрынку яго таленту.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў віншавальным лісце Прэзідэнту Індыі Працібху Паціл з нагоды 20-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж нашымі краінамі выказаў спадзяванні на далейшае плённае развіццё беларуска-індыйскага супрацоўніцтва не толькі ў галіне гандлю і інвестыцый, але і ў навуцы і культуры.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў глыбокія спачуванні ў сувязі са смерцю народнага артыста Расійскай Федэрацыі Аляксандра Парахаўшчыкова яго родным і калегам. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што ў Беларусі Аляксандра Парахаўшчыкова ведалі і высока цанілі за талент, моцны характар і адданасць мастацтву.

✔ Міністр культуры Беларусі Павел Латушка наведаў з двухдзённым рабочым візітам Маскву. Ён узяў удзел у сумесным пасяджэнні Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД, дзе была абмеркавана дзейнасць гэтай арганізацыі ў 2011 годзе і планы далейшага супрацоўніцтва, а таксама прысутнічаў на ўрачыстай цырымоніі ўручэння міждзяржаўных прэмій "Зоркі Садружнасці", дзе быў уганараваны мастацкі кіраўнік ансамбля "Сябры" Анатоль Ярмоленка.

✔ Культурны цэнтр Беларусі ў Расіі будзе адкрыты ў 2013 годзе. Таксама плануецца адкрыццё такіх цэнтраў ва Украіне, Літве, Германіі. А першы з іх у мінулым годзе з'явіўся ў польскай сталіцы Варшаве.

✔ Гродзенскі абласны драматычны тэатр атрымаў прэмію імя народнага артыста СССР Кірыла Лаўрова на XIV Міжнародным фестывалі "Сустрэчы ў Расіі" ў Санкт-Пецярбургу за спектакль "Палёт над гняздом зязюлі" паводле рамана Кэна Кізі. Згодна з палажэннем аб прэміі, лаўрэаты могуць расходаваць яе грашовую частку на пастаноўку новага спектакля або на развіццё тэатра.

✔ Міжнародны маладзёжны навуковы форум прайшоў у Мінску. У яго межах адбыўся форум праектаў INMAX'12, форум студэнтаў і навучэнцаў "Першы крок у навуку — 2012", міжнародная канферэнцыя маладых вучоных "Моладзь у навуцы — 2012". Мерапрыемствы, у якіх узялі ўдзел беларусы, расіяне, украінцы і казахі, ахоплівалі ўсе кірункі навуковых ведаў, у тым ліку гуманітарныя навукі і мастацтва.

✔ Шаснаццаць аўтапартрэтаў беларускіх дзяцей, прызнаных лепшымі па выніках рэспубліканскага конкурсу дзіцячага малюнка "Мой партрэт для музея", прадставяць у штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы падчас Дзён славянскай культуры, якія пройдуць з 10 па 16 мая пад эгідай Форуму славянскіх культур. Аўтары малюнкаў будуць узнагароджаны дыпломамі Беларускай Асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА.

✔ Знойдзена першапачатковае месцазнаходжанне аднаго з самых старажытных манастыроў у Беларусі — Лаўрышаўскага. Гэта ўстанавіў падчас раскопак доктар гістарычных навук, прафесар кафедры гісторыі Беларусі і паліталогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Сяргей Рассадзін. Цяпер у Свята-Елісееўскім Лаўрышаўскім мужчынскім манастыры плануецца адкрыць археалагічны музей.

Падрыхтавала **Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Знайсці паразуменне

**Прадстаўнікі Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі на чале са старшынёй Уладзімірам Гаўрыловічам сустрэліся са старшынёй Гомельскага аблвыканкама Уладзімірам Дворнікам.**

**Дзяніс ІВАНОЎ, фота аўтара**

Уладзімір Гаўрыловіч распавёў пра творчыя справы пісьменніцкай арганізацыі, якая з абласных з'яўляецца самай вялікай. На працягу апошніх некалькіх гадоў аддзяленне ажыццявіла шэраг выдавецкіх праектаў. Так, з'явілася больш як 90 новых кніг, выдаецца ўласны літаратурны альманах, заснавана спецыяльная серыя "Бібліятэка ГА «СПБ»", у якой выйшла 7 кніг.

— Мы павінны арыентавацца на ўдумлівага, разумнага і цікаўнага чытача, — падкрэсліў старшыня абласнога аддзялення.

Пры падтрымцы ўпраўлення культуры аблвыканкама пісьменнікі плануюць часцей завітваць у глыбінку: адзін-два разы на месяц выязджаць у раёны на творчыя сустрэчы.

Мазырскі паэт Аляксандр Каляда звярнуўся да губернатара з просьбай падтрымаць маладых аўтараў і членаў СПБ, што сталі пераможцамі рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, пісьменнікаў-юбіляраў. Пазіцыя кіраўніка вобласці ў гэтым плане супала з меркаваннямі творцаў: будзе прадумана магчымасць прыняцця выдавецкай праграмы.

Пра павышэнне статусу абласнога літаратурнага конкурсу імя Кірылы Тураўскага, які праводзіцца ўжо пяць гадоў запар, рупіўся гомельскі паэт Міхась Болсун. Гэтая прапанова таксама была падтрымана Уладзімірам Дворнікам.

На сустрэчы пісьменнікі выказвалі занепакоенасць адсутнасцю ў рэпертуарах гомельскіх тэатраў пастановак па п'есах мясцовых драматургаў, хаця ў іншых тэатрах краіны іх спектаклі ідуць.

Падчас завяршэння размовы Уладзімір Гаўрыловіч уручыў кіраўніку вобласці бібліятэчку новых выданняў пісьменнікаў Гомельшчыны. Ад імя пачынаючых аўтараў студэнтка філфака Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны Надзея Філон выказала словы ўдзячнасці за падтрымку маладых пісьменнікаў і падаравала Уладзіміру Дворніку сваю першую кнігу "Кроплі святла", што пабачыла свет дзякуючы падтрымцы Саюза пісьменнікаў Беларусі.



*Напярэдадні сустрэчы Уладзімір Гаўрыловіч і Уладзімір Дворнік наведалі музей рэдкай кнігі пры Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна.*

## Памяць

# Рэха вайны

**15 — 17 мая ў Мінску адбудзецца IV міжнародны кангрэс "Знішчаныя ў Другой сусветнай вайне гарады і вёскі Еўропы".**

**Уладзімір ЗАЛУЖНЫ**

Такі форум праводзіцца па ініцыятыве Германіі раз на два гады. Гісторыкі, палітолагі, юрысты, эканамісты, а таксама сведкі трагедый абмяркоўваюць пытанні захавання міру і папярэджання ваенных канфліктаў. Месцам правядзення сёлетняга кангрэса Беларусь выбрана невыпадкова. Вялікая Айчынная вайна прынесла нашай рэспубліцы вялізныя страты, загінуў кожны трэці яе жыхар. Тут свята захоўваюць памяць пра герояў вайны і ахвяр фашызму.

На прэс-канферэнцыі, што адбылася на гэтым тыдні, ішла гутарка пра падрыхтоўку да форуму. Першы прарэктар Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Аляксандр Іваноўскі, дырэктар музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Сяргей Азаронак, каардынатар кангрэса ад беларускага бокуЛарыса Каткова, загадчык аддзела Рэспубліканскага цэнтра турызму і краязнаўства Міністэрства адукацыі Ірына Пятровіч паведамілі журналістам, што ўдзел у рабоце кангрэса пацвердзілі ўжо 10 краін, паступіла больш як 80 заявак, палова з якіх — з краін Заходняй Еўропы і бліжняга замежжа. У рамках форуму пройдзе міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Грамадзянскае насельніцтва ў вайне", на якой будуць абмеркаваны пытанні ўзаемаразумення і мірнага суіснавання народаў.

Падчас работы секцыі "Моладзь і дзеці ў час Другой сусветнай вайны" адбудзецца ўзнагароджанне лаўрэатаў аднайменнага конкурса на лепшы малюнак, літаратурны або мультымедыйны праект.

## Віншуем

# «Маладая Беларусь»: новыя імёны

**Саюз пісьменнікаў Беларусі падвёў вынікі літаратурнага конкурсу 2011 года "Маладая Беларусь", удзел у якім прынялі пяцьдзясят чатыры прэтэндэнты. Конкурс праходзіў па чатырох намінацыях: "Проза", "Паэзія", "Дзіцячая літаратура", "Драматургія". У журы, якое мусіла ацаніць вартасці дасланых твораў, увайшлі такія вядомыя пісьменнікі, як Георгій Марчук, Уладзімір Мазго, Уладзімір Кулічэнка, Анатоль Андрэеў. У якасці старшыні журы выступіў першы сакратар праўлення СПБ Генадзь Пашкоў.**

У паэтычным жанры вызначылася Алена Бейдук. Яна атрымала Дыплом I ступені. Другое месца было прысуджана вершам Таццяны Рудакоўскай, трэцяй стала юная паэтка Алена Массэ. У празаікаў месцы размеркаваліся наступным чынам: Дыплом I ступені — Сяргей Сугак, Дыплом II ступені — Наталля Трызна і Дыплом III ступені — Алена Серыкава. У намінацыі "Драматургія" трэцяе месца не прысуджалася. Першай стала Алена Мінчукова, другой — Наталля Трызна. Таксама двух пераможцаў вылучылі ў намінацыі "Дзіцячая літаратура": лепшай была прызнана Таццяна Дземідовіч, другое месца аддадзена Алене Кісель. Акрамя гэтага шэсць маладых аўтараў атрымаюць граматы.

Дадатковым бонусам для таленавітых маладых людзей стане публікацыя іх твораў у літаратурных часопісах.

**Паліна ПРЫГОДЗІНА**

## Конкурсы

# У памяць пра герояў 1812 года

**Магілёўскае грамадскае аб'яднанне "Рускае культурна-асветніцкае таварыства" пры падтрымцы факультэта славянскай філалогіі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова, Магілёўскага патрыятычнага пошукавага клуба "Віккру" і газеты "Веснік Магілёва" абвясціла літаратурны конкурс "Далёкому мужеству верность храня…", прысвечаны 200-годдзю перамогі ў Айчыннай вайне 1812 года. Старшыня "Рускага культурна-асветніцкага таварыства" Людміла Валадзько расказвае пра ўмовы конкурсу.**

**— Людміла Аляксандраўна, чарговы літаратурны конкурс, абвешчаны ў Беларусі. Безумоўна, з мэтай вызначыць айчынны творчы патэнцыял, узбагаціць сучасную літаратуру новымі імёнамі, дый проста скіраваць цікавасць людзей да юбілейнай даты, да падзеі, вартай увасаблення ў літаратурных творах. Ці ёсць нейкія адметнасці, асаблівасці конкурсу?**

— Па-першае, у конкурсе возьмуць удзел аўтары не толькі з Беларусі, але і з Расіі. Ва ўсялякім выпадку з тых гарадоў, з якімі Магілёў мае трывалыя культурныя сувязі — Смаленска, Бранска, Тулы, Курска. Па-другое, конкурс праводзіцца выключна для рускамоўных аўтараў. Па-трэцяе, хаця ў палажэнні гэта спецыяльна не акрэслена, аднак скіраваны ён не на прафесіяналаў. Мы разлічваем на ўдзел перш за ўсё маладых аўтараў, якія шукаюць магчымасць нейкім чынам заявіць пра сябе.

**— Аднак, мы ведаем, спаборніцтва плануецца праводзіць у розных узроставых групах.**

— Скажам так, у літаратуру людзі не заўжды прыходзяць юнымі, таму панятак "пачатковец" можа быць выкарыстаны і для чалавека сталага ўзросту.

**— Якія па жанры творы чакаюцца на конкурс?**

— У нас дзве намінацыі — "Паэзія" і "Малая проза". Паэты могуць даслаць да трох вершаў, празаікі — адзін твор. Аб'ём — не больш як тры камп'ютарныя старонкі 12-м шрыфтам. Тэрмін прыняцця твораў на конкурс — да 30 мая 2012 года.

**— "Малая проза" — гэта навела, апавяданне?**

— Мы акрэслілі жанр як літаратурна-гістарычнае эсэ. Проста падаецца малаверагодным, што пачатковец, якім бы таленавітым ён ні быў, здолее сабраць усе дэталі і рэаліі такога далёкага ад нас часу, каб стварыць паўнавартаснае гістарычнае апавяданне. Аднак ён можа, узяўшы ў памочнікі адпаведную даведачную літаратуру, ярка і прыгожа апісаць свае пачуцці і стаўленне да таго ці іншага эпізоду вайны 1812 года, герояў тых падзей. Прыкладныя тэмы творчых прац, якія мы разлічваем атрымаць: "Дарогамі вайны 1812 года", "Айчынная вайна 1812 года — у лёсах маіх землякоў", "Магілёўскі край перыяду Айчыннай вайны 1812 года", "Любімы герой Айчыннай вайны 1812 года".

**— Калі ж будуць падведзены вынікі конкурсу?**

— Узнагароджанне пераможцаў будзе прымеркавана да 11 ліпеня — святкавання ў Магілёве 200-годдзя перамогі ў вайне 1812 года.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

*Літабсягі*

# Між Паэзіяй і Навукай

**Вядомы беларускі вучоны, літаратуразнаўца, крытык, педагог і паэт Валерый Максімовіч сабраў калег і прыхільнікаў у Доме літаратара на вечарыну, прысвечаную свайму 50-годдзю.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА



Калі аўтар шматлікіх навуковых прац і дапаможнікаў для студэнтаў, доктар навук, лаўрэат прэміі НАН Беларусі на паверку аказваецца яшчэ і паэтам, — гэта сапраўды здзіўляе. Бо паэзія ў свядомасці многіх — сімвал вольнасці, непрыняцця рамак і абмежаванняў. А выкладчыцкая, навуковая дзейнасць патрабуюць арганізаванасці, акрэсленасці, дакладнасці. Аднак спалучэнне строгай навукі і летуценных паэтычных вобразаў на справе аказваюцца карыснымі не толькі для асобы, але і для асяроддзя. Бо ў выніку нараджаецца незвычайна творчы даследчык і адказны паэт. Такі, як Валерый Максімовіч. Асаблівасць яго творчага "я" была адчувальная і на самой арганізацыі вечарыны — пазбаўленай усяго неабавязковага, старанна падрыхтаванай, насычанай і цікавай.

Распачалася яна з прадстаўлення юбіляра. Праектар высвечваў фотаздымкі з сямейнага архіва, і паўставаў перад прысутнымі добры чалавек, надзейны таварыш, адказны супрацоўнік, апантаны даследчык, натхнёны творца…

Пра Максімовіча-літаратуразнаўцу, аўтара выдатных навуковых прац, прысвечаных педагогіцы і эстэтыцы айчыннай літаратуры, красамоўна распавяла доктар філалагічных навук, прафесар Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Зоя Мельнікава. Прафесар Аляксандр Каваленя, дырэктар Інстытута філасофіі НАН Беларусі, дзе два апошнія гады працуе юбіляр, ахарактарызаваў Валерыя Аляксандравіча як адказнага супрацоўніка і добразычлівага калегу. Доктар філалагічных навук, прафесар Таццяна Шамякіна, якая памятае юбіляра яшчэ студэнтам, што актыўна браў удзел у студэнцкай самадзейнасці, віртуозна перавяла размову ў творчае рэчышча, згадаўшы пра выхад першага паэтычнага зборніка Максімовіча "Мяцежнай споведзі скрыжалі". Пасля чаго старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў цалкам засяродзіўся на лірыцы В. Максімовіча, назваўшы, між іншым, аўтара паэтам-філосафам, паэтам-грамадзянінам, "паэтам зямлі і нябёсаў".

Адчуць у поўнай меры цеплыню зямлі і празрыстую вышыню нябёсаў далі магчымасць заслужаная артыстка Беларусі Тамара Нікалаева, артыст і рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі, якія аздобілі вечарыну чытаннем вершаў В. Максімовіча. Тое ж, як добра кладуцца паэтычныя радкі юбіляра на музыку, зала зразумела падчас выканання песень на словы Валерыя Аляксандравіча салістам Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры" Алегам Жалезняковым.

*Артлінія*

# Цуды пэчварку

**Амаль сорак непаўторных твораў, выкананых у тэхніцы "пэчварк", убачылі наведвальнікі мастацкай галерэі "З'ява" Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева на выстаўцы "Лапікавая мазаіка". Гледачы дакрануліся да прыгожага і захапляльнага мастацтва, вытокі якога сягаюць углыб стагоддзяў. А прывялі ў захапляльны свет гарэзлівых лапікаў творы сапраўднага майстра пэчварку — Валянціны Жыткевіч, кіраўніка народнай студыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва мінскага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў, ды яе студыйцаў.**

Святлана ШВАЙБОВІЧ

На выстаўцы прадстаўленыя мастацкая вопратка, дываны, пано і коўдры, выкананыя ў тэхніках "дровы", "вітраж", "соты" ды іншых. Паводле слоў спадарыні Валянціны, на сёння студыя, кіраўніком якой яна з'яўляецца, не можа змясціць у сваіх сценах усіх, хто хоча авалодаць сакрэтамі вырабу мастацкіх твораў з маленькіх лапікаў тканіны. Гэта выключна захапляльны занятак, што дае неабсяжную прастору для фантазіі. Авалодаць тэхнікай пэчварку не так і складана, дастаткова ведаць самыя простыя прыёмы шыцця. Яны даюць волю ўласнаму натхненню і дазваляюць ствараць мноства камбінацый як па форме, так і па спалучэннях колераў. У наш час наяўнасць велізарнага выбару матэрыялаў, формаў і тэхналогій спрыяе ўвасабленню самых неверагодных творчых задумак.

Безумоўна, для сапраўднай творчасці неабходна засвоіць шматлікія тэхнічныя прыёмы, таму толькі з набыццём доследу магчыма спасцігнуць гармонію гэтага мастацтва і атрымаць статус майстра.

Калі знянацку адчыняеш дзверы галерэі і робіш першы крок насустрач цудоўнаму свету пад назвай "пэчварк", нібы перадольваеш мяжу рэальнасці і мрояў, трапляеш у стыхію бязмежнай фантазіі мінскіх майстрых. Міжволі згадваеш такую прыпавесць. Прыйшла да мудрага старога жанчына і кажа: "Ні ў чым я не мела патрэбы за сваё жыццё, але як запыталася, навошта мне ўсё гэта, — жыццё маё распалася на дробныя кавалкі... Што ж рабіць мне?" І параіў ёй стары наноў сшыць сваё жыццё. Пайшла жанчына, поўная сумневу ды роспачы, але ўзяла ў рукі іголку ды прышыла лапік сваёй роспачы да кавалачка блакітнага неба, што бачыла ў акенцы. Побач заліўся звонкім смехам маленькі ўнук — яна прышыла кавалак яго смеху да свайго сувою. Так і надалей пайшло: зашчабеча птушка — і яшчэ адзін лапік дадаецца, нагорнуцца слёзы на вочы — з'явіцца чарговы. Потым гэты чароўны сувой даў жыццё коўдрачкам, сурвэткам, падушкам, адзенню ды шматлікім дробязям. І кожны чалавек, да якога траплялі гэтыя рэчы, адчуваў цяпло, што сагравала, пазбаўляла самоты і напаўняла жыццё радасцю.

"Лапікавая мазаіка" нібыта выпраменьвае пяшчоту. Кожны выраб нясе невытлумачальную прыцягальнасць і захапляе гармоніяй гэтага эмацыйнага і разнастайнага мастацтва.



*Пано "Певень".*

*Повязі*

# Вучэнне пра талерантнасць

Ірына СЛАНІМСКАЯ,
фота Алены Емяльян

**У Мінску адбылася прэзентацыя манаграфіі "Социально-философские аспекты учения Ф. Гюлена: взгляд белорусских учёных", якая выйшла ў выдавецтве "Беларуская навука". Гэта сумесны праект грамадскага аб'яднання "Дыялог Еўразія" і факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ.**



*Пісьменнік і навуковец Сяргей Трахімёнак — адзін з аўтараў манаграфіі — абмяркоўвае кнігу з намеснікам дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Алай Корбут.*

Вучэнне турэцкага мысліцеля і гуманіста Фетхулаха Гюлена захапіла многіх людзей: мусульман, хрысціян, іўдзеяў, будыстаў. Як туркаў, так і прадстаўнікоў іншых народаў і культур. Нарадзіўшыся ў краіне, мінулае якой было азмрочана праявамі экстрэмізму ў адносінах да іншаверцаў, Гюлен скіраваў сваё вучэнне да талерантнасці, дыялогу, абвяшчэння жыцця галоўнай чалавечай каштоўнасцю. Інакш чым патрэбамі нашага часу, стомленага ад войнаў, усобіц, праяўленняў агрэсіі, гэта і не вытлумачыць.

Грамадская арганізацыя "Дыялог Еўразія", якая мае на мэце знаёмства з вучэннем Гюлена як мага большай колькасці людзей у розных краінах свету, некалькі гадоў таму актыўна заявіла пра сябе і ў Беларусі. Вынікам узаемадзеяння гэтай арганізацыі з творчай і навуковай элітай нашай краіны стаў цэлы шэраг асветніцкіх мерапрыемстваў, сярод якіх "круглыя сталы", канферэнцыі, сустрэчы, абмеркаванні, паездкі, пераклад з рускай на турэцкую і з турэцкай на рускую мову кніг, форумы, дабрачынныя акцыі.

Манаграфія, прысвечаная вучэнню Гюлена, аснову якой склалі артыкулы беларускіх навукоўцаў, без перабольшання, унікальная. Яна паказвае філасофію выдатнага чалавека ў розных ракурсах: асобна ад рэчаіснасці, у дачыненні да вялікай палітыкі і ў спалучэнні са звычайнымі маральна-этычнымі нормамі, у рэлігійнай афарбоўцы і ў касмапалітычным гучанні. Мова прац Гюлена, энергетыка яго выступленняў, харызматычнасць яго асобы адчуваюцца праз тэксты, напісаныя рознымі даследчыкамі.

Аўтары кнігі падчас прэзентацыі гаварылі пра сваю ўдзячнасць Гюлену як пачынальніку новай сучаснай філасофіі міжцывілізацыйных узаемадносін. Дырэктар жа прадстаўніцтва грамадскага аб'яднання "Дыялог Еўразія" ў Беларусі Іхсан Дылекчы шмат добрых слоў выказаў на адрас нашых навукоўцаў і прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, з якімі было лёгка наладзіць дыялог, у тым ліку і дзякуючы духоўным традыцыям беларускага народа.

*З-пад пяра*

➤ Кітайская тэматыка стала прапісалася на старонках "ЛіМа". Гэта было адзначана і падчас "круглага стала" "Беларуска-кітайскі культурны дыялог", які адбыўся на філалагічным факультэце БДУ. Вітаючы яго ўдзельнікаў, сакратар аддзела адукацыі Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Мэй Ханьчэн падкрэсліў, што апошнім часам стасункі паміж нашымі дзяржавамі пашыраюцца не толькі ў рэчышчы эканомікі і палітыкі, але і ў галіне адукацыі ды культуры, тым больш што сёння, і гэта засведчыў дэкан факультэта прафесар Іван Роўда, "патрэба ва ўзаемадносінах выклікае патрэбу ў спецыялістах". Удзельнікі "круглага стала" параўналі адметнасці кітайскай і беларускай традыцыйнай культуры, больш даведаліся пра дасягненні кітайскай цывілізацыі і ў чарговы раз упэўніліся ў духоўнай блізкасці нашых краін.

Таццяна СІВЕЦ

➤ 60-годдзю пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзіміра Глушакова была прысвечана творчая вечарына, якая адбылася ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. З віншаваннямі, ацэнкай творчасці калегі, добрымі пажаданнямі выступілі пісьменнікі Георгій Марчук, Васіль Шырко, Анатоль Разановіч. Музычны падарунак падрыхтавала паэтка-песенніца Аліна Легастаева. Прагучалі мініяцюры Уладзіміра Глушакова ў выкананні актрысы Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы Тамары Нікалаевай. Сюрпрызам стала выступленне ансамбля пад кіраўніцтвам вядомага фалькларыста Міколы Котава. Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў уручыў юбіляру дыплом саюза і ганаровую грамату Мінскага абласнога аддзялення.

Таіса ГУРКО

➤ Беларускія абшчыны Малдовы запланавалі шэраг навуковых і культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў, прысвечаных 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Нашы суайчыннікі таксама шырока святкуюць у гэтым годзе 100-годдзе Максіма Танка, 85-годдзе Алеся Адамовіча, 120-годдзе Рыгора Шырмы, 125-годдзе Марка Шагала, 140-годдзе Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, 90-годдзе Міхаіла Савіцкага і 495-годдзе з пачатку выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны. Беларускія абшчыны Малдовы займаюцца нястомнай папулярызацыяй айчыннай кнігі, падтрымліваючы культурныя і творчыя сувязі з Саюзам пісьменнікаў Беларусі і беларускім саюзам мастакоў.

Аляксей ГАРБУНОЎ

➤ Студэнцкі хор Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта вярнуўся з чатырохдзённай вандроўкі ў літоўскі горад Каўнас з залатым дыпломам Міжнароднага фестывалю-конкурсу харавых калектываў "Рэлігійная музыка Каўнаса" ў намінацыі "Праваслаўная духоўная музыка". У знак падзякі за аказаную дапамогу ў арганізацыі гэтай незабыўнай паездкі харысты адразу пасля вяртання выканалі новы твор са свайго рэпертуару пад назвай "Музыка", ноты якога яны прывезлі з Літвы.

Вераніка БІВЕЙНІС

**Іван САВЕРЧАНКА,**
**доктар філалагічных навук**

# Каб прыгрэла сонца

**Ядвігін Ш. — бліскучы майстар сімваліка-алегарычных апавяданняў і прытчаў, якіх ён стварыў цэлую нізку. Усе яны — выдатны ўзор нацыянальнай прозы, яркі літаратурны шэдэўр.**

Апавяданне "Падласенькі" — сатыра на сялянскіх дзяцей, якіх бацькі выправілі ў горад па навуку, а яны там выракліся ўсяго роднага, пачалі малпаваць чужыя норавы і гаварыць на чужой мове. Вол Падласы ахвяраваўся ўласнай скурай, каб выдаткаваць дзесяць рублёў на навучанне сынка Падласенькага, нават жонку Красулю ўпрошваў прадаць уласную скуру, каб дапамагчы сынку. А калі той прыехаў да бацькоў, дык яны са здзіўленнем убачылі, што ён стаў зусім іншым, чужым: "Не мычыць, а рохкаць стаў". Замест удзячнасці бацькам сынок пачаў патрабаваць з іх новых ахвяр: "Зараўлі з жалю Красуля і Падласы, але сынок скора іх усцешыў: "Гэта я, — кажа, — толькі так — да часу, а калі хочаце, каб саўсім стаўся чалавекам, то на навуку не адну, а тры скуры спусціце…"

На старонках алегарычнага апавядання "Сакатушка" пісьменнік асуджае тых жанчын-сакатушак, якія пакідаюць уласны дом без догляду, імкнучыся адшукаць шчасце ў далёкім свеце.

Апавяданне "Павук" — бязлітасная крытыка пісьменніка на класавае расслаенне грамадства. Ядвігін Ш. паказвае непрымірымы антаганізм паміж багатымі і беднымі, паміж "павукамі" і "мухамі". Спробы ахвяр пагражаць крывасмокам, на думку пісьменніка, хоць і сведчаць пра іх смеласць, аднак не прыводзяць да жаданых вынікаў. Наадварот, павукі-крывасмокі, пачуўшы пагрозы, у адказ удасканальваюць сістэму падаўлення супраціву, шматкроць павялічваюць колькасць "сетак"-нератаў для лоўлі спажывы: "Не спаў гэтай ночы павук, а назаўтра, надумаўшыся, зрабіў і наставіў новых яшчэ дзесяць сетак…"

У філасофскай алегорыі "Дуб-дзядуля" Ядвігін Ш. выказвае веру ў адраджэнне Беларусі, росквіт новага жыцця на беларускіх абшарах. Галоўны вобраз — Дуб-дзядуля, які з'яўляецца сімвалам Бацькаўшчыны, самабытнага народа, моцнага і велічнага, адметнага сярод суседзяў. У апавяданні выявіліся элементы пісьменніцкага неапантэізму. Дуб-дзядуля размаўляе з лірычным героем, разважае пра акаляючы свет, дае ацэнкі "суседзям". Моцнае, разгалістае і мудрае дрэва прамаўляе: "Так вякі ішлі, аж мінула ўсё, — аж прыйшло і на тое, што з тутэйшых — даўнейшых астаўся, як відзіш, адзін я. Праўда, ось глянь на захад: бачыш цёмную паласу? Але што гэта за лес? Хударлявы, крывы, увесь у суках — гніль нейкая, дый толькі. Глянь на ўсход — прыслухайся да шуму гэнага лесу… Чуў ты калі шум здаровага, крэпкага дрэва? Не, не! Не гэтак шуміць здаровы лес! А чаму ён так шуміць? Бо змарыўся, ніколі перадышкі не мае, гэтак і згінуць мусіць… Паглядзі на поўнач: чы бачыў ты калі такое дзіва? Такі гонкі, такі крэпкі здалёку выдае лес, а ўважай, як яго гойдае ва ўсе бакі: то да зямлі прыгне, то крыху адпусце, — здаецца, і вецер невялікі, а пень выпрастацца не можа… Цяпер глянь на мяне: пастухі бок асмалілі, людзі кару аскраблі, колькі-то сукоў павыразалі? Лісты, жалуды — і тыя штогод падбіраюць; усё, каб толькі сабе карысць мець; а чы падумалі, што стары ўжо я, пакалечаны, век дажываю, а ніводзін жалудок мой не ўзрос…" У маналогу Дуба-дзядулі празрыста праглядаецца прынцыповая грамадская пазіцыя пісьменніка, яго разуменне адметнага месца Беларусі і беларусаў у супольнасці еўрапейскіх народаў.

Нягледзячы на цяжкое становішча, у якім апынуўся народ, пананванне на Беларусі толькі Працы, Бяды і Цярпення, пісьменнік застаецца аптымістам. Калі Дуб-дзядуля заканчвае свой век, на яго месцы, пасля таго "як бура прайшла, як пяруны сталі біць", выраслі тры роўныя дубочкі, што сімвалізавалі абнаўленне, пачатак новага жыцця.

Прыхаваная сатыра на царскае самаўладдзе прысутнічае ў апавяданні-алегорыі "Вяселле". Пісьменнік паказвае, што валадары-драпежнікі ніколі не прызнаюць іншых роўнымі сабе. Каршуны могуць сесці за адзін вясельны стол з іншымі птахамі толькі тады, калі тыя будуць на патэльнях, у якасці спажывы для іх. "Вяселле" заканчваецца празрыстай высновай апавядальніка: "А ткі каршуніха справіла вяселле сваёй дачцэ як мае быць! І не дасцё веры: былі там цецярук, дрозд, усе другія, толькі не ў гасцях, а… на скаварадзе!"

У прытчы "Чалавек" пісьменнік звяртаецца да душы чалавека, падкрэслівае дзіўную непрадказальнасць паводзін людзей, загадкавасць жаданняў і памкненняў кожнай асобы.

Як бачна, у навелах-алегорыях і прытчах Ядвігіна Ш. арганічна спалучаліся высокая мастацкасць і далікатная павучальнасць, спрошчанасць вобразаў і філасофская заглыбленасць, тонкі гумар і бязлітасная сатыра.

Ядвігін Ш. пакінуў значную мемуарную спадчыну. Надзвычай каштоўныя ў мастацкім плане "Лісты з дарогі" (1910), у якіх паказаны побыт і звычаі беларускіх сялян, з замілаваннем распавядаецца пра прыгожыя краявіды роднай зямлі. З асаблівай прыемнасцю пісьменнік адзначае кемлівасць і незвычайную працавітасць простых вяскоўцаў: "Беларускі мужык дасканала знае сваю зямлю і вырабляе яе так, як толькі можна вырабіць на шнуры, дзе і з бараной трудна звярнуцца". Галоўная ўмова паляпшэння дабрабыту простага чалавека, на думку пісьменніка, — яго адукаванасць і належныя ўмовы для вольнай працы.

Кранальныя ўспаміны пра часы навучання ў Люцынцы, пра першую настаўніцу, дачку Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, а таксама пра самога класіка нацыянальнай літаратуры. Ядвігін Ш. адзначае спрыяльную для выхавання атмасферу і панаванне духу сапраўднай творчасці ў доме Марцінкевіча: "Памятаю я і Люцынку, і яе гаспадара: старэнькі ўжо тады быў, але надта добры, вясёлы і жартаўлівы. Памятаю і вялікі куфар, куды хаваў ён сваё пісанне, паўнюсенькі быў, але мала выйшла гэтага пісання адтуль у свет… Любілі яны нас — чулі гэта нашыя дзіцячыя душачкі, ды і мы іх з усяго сэрца кахалі, шанавалі, як родных бацькоў. На кожны важнейшы, бывала, дзень — нябожчык пісаў для нас усіх — дзяцей якую-колечы камедыю, мы яе вучылі, з'язджаліся госці, і ішло прадстаўленне".

Выключную радасць у пісьменніка выклікала прыгажосць беларускай мовы, яе натуральнае гучанне: "Аж міла было слухаць: гутарка яе, як вада, плыве, словы зычныя, і мяккія, і плывучыя, і спеўныя". Разважанні пісьменніка-інтэлектуала пра мову і яе вартасці перараслі ў філасофскія падсумаванні пра адказнасць кожнага грамадзяніна перад краінай і яе народам: "Дык не чурацца, не заракацца трэба гэтага народа, а ісці на сустрэчу яго жаданням, яго думкам. Хай кожны, каму дораг свой родны край, загляне хоць у бліжэйшыя вёскі, загляне пад падгнішыя стрэхі хатак, хай дзеліцца сваімі думкамі, радамі, вестачкамі, а пэўне сустрэне там прыхільнасць… Хай кожны свядомы чалавек ідзе паміж гэтага народа і запальвае паміж яго светач навукі, свядомасці, справядлівасці і гэткім парадкам сплачвае хоць частку таго доўгу, які ён зацягнуў перад роднай старонкай, каторая ўскалыхала і ўзгадавала яго!"

Выдатны твор мемуарнага жанру Ядвігіна Ш. — "Успаміны" (1921), дзе раскрываецца дзейнасць беларускіх студэнцкіх зямляцтваў у Маскве, фарміраванне і сталенне беларускіх суполак, якія паступова набывалі абрысы нацыянальнага руху.

Ва "Успамінах" Ядвігін Ш. акцэнтаваў увагу на падзеях студэнцкіх выступленняў у Маскве. Майстар слова намаляваў яркія сцэны арыштаў студэнтаў, утрымання іх пад вартай. Палітычныя выступленні, як паказаў пісьменнік, трагічна адбіліся на лёсах маладых людзей. Пятроўска-Разумоўскую акадэмію ўлады скасавалі, навучэнцаў разагналі па іншых універсітэтах, а некаторых наогул пазбавілі права працягваць навучанне. Ключавы эпізод "Успамінаў" — расповед пра яднанне беларускіх студэнтаў у адзіную арганізацыю і іх планы "тварыць Беларускае друкаванае слова".

Буйны эпічны твор Ядвігіна Ш. раман "Золата" (1920) мае даволі распрацаваны дэтэктыўна-прыгодніцкі сюжэт. Стрыжнявая філасофская сентэнцыя — непазбежнасць пакарання за ўчыненае злачынства. Пісьменнік стварыў яркія вобразы вясковай моладзі — Зосі Строньчык, Алёксы Гуронка, Васіля Дубінскага.

Ядвігін Ш. — выдатны нацыянальны паэт, аўтар паэмы "Дзед Завала" (1909). Герой яе — звычайны селянін, які ва ўласнасці мае хаціну, крытую саломай, ды адрынку, а з рэчаў — лаву, міску і дзве лыжкі. У дзеда Завалы няма схільнасці гаспадарыць, ён больш ахвочы да палявання, чым і займаецца амаль увесь час. Але ён жыве напружаным духоўным жыццём, у адрозненне ад іншых людзей, разважае пра праўду і справядлівасць. Дзед Завала мае таемныя думкі, якія можа даверыць толькі пушчы. На старонках паэмы выразна выявіўся пантэізм Ядвігіна Ш. Яго герой жыве ў поўным суладдзі з прыродай, атаясамліваецца з ёй, чуе ўсе яе галасы.

У паэме "Дзед Завала" Ядвігін Ш. — тонкі лірык, цудоўны паэт-пейзажыст. Ён стварае выдатныя замалёўкі мілых сэрцу краявідаў. Яго арнітагалічныя назіранні надзвычай яркія і дакладныя. Паэт уражаны песняй глушца, таму старанна занатоўвае паводзіны дзіўнага птаха.

Не абмінае творца і сацыяльнай праблематыкі, рэалій часу. На старонках паэмы ён паказвае зараджэнне класавай барацьбы, пашырэнне ўзброенага змагання за "волю", узрастанне варажнечы паміж людзьмі, вынікам якой сталася мноства смерцяў:

*Даўно было гэта.*
*Хадзіць чуткі сталі,*
*Аб вялікай волі*
*Ўсе заталкавалі.*
*Многа гаварылі,*
*Што загляне сонца*
*(Толькі памажэце!)*
*У ваша ваконца.*
*Народ йшоў у пушчу*
*Па долю другую, —*
*Пайшоў і Завала*
*Шукаць яснасць тую.*
*І пайшла ўзрастаці*
*Магіла к магіле…*
*Ваўкі з гаргунамі*
*Костачкі дзялілі.*
*Свайго свой пужаўся*
*У сваёй староньцы…*
*І, хоць паднялося,*
*Не прыгрэла сонца!*

У паэме "Дзед Завала" выразна выявіліся элементы сімвалісцкай эстэтыкі. Сонца — гэта новае і заможнае жыццё. Шум лесу нагадвае "долю і нядолю", "ціхі крык" абяздоленых і "плач сіроткі".

Такім чынам, Ядвігін Ш. надзвычай карэктна сфармуляваў фундаментальныя канцэпты нацыянальнай эстэтыкі, дакладна вызначыў магістральны кірунак развіцця айчыннай мастацкай культуры, істотна пашырыў жанравыя і ідэйна-тэматычныя гарызонты беларускай прозы і паэзіі.

**Алег САЛТУК**

# Журлівіца ягонага лёсу

Назваў гэтай невядомай птушкі добры беларускі паэт і мой сябра Эдуард Зубрыцкі назваў адну са сваіх паэтычных кніг.

А іх у яго, асабліва ў апошнія гады наканаванага лёсам жыцця, было нямала. Менавіта ў апошнія. Чаму так сталася, адказаць няпроста. Можна толькі здзіўляцца, што членам нашага творчага саюза ён стаў толькі напрыканцы свайго жыцця.

Помню ноч перад установчым з'ездам новага Саюза пісьменнікаў Беларусі. Тады мы з негаваркім, засяроджаным у сабе земляком прагаварылі доўга. Чыталі новыя вершы, дзяліліся ўражаннямі ад сваёй працы, балазе, яна была тады газетнай і ў яго, і ў мяне. Успаміналі пра родныя куткі, бацькоў, дзяцей ды і ўнукаў усё. Пра каханне не гаварылі. Я ведаў, што ў Эдзіка памерла жонка, якую ён, мяркуючы па многіх вершах, вельмі шанаваў і шкадаваў. Не адказаў ён мне тады, чаму доўга не пісаў. Хаця можна было здагадацца, што пісаў заўсёды, толькі не друкаваўся шырока і зусім не выдаваўся.

Недзе яшчэ ў шасцідзясятых гадах прозвішча Зубрыцкага было на старонках часопіса "Маладосць" над паэмай "Суэма". Але з часу выдання першага зборніка вершаў "Блакітныя казкі" да членства ў пісьменніцкім саюзе прайшло трыццаць гадоў! Пішу і думаю: вось бывае сёння паэт ці празаік — ніхто пра яго нічога не ведаў, бо не чытаў, і на табе — ужо размахвае членскім білетам і лезе на разнастайныя трыбуны, часта непажаданы і няпрошаны...

А ў паэзіі Эдурда Зубрыцкага — багацце дум і пачуццяў, імгненні і цэлая вечнасць. Яго вершы, балады, паэмы палоняць чысцінёй, вышынёй, глыбінёй, радасцю жыцця:

*На золку лiўневым прачнуся —*
*Ах, колькі мудрага святла?*
*Душа, што білася у скрусе,*
*Як быццам, зноўку ажыла.*

Кожны дзень паэт прачынаўся для радасці, любві-любові, да слёз і смеху. На вялікі жаль, скрухі хапала з краем: страта вернай сяброўкі, неразуменне, здавалася б, самых блізкіх людзей, нават сваіх сямейнікаў, калег-журналістаў. "Ведаеш, — часта званічны мне ў "Віцебскі рабочы", дзяліўся ён, — зноў пад'ялдыкваюць, зноў хаханькі-хіханькі наконт майго прыёму ў саюз, што кніжак навыдаваў. Прыкра і не даказаць, чаму я так, а не іншы. Паганая рэч — зайздрасць. Ці зайздросціў я тады, калі мае калегі падымаліся вышэй за мяне па службовай лесвіцы? Не, пісаў і ўсё".

Вось у гэтым "пісаў і ўсё" — уся сутнасць паэта і чалавека. Яму не да хціваcці творчай, зайздрасці мяшчанскай: думай і пішы, пішы і думай.

І ён спяшаўся тварыць і выдаваць кніжкі. За свой кошт, за свае пенсійныя грошы. Ведаў, прадчуваў, пэўна, што трэба надрукаваць напісанае: здароўе падводзіла, хоць на яго не любіў скардзіцца.

Зборнікі вершаў выходзілі адзін за другім: "Мне б хоць кропельку неба", "Рабінавыя астравы", "Журлівіца", "След чмяля", "Прычашчэнне". Ён шмат пісаў і казаў пра сваіх маладзейшых сяброў, хадайнічаў, каб яны друкаваліся. І не памыляўся: з цягам часу некаторыя з'яўляліся ўжо ў рэспубліканскай перыёдыцы, некаторыя ўжо прынятыя ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, іншыя пакуль што растуць. З цікавасцю чыталіся допісы Эдзіка пра людзей раёна: настаўнікаў, бібліятэкараў, самадзейных артыстаў.

А лірычны герой яго — мудры і разважлівы чалавек-жыццялюб з ярка акрэсленай жыццёвай і творчай пазіцыяй, па-грамадзянску сталы і цвёрды ў сваіх поглядах і перакананнях:

*Спачатку так: ламалі, білі,*
*Крыжы — далоў, званы — далоў.*
*Не храмы — душы пакрышылі*
*І панакрышвалі галоў.*

Паэтава Белая Русь пачыналася ў бясклапотным дзяцінстве з рэчкі Проні, вёсак Сялец і Шклянцы — крыніц думак і мар, радасці і пяшчоты, замілавання і шкадавання, журлівіцы — таемнай птушкі ўсяго Эдзікавага жыцця. З прасветленасцю чытаю:

*І зноўку восень у Сяльцы*
*Гняздо буслова прывітала,*
*Што ўжо даўно адклекатала*
*Пад гоман рэчкі у трысці.*

Пачуцці ў вершах сябра чыстыя, сонечныя, пяшчотныя да замілавання. Адкрытасць у вершах, характары не празмерная, але ў душы неагляданая, якую не так лёгка насіць і дэманстраваць людзям у наш супярэчлівы час. Помню і такі выпадак. На адну нашу пісьменніцкую зборку неяк завітаў новаспечаны член саюза і да таго ж немалая шышка мясцовага маштабу. З парога, як кажуць, пачаў сакатаць рускай скорагаворкай. Нахіліўшыся да мяне, Эдзік сказаў: "Чаму ён так? Датуль, пакуль не ўступіў у пісьменнікі, заўсёды казаў і пісаў па-беларуску..." Потым падпёрся рукой і змоўк.

Дык ці быў Эдуард Зубрыцкі шчаслівым, нягледзячы на спевы сваёй журлівіцы? Быў, адназначна. Бо пісаў так, як мог і хацеў, жыў, як хацеў, любіў тое, што любіў, не прагінаўся, за чынамі не гнаўся. Святым не быў, як і кожны з нас. Наколькі грэшны, судзіць не нам. Там яго ўжо абмеркавала інстанцыя кампетэнтная і строгая. А што Бог стварыў некаторых сваіх сыноў і дачок паэтамі, то яму было відней, чаму ён так захацеў. І паэты, у адрозненне ад версіфікатараў і графаманаў, не паміраюць, а жывуць у сваіх чытачах і нават неапублікаваных рукапісах.

Датуль жыве чалавек, пакуль яго помняць. Дык будзем помніць. І Эдурда Іосіфавіча Зубрыцкага — таксама.

# У лабірынтах інтэлектуалізму

Ірына БАЖОК

## Тэкст = інтэртэкст

Побач з сінтэтызмам, полісемантычнасцю, структураванасцю, філасафізмам, сімвалічнасцю інтэртэкстуальнасць з'яўляецца адной з вызначальных прыкмет сучаснай інтэлектуальнай літаратуры.

Тэрмін "інтэртэкстуальнасць", прапанаваны ў сярэдзіне ХХ стагоддзя Ж. Крысцевай, быў звязаны з праблемай функцыянавання тэксту ў тэксце. У постмадэрнізме тоеснасць "тэкст = інтэртэкст" стала натуральнай і заканамернай з'явай для кожнага з відаў мастацтва. Інтэртэкстуальнасць у культуры прысутнічае пастаянна, пачынаючы са старажытнасці: з аднаго боку — як сродак перадачы досведу і пераасэнсавання каштоўнасцей, з другога — як элемент паўтаральнасці, другаснасці. Сённяшняя **інтэлектуальная паэзія выкарыстоўвае інтэртэкст як сярэдзіннае трэцяе**, здольнае і ўвабраць культурны досвед (не спадчыну!), і сцвердзіць уласнае наватарства.

У сувязі са ступенню ўзаемадзеяння тэкстаў вылучаецца:

**уласна інтэртэкстуальнасць** — ужыванне цытаты, алюзіі;

**паратэкстуальнасць** — выкарыстанне вядомай назвы, эпіграфа;

**метатэкстуальнасць** — цесная сувязь з творамі папярэднікаў;

**гіпертэкстуальнасць** — пародыя на сучасны тэкст;

**архітэкстуальнасць** — жанравыя сувязі паміж тэкстамі.

Інтэртэкст можа быць прачытаны як тэкст або як гіпертэкст, прычым памер апошняга залежыць ад эрудыцыі чытача. Паэтычны інтэртэкст больш просты, чым празаічны. Відавочна, што "непрыкметна" ўключыць у невялікую форму "чужое", зрабіць яго завуаліраваным складана. Таму паэтычны інтэртэкст часцей абмяжоўваецца ўласна інтэртэкстуальнасцю і паратэкстуальнасцю.

Інтэртэкстуальнасць выклікае цікавасць у чытача сваёй **неабходнасцю быць разгаданай**, аўтар можа праз ужо апрабаваныя папулярныя тэксты звярнуць увагу на сябе, і наадварот, — садзейнічае папулярызацыі выкарыстаных тэкстаў.

## Стыль твора як характар чалавека

Інтэлектуалізм істотна ўплывае (і працягвае ўплываць) на стыль мастацкага твора. Больш завуаліраваны такі ўплыў — у тэксце паэтычным.

Існуе думка, што інтэлектуалізм у ХХІ стагоддзі непрыдатны і ўстарэлы. Але ж як ніколі ў сваёй гісторыі, сённяшні **інтэлектуалізмператварае паэзію ў з'яву ўніверсальную**, здольную адказаць на запатрабаванні чытача самых розных літаратурных густаў.



Малюнак Марыі Лось

Інтэлектуалізм можа быць **высокім**, г. зн. выяўляцца ў паэзіі праз глыбокі філасафізм, выразна акрэсленую аўтарскую канцэпцыю. Стыль такога паэтычнага твора вызначаецца лірычнасцю, ледзь прыкметнай павучальнасцю, меладычнасцю (напрыклад, паэзія У. Караткевіча).

**Духоўны** інтэлектуалізм прасякнуты верай у адраджэнне праз духоўнае.

**"Востры"** інтэлектуалізм ляжыць у аснове паэзіі сатырычнай, парадыйнай, камічнай, іранічнай. Творы вылучаюцца падкрэслена вострай рэакцыяй на жыццёвыя і мастацкія рэаліі.

Яскравай з'явай у сучаснай паэзіі з'яўляецца **вытанчаны** інтэлектуалізм. Ён выяўляецца ў "эстэтызацыі" кожнага радка, у скрупулёзнай працы са словам, у стварэнні моцнай метафорыкі верша.

**Чысты** інтэлектуалізм мае на мэце вызваліць паэзію ад непатрэбных пустых фраз і звярнуцца да сутнасці і магчымасцей слова, якое разглядаецца як ключ да гармоніі.

Самым распаўсюджаным сёння з'яўляецца **гульнёвы** інтэлектуалізм, які ў паэзіі выглядае як забаўляльная мастацкая гульня з формай і зместам, так званая тэндэнцыя прыемнага і карыснага правядзення часу.

Такім чынам, інтэлектуалізм у сучаснай паэзіі характарызуе спецыфіку аўтарскай індывідуальнасці.

Новыя кнігі

# Ад плуга і луга

**З вядомым паэтам Змітраком Марозавым знаёмы даўно, недзе з другой паловы 70-х гадоў. Ён, тады малады аграном, выпускнік Горацкай сальскагаспадарчай акадэміі, прыехаў па размеркаванні ў быхаўскі калгас "Рэвалюцыя", якім кіраваў удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, кавалер ордэна Леніна і шэрагу іншых высокіх дзяржаўных узнагарод Аляксандр Кудраўцаў.**
**Пра Аляксандра Пятровіча і перадавы калгас Змітрок напіша цэлую паэму, ды гэта будзе пасля.**
**А тады ён толькі пачынаў шлях у паэзію, прыносіў у рэдакцыю раённай газеты "Маяк Прыдняпроўя" свае першыя вершаваныя радкі. Там я з ім і пазнаёміўся.**

Мікола ЛЕЎЧАНКА

Ішлі гады. Пазаштатны аўтар ужо працаваў у Мінску. З цягам часу нашы шляхі-дарогі разышліся. Калі сустракаліся, то выпадкова.

Сустрэліся зноў на юбілейнай вечарыне Міхася Пазнякова ў Доме літаратара. Там пасля ўрачыстасці, калі зала пачала разыходзіцца, яго і ўбачыў. Часу пагаманіць не было, і Змітрок паабяцаў мне даслаць сваю новую кнігу. Праз два дні я ўжо трымаў у руках ягоны зборнік "Я з вёскі, я — свойскі, язбоўскі". Адразу патлумачу, што Язбы — невялікая вёска ў Крупскім раёне на Міншчыне, дзе прайшлі дзяцінства і юнацкія гады паэта. Любоў да сваёй малой радзімы, аднавяскоўцаў наогул прасочваецца ва ўсіх Змітраковых кнігах, якіх напісаў і выдаў больш як два дзясяткі. Першыя ж старонкі новай кнігі захапляюць светлай шчырасцю, распавядаюць пра цяжкі шлях паэта ў літаратуру.

*Мне вечна злосці не хапала,*
*Таму "зычліўцы" ўсіх масцей*
*Мяне дзяўблі.*
*Ды пэўна мала,*
*Як і раней, люблю людзей.*
*Боль аддаю нямой паперы,*
*За дабрату дабром плачу…*
*Чым б'юць мацней, тым болей веры,*
*Што не дарэмна свет капчу.*

Аўтар гэтых выпакутаваных радкоў ніколі не зайздросціў і не зайздросціць людзям, якія дасягаюць поспеху. Асабліва калі чалавек наблізіўся да нейкай жыццёвай вышыні дзякуючы сваёй працавітасці, упартасці: "Калі гэта зроблена самастойна, я вельмі паважаю такіх людзей".

Першы раздзел зборніка складаюць санеты, вянкі санетаў пад агульнымі назвамі "Я ўсё часцей жадаю слухаць неба". Марозаў — вялікі майстар гэтай формы. Нездарма яго вянок вянкоў санетаў "Апакаліпсіс душы" стаў першым такім класічным творам у еўрапейскай літаратуры, што пацвярджаюць звесткі, змешчаныя ў 10-м томе васямнаццацітомнай "Беларускай энцыклапедыі". Дарэчы, выданне вянка вянкоў санетаў захоўваецца ў Бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане, што засведчыла атрыманая адтуль на імя паэта тэлеграма ў жніўні 2007 года.

З асалодаю чытаю санет-прызнанне:

*Я ўсё часцей жадаю слухаць неба,*
*Бо на зямлі такая валтузня,*
*Што дэфіцытам стала цішыня,*
*Як у нішчымны год акраец хлеба…*

Паэт распавядае пра жаданне прычасціцца да святога матчынага імя, пра свае няспраўджаныя надзеі. Ён параўноўвае сябе з жаўруком, бо таксама імкнецца ў вышыню, лётае ў марах:

*Паэт падобны ў нечым з жаўруком:*
*Ад мітусні і ад будзённай прозы*
*Загойвае людскія сэрцы, розум*
*Натхнёна-разняволеным радком.*

Вершы Змітрака Марозава прымушаюць думаць, разважаць пра жыццё з яго радасцямі і супярэчнасцямі, светлымі марамі і надзеямі. Яго вобразнасці, лёгкасці мыслення можна па-добраму пазайздросціць. З першых слоў З. Марозаў закранае за жывое сваіх чытачоў, прымушае мацней біцца іхнія сэрцы. І радкамі незвычайнага верша, а менавіта санета, якім выдатна валодае. Таму робіць выснову:

*Санет маёй сумленна служыць ліры,*
*Ён ключ, якім я адмыкаю свет.*

Другі раздзел кнігі "Пах дажджу" склалі новыя вершы. Яны таксама пра Радзіму, каханне, грамадства, гісторыю. Нельга спакойна чытаць "Светлай памяці паэтаў 37-га", "Плач перапёлкі", "Пачвары", "Паўлу Вераб'ёву", "Чытаючы Алеся Пісьмянкова", "Маналог развітання", "Бомж", "Перасцярога" і шэраг іншых.

Паэт з болем піша пра заганы нашага грамадства, тым не менш ён не кляне людзей, лёс:

*Я не кляну сваё былое,*
*Па днях пражытых не тужу…*
*Мо не чарнілам, а крывёю*
*Радок апошні дапішу.*

*Калі ж мне часам давядзецца*
*Раптоўна ў бездань дзён сысці, —*
*Пакіну вам, нашчадкі, сэрца,*
*Што не хлусіла пры жыцці.*

Зноў перачытваю ў самым пачатку зборніка словы самога Змітрака Марозава, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1988), Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1995), "Залаты Купідон" (2006): "Колькі буду пісаць вершы, столькі буду і вучыцца. Вучыцца ў тых людзей, якія дапамагалі мне знайсці, адчуць і загартаваць свой голас. Гэта Мікола Падабед, Мікола Лeўчанка, Аляксей Пысін, Янка Сіпакоў, Васіль Зуёнак, Васіль Макарэвіч, Мікола Аўрамчык, Яўгенія Янішчыц, Мікола Федзюковіч, Яўген Крупенька, Анатоль Вялюгін, Раіса Баравікова, Юрась Свірка, Валянцін Лукша, Леанід Дайнека, Хведар Жычка, Алесь Карлюкевіч, Вячаслаў Рагойша…

А галоўным крэда ў маёй творчасці служаць словы мала вядомага ў нас паэта-хірурга з Магілёва (на жаль, ужо нябожчыка) Аляксандра Мельнікава: "Поэзия — души работа при свете совести живой…"

Літкур'ер

# Праз церні да сваёй зоркі

Арцём СЕЛІВАНАЎ

"Наш сучаснік" — новая серыя, выпуск якой распачало выдавецтва "Мастацкая літаратура". Гэтая бібліятэчка мастацкіх біяграфій у чымсьці блізкая ўжо добра вядомым чытачам серыям "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" і "Нашы героі", бо таксама мае на мэце расказаць пра людзей, прысутнасць якіх на прасторы сучаснай Беларусі вельмі адчувальная.

Менавіта такім чалавекам з'яўляецца і Аляксандр Алпееў, якому прысвечана першая кніга гэтай серыі "Жыццё, падоранае Богам". Аўтары Аляксандр Руднеў і Андрэй Юрэнеў, расказваючы пра А.Алпеева, імкнуцца стварыць аб'ёмны партрэт героя, не ўпусціўшы з яго біяграфіі нічога больш-менш важнага. Невыпадкова іх аповед мае падзагаловак "Гісторыя жыцця".

Знаёмячыся з кнігай, можна даведацца, як звычайны сялянскі хлапчук з вёскі Рудня Жыткавіцкага раёна стаў вядомым беларускім вучоным, заснаваў адну з буйнейшых прыватных вышэйшых навучальных устаноў краіны, якая сёння вядомая як Міжнародны гуманітарна-эканамічны інстытут, генеральным дырэктарам якога і з'яўляецца А.Алпееў.

Біяграфія А. Алпеева — гэта ў пэўнай ступені і партрэт пасляваеннага пакалення (у кастрычніку Аляксандру Мікалаевічу спаўняецца 65 гадоў).

Як і многія, ён праз церні ішоў да сваёй зоркі. З малых гадоў не цураўся сялянскай працы — даводзілася дапамагаць па гаспадарцы, пакольки бацька, старшыня калгаса, днячаў і начаваў у полі. У далейшым у ягоным жыцці таксама не ўсё гладка складвалася. Аднак перашкоды не спынялі А. Алпеева, а толькі загартоўвалі. І спрыялі самасцвярджэнню. Сёння ён вядомы і як аўтар трох паэтычных і пяці песенных зборнікаў, займаецца публіцыстыкай.

Вобраз аднаго з нашых выдатных сучаснікаў дапаўняюць згадкі тых, хто яго добра ведае. Да месца ў кнізе і багаты ілюстрацыйны матэрыял.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Слова краязнаўцы*



**Ігар ТРУСАЎ, даследчык гісторыі Гродна, распавядае пра свой шлях у краязнаўства:**

— Да 18 гадоў я жыў у Навагрудку. Гісторыя мяне захапляла, але больш — Кітая і Індыі. З геаграфіяй пасябраваў дзякуючы суседцы-настаўніцы, якая мела ва ўласнай бібліятэцы шмат рэдкіх кніг пра падарожжы і геаграфічных атласаў. Зразумела, жыць у Навагрудку і не дакрануцца да яго гісторыі немагчыма. У дзесяць гадоў ведаў на памяць у арыгінале "Гражыну" і "Свіцязянку" Адама Міцкевіча. Стоячы на Замкавай гары, прыкідваў, дзе адбылася бітва з крыжакамі. Да таго ж у маім пад'ездзе жыла сям'я членаў КПЗБ, час ад часу яны распавядалі розныя гісторыі. Усё гэта захавалася "фонам" у свядомасці.

Хаця марыў стаць разведчыкам, паступіў на гродзенскі гістфак. Служыў у арміі, пабываў там, дзе прайшоў БАМ, падарожнічаў па Манголіі. Потым працаваў у Рэспубліканскім музеі атэізму і гісторыі рэлігіі, дзе "захварэў" на гісторыю Беларусі, тым больш што маімі настаўнікамі былі Анатоль і Валянцін Грыцкевічы, прафесар Міхаіл Ткачоў, музейшчыкі з Ленінграда, Масквы, Вільнюса, Львова. Дзякуючы ім стаў прафесійным даследчыкам. Пасля заняўся рэстаўрацыяй помнікаў. Гэта быў іншы свет, іншыя задачы і праблемы. На шчасце, у мяне зноў з'явіліся настаўнікі: Валянцін Калнін, Анатоль Кулагін, калегі з Літвы, Расіі, Польшчы.

Напрыканцы 90-х гадоў мне прапанавалі надрукаваць у газеце "Біржа Інфармацыі" матэрыялы пра старыя гарадзенскія вуліцы і дамы. Адначасова запрасілі весці на мясцовым тэлебачанні віктарыну "Знаёмы-незнаёмы Гродна". Пазней сумесна з Андрэем Чарнікевічам з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы падрыхтавалі цыкл артыкулаў пра гарадзенскія вуліцы і дамы для газеты "Вечерний Гродно". У рэшце рэшт гэты парыў прывёў да кнігі "Ад Фартоў да Каложы", у якой апісаны кожны даваенны дом у Гродне, яго ўладальнікі і цікавыя жыхары. Маімі суаўтарамі сталі А.Госцеў, А. Вашкевіч, В. Саяпін, А. Чарнікевіч. Аналагу такому выданню пакуль няма.

## Памяць пра парад

У гонар вызвалення беларускай сталіцы 16 ліпеня 1944 года ў Мінску адбыўся мітынг працаўнікоў горада і 30-тысячны партызанскі парад, які прыняў першы сакратар ЦК КПБ, старшыня СНК БССР Панцеляймон Панамарэнка. Камандаваў парадам начальнік Беларускага штаба партызанскага руху Пётр Калінін.

У Мінску плануюць увекавечыць падзею. Цяпер праходзіць адкрыты конкурс на стварэнне скульптурнай кампазіцыі "Парад беларускіх партызан". Арганізатар — Мінскі гарвыканкам. Кампазіцыю, магчыма, змесцяць у раёне вул. Чырвонаармейскай на беразе Свіслачы. Архітэктурнае і мастацкае рашэнне павінна быць лаканічным і арганічна ўпісвацца ў пэўнае архітэктурна-планіровачнае атачэнне. Да 8 чэрвеня журы разгледзіць конкурсныя работы. Пераможца атрымае права далейшага ўдзелу ў рэалізацыі праекта.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

# Валожынскія дзірхемы

**У Валожыне нямала будынкаў, якія красамоўна распавядаюць пра мінуўшчыну. У адным з іх, доме пад нумарам 9 па вуліцы Максіма Горкага, размясціўся раённы краязнаўчы музей. Дарэчы, гэты будынак і шэраг суседніх лічацца помнікамі архітэктуры неакласіцызму.**

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

— Безумоўна, нам вельмі пашанцавала з памяшканнем — у яго вельмі цікавая гісторыя, — распавяла дырэктар Валожынскага раённага краязнаўчага музея Наталля Лоўчая. У 1921 годзе, калі горад уваходзіў у склад Польшчы, тутэйшыя мясціны аблюбавалі служачыя Валожынскага павета для закладкі сваіх дамкоў. Таму сённяшняя вуліца Горкага ў тыя часы і насіла адпаведную назву — Дамкі. Менавіта наш будынак належаў павятоваму старасце, меў два паверхі над зямлёю і падвальнае памяшканне, якое па перыметры адпавядае памерам самога будынка. Былы дом старасты вылучаўся адмысловай архітэктурай. Пасля ў ім размяшчаліся розныя ўстановы.

Пасля таго, як было прынята рашэнне стварыць у Валожыне краязнаўчы музей, супрацоўнікі рабочай групы сабралі каля шасці тысяч экспанатаў па самых розных тэмах. Летась музей атрымаў статус раённага краязнаўчага.

— Асноўная і актуальная тэма нашай экспазіцыі — "Прырода і экалогія", — зазначыла Наталля Паўлаўна. — І гэта не дзіўна. Амаль 40 працэнтаў тэрыторыі Валожынскага раёна займае сусветнавядомы помнік прыроды — Налібокская пушча. Расказваючы пра гісторыю краю, немагчыма абысціся без археалагічных сведкаў, якіх у нас даволі шмат. Сярод іх нямала ўнікальных, рэдкасных рарытэтаў. Напрыклад, золата-шкляныя каралі бочкападобнай формы (X — XII стст.), знойдзеныя супрацоўнікамі археалагічнага інстытута Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі падчас раскопак гарадзішча каля вёскі Лоск, унесенага ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Адметная яшчэ адна тутэйшая знаходка — вытанчаны бранзавы бранзалет са стылізаванымі галоўкамі змей. Адсюль і яго назва — "Змеегаловы" (таксама X — XII стст.).



*Арабскія дзірхемы, бронзавы бранзалет, золата-шкляныя каралі.*

Нядаўна нумізматычная калекцыя валожынскага музея папоўнілася новымі эксклюзіўнымі экспанатамі — дзірхемамі. Гэтымі вялікімі срэбранымі манетамі з арабскімі надпісамі карысталіся ў VIII — IX стагоддзях. Чаканілі іх у арабскім Халіфаце, а адтуль ужо купцы прывозілі грошы на тэрыторыю Кіеўскай Русі, дзе дзірхем атрымаў рускую назву — кунай ці нагатай, а палова куная — рэзаны. 25 кунаяў складалі грыўну. У канцы X стагоддзя чаканка дзірхем у Халіфаце скарацілася, і іх прыток на Русь аслабеў, а ў наступным стагоддзі наогул спыніўся. Цікавая акалічнасць: дзірхемы і іх фрагменты сталі першымі грашовымі сродкамі, якія ўпамінаюцца ў ранніх пісьмовых крыніцах. Арабская манета настолькі трывала ўвайшла ў жыццё старажытнарускіх рынкаў, што мясцовыя вытворцы паспрабавалі самі чаканіць дзірхемы. У 1891 годзе ў Невельскім павеце Віцебскай губерні знайшлі выразаную на камені форму для адліўкі такіх манет. Набытак валожынскіх музейшчыкаў — дзесяць дзірхемаў: адна цэлая і дзевяць долек. (Каб различыць, пакупнікі адразалі тую ці іншую частку манеты, у залежнасці ад кошту тавара. Усе гэтыя ўнікальныя знаходкі зоймуць пачэснае меса ў экспазіцыі.)

У падвальным памяшканні музея плануецца размясціць раздзел экспазіцыі, прысвечаны вытворчасці жалеза ў Валожынскім краі. Выбар тэмы зусім невыпадковы: у мястэчку Вішнева, якім у XVIII стагоддзі валодаў граф Храптовіч, быў пабудаваны першы на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага жалезаліцейны завод.

— Гэты завод праіснаваў усяго сто гадоў, ды на свой час быў значным прамысловым аб'ектам, але пасля не вытрымаў канкурэнцыі, — расказала Наталля Лоўчая. — Калі ўспыхнула паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, менавіта на ім вырабілі зброю для паўстанцаў. Цяпер мы збіраем розныя прадметы, якія датычаць кавальства, каб паказаць, як захоўваюцца гэтыя традыцыі сёння.

*Экскурс у мінулае*

# Фота з настальгіяй

**Убачыць, які быў горад Талачын у мінулым стагоддзі, можна на незвычайнай выстаўцы, якая адкрылася ў Талачынскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Невыпадкова дырэктар Ірына Пікулік называе яе настальгічнай. У гэтым, без перабольшання, крыецца яе асноўнае прызначэнне: дзякуючы вядомым і невядомым фатографам зрабіць экскурс у мінулае.**

**Віктар БІРУКОЎ**

На жаль, ваенны перыяд з-за адсутнасці фотаздымкаў "выпаў". Хочацца спадзявацца, што гэта толькі пакуль — цяжка ўявіць, што ў дзяржаўных архівах Беларусі і Расіі няма здымкаў Талачына. Як вядома, фронт пракаціўся праз горад і яго наваколлі двойчы.

Усё ў творчым плане, пачынаючы ад ідэі і да яе ўвасаблення, належыць кіраўніку народнай кінастудыі "Летапіс", якая дзейнічае пры гарадскім Доме культуры, Дзмітрыю Іўчанку. Ён па крупіцах збіраў, а затым аднаўляў асобныя фрагменты здымкаў, якія захоўваліся на пласцінах са шкла ў хаце мясцовага жыхара Барыса Плешкі. Захаваўся і незвычайны фотаапарат, якім бацька Барыса, Цімафей Плешка, рабіў фотаздымкі. У той час ён, мабыць, быў адным з нешматлікіх гараджан, хто мог дазволіць сабе такую дарагую і рэдкую рэч — фотаапарату каля сотні гадоў. Не танней абыходзіліся і матэрыялы, якія патрабаваліся для вырабу здымкаў. Дзякуючы Цімафею Плешку і яго ўменню да нашага часу дайшоў здымак вуліцы Гогаля, які быў зроблены ў 20 — 30-я гады мінулага стагоддзя.




*Калгаснікі сустракаюць новую тэхніку — на палеткі прыйшлі камбайны (здымак 60-х гадоў мінулага стагоддзя).*

— Я разумею, якую каштоўнасць прадстаўляюць гэтыя шкляныя пласціны з негатывамі, — распавёў Барыс Плешка. — Захоўваў іх на гарышчы. Але, на жаль, шкло мае свае асаблівасці. З сотні пласцін не ўсё ўцалела.

Дзмітрый Іўчанка змог вярнуць да жыцця, выкарыстоўваючы камп'ютарную тэхніку, фота першай карчмы, якая належала талачынскім камунарам. Маюцца здымкі вяскоўцаў, што малоцяць льняныя снапы, а побач высіцца велізарны стог з ужо абмалочанымі снапамі.

Амаль два дзясяткі здымкаў з хатняга альбома прынесла на выстаўку Валянціна Мішкарудная. Зусім юная стаіць яна сярод сваіх выхаванцаў, навучэнцаў школы, разам з якімі працавала на полі прыгараднага калгаса імя Энгельса.

Распавядуць фотаздымкі і пра тое, як выглядалі цэнтральныя вуліцы Талачына, як праходзілі святы і святочныя дэманстрацыі ў райцэнтры, як сеялі і ўбіралі хлеб, капалі бульбу, як нашы землякі праходзілі тэрміновую службу ў розных кутках некалі вялікай краіны. Захаваліся фота рэстарана, яго інтэр'ера, людзей, якія ў ім працавалі. Словам, ёсць на што паглядзець, каб адчуць атмасферу тых часоў, энтузіязм талачынцаў, іх дасягненні. Нездарма хтосьці заўважыў, што Талачын быў заможным горадам. А стварылі гэта багацце яго жыхары, умелыя, тонкія майстры ў розных сферах дзейнасці. Можа, сярод іх вы пазнаеце і сваіх родных, блізкіх.

*Далёкія і блізкія суродзічы*

Мікола БЕРЛЕЖ

# …Уважлівая да ўкраінскай літаратурнай мовы

**Калі трапляю ў Слонім, у цэнтры горада спрабую ўгледзецца ў тую мясціну, дзе быў некалі просты яўрэйскі дом, гаспадарылі ў якім бацькі Алены Курылавай. Мо побач з галоўнай гандлёвай плошчай — перад дамініканскім касцёлам?.. Цяпер гэта плошча Леніна. Альбо паблізу сінагогі...**

Заснаваны ў першай палове XI стагоддзя, Слонім досыць інтэнсіўна развіваўся. Старажытным цэнтрам быў замак або Замчышча, якое сёння абмежавана вуліцамі Маякоўскага, Савецкай, Энгельса і Першамайскай. Калісьці, у XI — XV стст., як засведчылі археалагічныя раскопкі, гарадскія вуліцы былі выкладзены тонкімі бярвеннямі і плашкамі. У 1531 г. Слонім атрымаў магдэбургскае права. Праз горад праходзіў гандлёвы шлях з Русі ў Прыбалтыку. У год тут ладзіліся два вялікія кірмашы. Узніклі рамесныя цэхі…

Толькі ў XIX стагоддзі Слонім падвяргаўся перапланіроўцы ажно чатыры разы — у 1825, 1863, 1870, 1876 гадах. Былі пабудаваны двух-, трохпавярховыя цагляныя дамы ў самым цэнтры горада. Свой унёсак у змены аблічча Слоніма зрабіў пажар 1881 года…

Алена Барысаўна згадвала ўжо іншыя, бліжэйшыя да нас часы. Нарадзілася яна 6 кастрычніка 1890 года. Мала што вядома з маладых, юных гадоў Алены Курылы (дык, відаць, усё ж — Курылавай). У 1913 годзе наша слонімская зямлячка закончыла жаночыя курсы Варшаўскага ўніверсітэта. Пасля вучылася ў Львоўскім універсітэце. Сярод настаўнікаў Алены — вядомы ўкраінскі мовазнаўца Яўген Цішчанка.

З пачатку 1920-х гадоў А. Курыла працуе ў Кіеве. Займаецца навуковай дзейнасцю, звяртаецца да самых складаных пытанняў украінскага мовазнаўства. У Інстытуце ўкраінскай навуковай мовы Алену Барысаўну абіраюць членам прэзідыума. Даследчыца звяртае асаблівую ўвагу на распрацоўку навуковай тэрміналогіі. З часам Курылу ўводзяць у склад Дыялекталагічнай камісіі культуры і дыялекталогіі ўкраінскай мовы. Ураджэнка Слоніма складае тэрміналагічныя слоўнікі. У 1930 годзе яе пераводзяць у Інстытут мовазнаўства. Алена Барысаўна становіцца намеснікам дырэктара і старшынёй аддзела сучаснай (жывой) украінскай мовы.

1920-я — пачатак 1930-х гадоў — адзін з найбольш цікавых перыядаў ва ўкраінскім мовазнаўстве. Увогуле — у гісторыі ўкраінскай культуры, украінскай літаратуры. Прыгожае пісьменства брала ў палон моладзь. Ішло актыўнае развіццё і пашырэнне ранейшых традыцый. Ствараліся новыя навуковыя ўстановы, школы. Моладзь цікавіў, здаецца, увесь свет. Як прыклад — стварэнне Усеўкраінскай навуковай асацыяцыі ўсходазнаўства. Яе філіі былі заснаваны ў Кіеве, Адэсе, Харкаве. Выходзілі кнігі мастацкага перакладу з кітайскай, персідскай, арабскай, японскай, індыйскай і іншых моў. Але гэтая праца, надзвычайная актыўнасць у засваенні сусветнай культуры патрабавала ведання і развіцця ўласнага, нацыянальнага. І Алена Курыла апантана працавала над вырашэннем гэтай задачы. Углядаючыся ў абрысы постаці нашай зямлячкі, адразу ўспамінаеш іншых ураджэнцаў Беларусі, якія спрыялі развіццю чужых моў. Якуты і цяпер помняць Эдуарда Пякарскага. Велізарны ўнёсак ва ўсталяванне сучаснай тувінскай мовы зрабіў Аляксандр Пальмбах. У 1920 — 1940-я гады першай велічынёй у Туркменскім мовазнаўстве быў беларус Аляксандр Пацалуеўскі.

Пра ўзровень навуковай даследчанасці Алены Курылы, яе здольнасці ставіць і вырашаць самыя складаныя задачы гавораць і самі назвы некаторых тэм, якія яна паспяхова распрацоўвала: “З метадалогіі лінгвістычных даследаванняў”, “Украінская літаратурная мова паслякастрычнікага часу”, “Ацэнка пашыранай літаратуры з граматыкі ў святле дасягненняў матэрыялістычнай лінгвістыкі…” У 1918 годзе адзін за другім выходзяць адразу два слоўнікі, падрыхтаваныя Аленай Барысаўнай, — “Расійска-ўкраінскі слоўнік медыцынскай тэрміналогіі” і “Слоўнік украінскай фізічнай тэрміналогіі”. Другая кніга была пазначана як праект і як выпуск першы. Ды было ў тым “праекце” 133 старонкі. У 1913 годзе шырокі рэзананс выклікала кніга А. Курылы “Паралельныя формы ва ўкраінскай мове, іх значэнне для стылю”. Відавочна, што даследчыцу цікавіла мова як прадмет, як зброя пісьменніцкай, мастацкай работы. Пэўна ж, і сатырык Кост Катко, і паэт і празаік Анатоль Крашаніца, і літаратуразнаўца, паэт, перакладчык Сцяпан Крыжаноўскі, і шмат хто яшчэ, хто пачынаў друкавацца ў 1920-я гг., былі ўважлівыя да моўных, мовазнаўчых адкрыццяў і проста здабыткаў руплівага вучонага. Дарэчы, у 1923 годзе ўжо другім выданнем пабачыла свет яшчэ адна цікавая кніга Алены Курылы — “Увагі да сучаснай украінскай літаратурнай мовы”. Актуальнасць гэта праца не страціла і да сённяшніх дзён. Апошняе — чацвёртае па ліку — выданне “Уваг…” было ажыццёўлена ў Кіеве ў 2004 годзе.

Выступала Алена Барысаўна з артыкуламі і ў такіх перыядычных выданнях, як “Запіскі Гісторыка-філалагічнага аддзялення ВУАН”, “Украінскі дыялекталагічны зборнік”. У 1924 годзе выдала кнігу “Фанетычныя ды іншыя марфалагічныя асаблівасці гаворкі сяла Зарыбрычаў даўнейшага Гараднянскага павета, цяпер Сноўскай акругі на Чарнігаўшчыне”. Мяркуючы па аб’ёме (у кнізе — 11 старонак), гэтая праца запатрабавала ад мовазнаўцы надзвычайнай, пільнай і шматдзённай увагі да мовы асобнага паселішча. Навуковы, творчы ўзлёт выяўляў нашу зямлячку ў 1920-я — на пачатку 1930-х гадоў. А час, між тым, быў далёка не простым. Украінізацыя, якая была прадэкларавана і атрымала істотнае пашырэнне з усталяваннем і ўмацаваннем Савецкай улады, пачала спакваля зварочвацца. Вульгарная літаратурная крытыка прымушае замаўчаць многія таленты. Пад каток рэпрэсій ва Украіне трапляюць таленавіты драматург Мікола Куліш, літаратуразнавец Ананій Лебедзь, бібліёграф Мікола Леўчанка, празаік, літаратурны крытык Іван Лічка…

Алену Барысаўну першы раз арыштавалі ў 1933 годзе. Да суда справа не дайшла. Адсядзела паўтара месяца і была адпушчана на волю. Выехала ў Расію. Уладкавалася на працу ў Маскоўскі абласны педагагічны інстытут. А перад вачыма, у свядомасці — Украіна, якая стала роднай маці, украінская мова, украінскае прыгожае пісьменства, якое падаравала сусветнай культуры Тараса Шаўчэнку, Івана Франко, Лесю Украінку… Уцячы б Алене Барысаўне ў іншую старонку — у Беларусь… Так, на радзіму ў Слонім. Але ж, пэўна, і думаць пра гэта не думала. Слонім з 1920 года — пад панскай Польшчай. А яна, малады даследчык, столькі паспела зрабіць для Украіны, для ўкраінскай культуры!.. Дык чаму, навошта і куды ўцякаць?!

Адказ не прамінуў сябе чакаць. У 1938-м — новы арышт. Цяпер ужо і суд адбыўся. Далі ні многа ні мала 8 гадоў лагераў. Патрапіла ў Казахстан, у Карагандзінскі лагер. І вытрымала, адсядзела ўсе 8 гадоў. У 1946-м вызвалілі. А вось як склаўся далейшы лёс выключна граматнага, апантанага даследчыка ўкраінскай мовы — невядома. Рэабілітавалі нашу зямлячку ў 1989 годзе. А хоць бы і не было тае пасмяротнай рэабілітацыі… Цана ж тым крывавым законам вядомая.

Іншы лёс у навуковай спадчыны Алены Курылы. Яе работы і сёння перавыдаюцца ва Украіне, часта цытуюцца новым пакаленнем украінскіх мовазнаўцаў.

*Праекты*

# Уражваюць маштаб і творчая задума

Міра ІЎКОВІЧ

**Міжнародны выставачны тур знакамітай інсталяцыі “Алтар нацый” вядомай украінскай мастачкі Аксаны Мась, работа якой летась стала сенсацыяй на самай прэстыжнай сусветнай арт-выстаўцы ў Венецыі, стартаваў у Гомелі ў палацы Румянцавых і Паскевічаў.**

Твор Аксаны Мась — своеасаблівае ўзнаўленне Генцкага алтара братоў Ван Эйк — шэдэўр эпохі Адраджэння. Вышыня інсталяцыі — шэсць метраў, такая ж і яе шырыня. Гэта ўсяго толькі маленькая частка копіі знакамітага алтара, які ў выкананні мастачкі выглядае вельмі ўжо незвычайна. Агульную карціну складаюць 33 тысячы драўляных яек, на якіх намаляваны чалавечыя грахі, жаданні, страхі і комплексы. У роспісе яек бралі ўдзел прадстаўнікі з больш як 40 краін — манахі, маракі, зняволеныя, дзеці, пенсіянеры і інш. Паводле меркавання мастачкі, кожны, хто размаляваў хаця б адно яйка, ачысціў душу, бо ўсведамленне свайго граху вядзе да прасвятлення.

Грандыёзная інсталяцыя “Алтар нацый” па завяршэнні з’явіцца вынікам прадстаўленага Украінай на леташняй, 54-й, Венецыянскай біенале праекта “Post-vs-Proto-Renaissance” — самага беспрэцэдэнтнага



Падчас адкрыцця інсталяцыі “Алтар нацый” у Гомелі.

і буйнамаштабнага, паводле меркавання журы і прэсы. Гэты праект — лідар глядацкіх сімпатый, яго больш за іншых абмяркоўвалі ў СМІ. Ён стаў адным з намінантаў на лепшую работу. А па версіі часопіса “ART INVESTOR”, гэты артаб’ект увайшоў у дзявятку лепшых жаночых праектаў біенале. Больш як 100 выданняў і інтэрнэт-сайтаў выказалі сваё захапленне, назваўшы яго “другім Адраджэннем сусветнага мастацтва”.

Каб прадставіць усю гэтую прыгажосць у Гомелі, чатыры майстры на працягу дваіх сутак збіралі інсталяцыю. Фрагменты, што ўжо сёння можна пабачыць, а іх 15, — толькі маленькі кавалачак будучай работы. За пяць гадоў мастачка плануе сабраць 302 яго часткі. Алтар, які ўражвае сваім маштабам, атрымаецца ў выніку 92 на 134 метры. Каб яго выставіць, трэба знайсці пляцоўку памерам у некалькі футбольных палёў.

Адэсітка Аксана Мась — адна з самых вядомых у свеце ўкраінскіх мастачак. Яна правяла больш як 80 персанальных выставак і скарыла культавыя арт-кірмашы: Art Basel, Freeze, Fiac і Armory Show, а таксама ўвайшла ў спіс 100 мастакоў свету, работы якіх ацэньваюцца ў суадносінах “кошт — якасць”. Творы мастачкі прадстаўлены ў музеях, культурных фондах і ў 150 прыватных калекцыях.

*Пасля-слоўе*



# З’яднала Случчына

Яўген ГУЧОК

**Неўзабаве пасля выхаду ў свет маёй кнігі “Ах, Родчанка!..” вядомы фотамастак Анатоль Каляда паведаміў, што ў яго архіве маецца фотаздымак Рыгора Родчанкі і Васіля Віткі, які нідзе яшчэ не публікаваўся.**

Вядома, што Васіль Вітка (Цімох Васільевіч Крысько), паэт, драматург, літаратурны крытык, публіцыст, педагог, заслужаны дзеяч культуры БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, нарадзіўся на Случчыне. Ён шмат пісаў і для дзяцей, за што быў узнагароджаны ганаровым дыпломам імя Х.-К. Андэрсена. Прозвішча беларуса занесена ў Ганаровы спіс дацкага казачніка. Васіль Вітка быў частым госцем у Слуцку і нават выкладаў у Мялешкаўскай сярэдняй школе. Яго ўрокі дэманстраваліся па рэспубліканскім тэлебачанні.

Рыгор Родчанка — слуцкі краязнаўца, фалькларыст, паэт, аўтар каля дзясятка кніг і некалькіх соцень публікацый, меў добрыя зносіны з Васілём Віткам. На здымку, які Анатоль Каляда падараваў мне, Родчанка падпісвае калегу-паэту сваю кнігу “Альгерд Абуховіч-Бандынэлі”. Фота зроблена ў 1985 годзе ў Слуцку.

# Пякучы боль Чарнобыля



Мікола Мятліцкі

## Душа

*І сёння ты наструнена шчыміш
Ад сіняе зіхоты верасовай.
І баравая векавая ціш
Табе наноў ратоўнай стала сховай.*

*Далёка недзе гулкая шаша
У гонцы захлынаецца ад пылу,
А ты на ўзбоччы гойліва, душа,
Зноў чэрпаеш жыцця жывую сілу.*

*У гэтай пракаветнай старане,
Дзе столькі дум збалела і патухла,
Я рады, што жывеш яшчэ ўва мне,
Што перад прыгажосцю не аглухла.*

*Усё! — ад небнай свежай яснаты
Да гэтай затравелай абалоні —
У спраты-сховы убіраеш ты,
Крывяніш, быццам рыжык на далоні.*

* * *

*Вечарэе. Лес туманны
Над сшарэлай азярынай.
Быццам прывід цьмяны, зманны,
Мройны самы, бездыханны,
Неба кратае чупрынай.*

*Плёс успудлівая лодка
Калыхне па-за чаротам.
Вуснам сцішаным салодка.
Качка спуджаная лётка
Кіне пырскамі, як шротам.
Блузка белая дзяўчыны
І хлапца ў цяльняшцы плечы.
Бездыханных дзве хвіліны.
Плёс таемны азярыны
Лёс гушкае чалавечы.*

* * *

*Часцей збірае горкая жалоба
Астатнікаў з радзімага сяла.
Маршчыны рук, вугельчыкі цяпла
Вачэй.
Гарбаціць даўняя хвароба
Іх постаці —
Вось старасць, дабрыла.*

*Да вечаровае драбнюткай зоркі
Вядуцца іх паўслёзныя гаворкі, —
І мне прыносіць мовы роднай плынь
Віры жыцця калішняга жывога,
Дзе зноўку кожны з роднага парога
Акіне зрокам лёсу далячынь.*

* * *

*Ён першым накапаў рудое гліны,
Зірнуў на лес, здаволены хітрэц.
І ў полымі гарачым бакавіны
Гартуе ўжо раскроены сырэц.*

*І штукаваў, усцешаны, над кладкай,
Цагліны клаў
у схованцы глухой.
І выйшла печ,
зірнула сценкай гладкай,
Узнёсшы дымна комін над страхой.*

*Аб цудзе тым пусцілі пагалоску,
Цагліны гожа трэсліся ў вазку.
І Глінішчам назвалі людзі вёску
Аддаўшы тым пашану печніку.*

*Ці думаў той, што няяк на чарэні
Яго нашчадак, сціснуўшы сціло,
У лёткім рамантычным азарэнні
Уславіць словам роднае сяло?*

*І сказ ягоны на шчымотнай ноце
Красой жыцця аздобіць белы свет.
І рушаць мужна людзі па балоце
За вечнасцю зямлі сваёй услед.*

## Звалка

*Я канкурэнтаў, хітры,
Век абганяў на выгане —
Міскі, лыжкі, макітры
Мною з канаў павыбраны.*

*Ўсё падабрана — да гузіка,
Мчаўся са спрытам гулка.
Конь аднавокага Юзіка
Сунецца зранку вулкай.*

*І каля брамы стоячы,
Пыл з калашын аббіваю,
Шчасця свайго не тоячы,
Рызніку скарб збываю.*

*…Ранак крывава выткаў
Тлен забыцця зарана.
Колькі былых пажыткаў
Сёння б было сабрана!*

*Вокам акіну бегла —
Зрынецца сэрца ў холад.
Звалка якая легла —
Вуліца, хаты, школа…*

*Памяць балюча трызніць,
Неба — крыві палоскай.
Час, як забыты рызнік,
Сунецца мёртвай вёскай.*

*Хлопчык быллём, не жытам,
Сэрца рвучы на раны,
Страшны нясе спажытак
З рытвін-канаў сабраны.*

* * *

*Яшчэ жыццё, як на асіне ліст,
Трымаецца
ў спалошлівым трымценні.
А наўкруга —
начы жахотнай цені
Ды сіверу атручанага свіст.*

*Ужо адно мне бачна і вядома:
Жыцця галіны грозны смерч пасек.
Што за парогам выстылага дома,
Каўтнуўшы смутак,
Знойдзеш, чалавек?*



Вольга Шпакевіч

## Чарнобыльскі край

*Пагасціць запрашае матуля,
Ад жыцця, ад сябе адпачыць,
Але край той бядою атулен
І на вуснах Чарнобыль гарчыць.*

*І зямля, і вада, і ўся ежа,
І паветра, і дождж з аблачын.
Першабытна ўсё гэтак і свежа,
А на вуснах Чарнобыль гарчыць.*

*На магілах крыжы, як хто сее,
І аж глушаць наўкол крумкачы,
Толькі стома і слабасць у целе,
І на вуснах Чарнобыль гарчыць.*

*Не пачуць і не ўбачыць, не ўзяцца…
Дзе ад гэтай загадкі ключы?
Хоць прайшло ўжо гадоў
больш за дваццаць,
А на вуснах Чарнобыль гарчыць.*

*Пагасціць мяне просіць матуля,
У радзімым кутку адпачыць.
Зноў я ў хаце
бацькоўскай утульнай,
А на вуснах Чарнобыль гарчыць.*



Серафіма Бестава

## Бязлюдныя хаты

*Не гукаюць тут пеўні ранак,
Не рыкае кароўка ў хляве.
Не кранутыя, не паспытаны,
Яблык сатлеў у траве.*

*Цяжка сэрцу ў гэта паверыць:
Тут вясёлым песням не днець,
Тут не скрыпнуць прыветліва дзверы,
У акно тут ніхто не зірне.*

*Анямелі бязлюдныя хаты
На атручанай гэтай зямлі.
Чым жа ў лёсе сваім вінаваты
Людзі тыя, што тут жылі?*

## Запозненасць

*Палыновая наўсцяж дарога,
Пачарнелі ад дажджоў крыжы.
Каб жа мы раней прыйшлі да Бога
З просьбаю: зямельку зберажы!*

*Зберажы і кветачкі, і зёлкі,
Ягады, грыбочкі зберажы,
Каб маглі пад сонечнай вясёлкай
Нашы дзеці, нашы ўнукі жыць…*

*Зберажы сады, палеткі нашы,
Зберажы крынічку, як адну.
Можа, не пілі б мы гэту чашу
Горкага настою з палыну?*



Фота Кастуся Дробава



Анатоль Зэкаў

## Радыяцыйны верш

*Радыяцыйныя рабіны.
Радыяцыйныя дубы.
Радыяцыйныя маліны.
Радыяцыйныя грыбы.*

*Наўкол усё засыпаў цэзій.
Пад ім — і дрэвы, і трава.
Ды толькі як нам
жыць у лесе
і з ім
зусім
не сябраваць?*

## Чорны воран

*Кружыць чорны воран
над Палессем родным нашым,
быццам кажа:
"Скора
мы навекі ў дол тут ляжам".*

*На клады ж і так ужо нас
адышло адсюль задужа,
хоць заплач па ўсіх уголас.
Ну а ты ўсё,
воран, кружыш.*

*Ты ўсё каркаеш, што скора
Нас не будзе ў гэтым краі.
Як прагнаць цябе мне, воран,
І куды прагнаць?
Не знаю.*

## Буда-Кашалёўскія дубы

*Дубы з-пад Буда-Кашалёва,
за годам год з вякоў сівых
трывалі ў далі перуновай,
што так і цэлілі пад дых.*

*Было, кара ўразлёт ляцела
ад іх, праклятых перуноў,
ды толькі зраненае цела
заўжды гаілася наноў.*

*І зноў дубы імкнулі ў высі,
і, быццам перунам на здзек,
самім сабе яны кляліся
сустрэць свой XXI век.*

*І гнеў прыроды,
і хваробы —
усё адолелі нібы.
Але жахнуў пярун-Чарнобыль,
і — скалануліся дубы.*

## На Прыпяці, каля Нароўлі

*Ні з'есці, ні выпіць
тут нельга нічога.
Атрутная Прыпяць
ўзіраецца строга,
Каб сёння ніхто тут
і вуды не кінуў.
Наўкол так самотна,
бы свет цэлы згінуў.*

**Тыя, хто ўважліва сочыць за тэленавінамі, прыгадаюць сюжэт праграмы "Контуры", які расказваў пра дзесяцігадовую мінскую школьніцу Лізавету Голікаву — чэмпіёнку Еўропы па выкананні ірландскіх танцаў. Навучыцца гэтаму мастацтву можна ў Мінскім дзяржаўным Палацы дзяцей і моладзі. Яркае відовішча, вартае ўвагі захапленне, але… Сумна, што не было побач сюжэта пра не менш каштоўную спадчыну — беларускі народны танец.**

# Пакінуць летапіс танца

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Кастуся Дробава**

## У адным экзэмпляры

Пра захаванне беларускага танца дбаюць сёння зацікаўленыя энтузіясты. Адзін з такіх людзей — Мікола Козенка, выкладчык кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Аўтар ідэі, канцэпцыі, мастацкі і навуковы кіраўнік, сцэнарыст, рэжысёр-пастаноўшчык, этнахарэограф фестывалю "Берагіня" ў Акцябрскім, што на Гомельшчыне. Аўтар і ўкладальнік шматлікіх выданняў. Назавём некалькі з іх, што ўбачылі свет за апошнія два гады ў выдавецтве "Чатыры чвэрці": "Жыццё і лёс Адама Чопчыца" (да 90-годдзя з дня нараджэння заслужанага дзеяча культуры Беларусі), "У тэзаўрусе Беларусі" (да 80-годдзя Энгельса Дарашэвіча, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, доктара філасофскіх навук), "Беларускі народны танец: традыцыі і сучаснасць (Магілёўшчына)". Іх яднае скіраванасць на выяўленне і аднаўленне, папулярызацыю традыцыйнай мастацкай культуры, а дакладна — харэаграфічнай, музычнай, песеннай. Аб'ект увагі аўтара і тыя, хто спрычынены да гэтых відаў мастацтва, — унікальныя людзі Беларусі, навукоўцы, практыкі, складальнікі дапаможнікаў.

Амаль 700-старонкавы фаліянт "Беларускі народны танец: традыцыі і сучаснасць (Магілёўшчына)", што абагульняе вынікі комплекснага даследавання (памежжа XX — пачатку XXI стагоддзя) танцавальнай культуры рэгіёна Магілёўскага Падняпроўя, сёння існуе толькі ў адным экзэмпляры.

## Погляд збоку

"Нашай краіне пашанцавала, — адзначае Мікола Козенка, — бо ёсць жывая традыцыя, жывы фальклор. Наша культура цікавіць даследчыкаў з іншых краін, якім не трэба тлумачыць неабходнасць вывучэння каранёвых, стыхійна складўшыхся форм культуры, што існавалі тысячагоддзі і паспяхова выконвалі сваю галоўную функцыю — задавальненне фізічных і духоўных запатрабаванняў этнасу як біясацыяльнай сістэмы".

Фальклярысты даследуюць асобныя каранёвыя формы арганізацыі мыслення і паводзін, таму што многія элементы вясковых еўрапейскіх культур увайшлі ў светапогляд і паводзіны гараджан і невынішчальныя з іх культуры, бо ахоўваюць псіхічнае і фізічнае здароўе чалавека, бароняць яго ад стрэсаў, адзіноты, канфліктаў з сабою і асяродкам. Перайманне традыцый, што прапануюць нешта карыснае для гістарычнага



вопыту і стратэгіі выжывання чалавецтва ўвогуле, асабліва актуальнае сёння. Асэнсаванне спадчыны, пошук форм яе інтэграцыі ў сучаснасць патрабуе тэрміновых мер. Мікола Аляксеевіч пастаянна падкрэслівае: навідавоку імклівае затуханне шматвяковых традыцый народнай танцавальнай культуры, асабліва каранёвых, абрадавых форм, з кожным годам сыходзяць іх носьбіты. Народна-сцэнічны танец у аўтарскіх версіях губляе не толькі карані, але і лакальныя мастацкія прыкметы, дый у цэлым нацыянальную самабытнасць.

## Па старонках фаліянта

У выданні зроблена спроба напісання гісторыі аматарскай харэаграфіі Магілёўшчыны (сярэдзіна XX — пачатак XXI стагоддзя). Упершыню ў друкаваных крыніцах разглядаюцца ўзоры класічнай народна-сцэнічнай харэаграфічнай спадчыны рэгіёна, прапануюцца ўрокі беларускага народнага сцэнічнага танца.

На старонках кнігі М. Козенкі — фрагменты відэа, пластычныя вывы, рэстаўрацыя гэтых складнікаў танца — карагодаў, танцаў, скокаў. Расшыфроўкі музыкі, матэрыялы, якія даюць уяўленне пра адметныя асаблівасці аўтэнтычнай мясцовай харэаграфіі, аматарскай народна-сцэнічнай танцавальнай творчасці, а таксама мастацтваў, блізкіх да харэаграфіі (інструментальная музыка і сцэнічны касцюм). Найвялікшая каштоўнасць у тым, што выданне багата ілюстравана фотаздымкамі, малюнкамі, графічнымі схемамі. Ёсць фотаздымкі 1950-х гадоў, на якіх носьбіты традыцыі дэманструюць пластыку і рухі, адметныя для пэўнай вёскі.

У першым раздзеле "Народная спадчына" змяшчаюцца ўзоры карагодаў, танцаў, скокаў; сістэма комплексу танцавальнай лексікі, распрацаваная М. Козенкам (сістэма рухаў, крокаў, прытупаў, прысядкі, паставы галавы. Арнамент — малюнкі тых аўтэнтычных танцаў, якія пашчасціла зафіксаваць даследчыкам); найгрышы (музыка народных танцаў); агульная характарыстыка народных строяў Магілёўска-Падняпроўскага рэгіёна.

Раздзел "Аматарская творчасць" расказжа пра гісторыю і асобы творцаў гэтай плыні культуры, харэографаў, якія стваралі асновы народнага сцэнічнага танца (Мікола Дудчанка, Валянціна Гаявая, Мамікон Кіракозаў, Анатоль Іваноў і шмат іншых).

Раздзел "Узоры класічнай беларускай народна-сцэнічнай спадчыны Магілёўшчыны" прысвечаны па-мастацку дасканалым разнажанравым сцэнічным творам.

Для аматарскіх калектываў мастацкай творчасці ў раздзеле "Урокі беларускага народна-сцэнічнага танца (экзэрсіс ля станка)" спецыяльна распрацаваныя практыкаванні. Да кожнага дадаецца музычны матэрыял. Узровень развіцця сцэнічнага харэаграфічнага мастацтва патрабуе сёння ад самадзейных калектываў не толькі змястоўнага і адметна выбудаванага твора, але і прафесійнай падрыхтаванасці яго выканаўцаў. Толькі для гэтага раздзела зроблена 540 фотаздымкаў.

"Перад вамі вопыт аднаго балетмайстра Віктара Папова, які плённа выкладае. Але выкарыстоўвае і культуру іншых народаў. Бо нельга выконваць наш танец, не валодаючы пэўным культурным узроўнем".

Над першым томам гэтага выдання працаваў не вельмі вялікі калектыў: Ала Касінец — выкладчык Магілёўскага каледжа мастацтваў, Віктар Папоў — мастацкі кіраўнік заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь харэаграфічнага ансамбля "Рунь" Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры, спецыялісты Магілёўскага абласнога цэнтра народнай творчасці Алена Цішкевіч, Святлана Рыбакова, Наталля Русіян.

"Прапанова стварыць такое выданне з'явілася, калі мы пачалі працаваць над серыяй "Традыцыйная мастацкая культура беларусаў" (аўтар — Тамара Варфаламеева), — згадвае М. Козенка. — Шмат назапашанага матэрыялу, які не павінен застацца мёртвым. А яшчэ больш таго, што мы не паспелі запісаць — таму пакуль хапае работы і для нас, і для ўсіх, каго цікавіць беларуская народная культура. Плануем зрабіць серыю зборнікаў, у якіх павінен быць адлюстраваны лакальны рэгіянальны народны танец у шырокім аспекце". Як адзначае Мікола Аляксеевіч, гэта ўзор, паводле якога будуць пабудаваны астатнія кнігі.

М. Козенка звяртаўся па дапамогу ва ўпраўленне культуры Магілёўскага аблвыканкама, у прыватнасці, да начальніка ўпраўлення Анатоля Сінкаўца, каб знайсці грошы і замовіць тыраж хоць 500 экзэмпляраў — забяспечыць аматарскія калектывы і бібліятэкі. Не пашкодзіць наяўнасць кнігі і ў бібліятэках ВНУ.

Пры ўмове, што лёс гэтага выдання будзе шчаслівы, ёсць надзея, што калі-небудзь мода на беларускі народны танец, як сёння на ірландскі, ахопіць цэлы свет.

## У падтрымку чытання



**Генеральны дырэктар кінастудыі "Беларусьфільм" Алег Сільвановіч:**

## Не саромейцеся вучыцца

**Вольга НОРЫНА**

— У нас была багатая хатняя бібліятэка. У дзяцінстве вёў дзённік прачытанага. Сёння пагляджу, што прачытаў у 16 гадоў: амаль усю даступную на той час бібліятэку сучаснай прозы, Марыа Варгаса Льёсу, Каміла Хасэ Сэла, Тэадора Драйзера, Лао Шэ, Янсунары Кавабату, Хорхе Борхеса, Уільяма Фолкнера…

Неабавязкова дасканала помніць кнігу. Галоўнае, яна працуе над тваёй душой, фарміруе цябе як асобу, узбагачае твой лексікон, светапогляд. Роздум над прачытаным — гэта тое, што дазваляе табе стаць больш разумным.

Шмат чытаю і раю ўсім — чытаць трэба ўвесь час. Сёння на маім стале часопісы па прафесіі: "Мастацтва кіно", "Кінамеханік" і інш., тэарэтычная літаратура. Ты павінен удасканальвацца пастаянна. А не жадаеш расці — мяняй прафесію. Інакш зробішся самому сабе бронзавым помнікам. Будзеш расказваць адно і тое ж шмат разоў і сам не разумець, што цягнік жыцця пайшоў. А маладому чалавеку трэба ведаць, што калі хочаш быць цікавым для дзяўчат (а яны куды больш чытаюць і хутчэй прагрэсіруюць), каб быць заўважаным, трэба чытаць яшчэ больш. І не саромецца вучыцца. Ёсць шмат літаратараў, але бракуе кінасцэнарыстаў. На электроннай пошце кінастудыі ляжыць амаль 300 сцэнарных заявак. У першую чаргу чытаю тыя сцэнары, якія рэдактура ці моцна лае, ці моцна хваліць. Але літаратурны твор — вербальны, а кіно — гэта выява. Калі ты ўмееш звязна падаць думку на паперы, гэта яшчэ не азначае, што можаш стварыць добры сцэнарый. Чамусьці Уладзімір Караткевіч, ужо вядомы пісьменнік, не пасаромеўся павучыцца ў Маскве на двухгадовых курсах кінасцэнарыстаў. Алесь Адамовіч не пасаромеўся — раніцай вучыўся на курсах, а ўвечары чытаў лекцыі. Чаму б нашым пісьменнікам не паспрабаваць зразумець, у чым розніца? Ці ўзяць у суаўтары кінематаграфіста і зрабіць сапраўды годны праект, а не абвінавачваць ва ўсіх грахах рэдактуру кінастудыі.

## Мастак і кніга

**Красавіцкі каляндар шчодры на падзеі ў мастацтве Беларусі. Менавіта ў гэтым месяцы адзначаюць свае юбілеі Валерый Славук і Уладзімір Савіч, трымаючы творчую справаздачу перад калегамі і сябрамі. Агульнымі ў іх былі і студэнцкія гады: разам вучыліся ў творчай майстэрні. Выстаўку твораў В. Славука "Туш і пяро" можна ўбачыць да 23 красавіка ў галерэі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, выстаўка старшыні Беларускага саюза мастакоў У. Савіча адкрываецца сёння ў галерэі "Беларт".**



*У. Савіч. "З рога ўсяго многа".*

# Складнікі творчага азарэння

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**— Уладзімір Пятровіч, што асабліва ўразіла падчас вашай вучобы?**

— Я вельмі люблю глядзець мастацкую "кухню". Калі вучыўся ў рэспубліканскай школе музыкі і выяўленчага мастацтва, нас, малых, вадзілі па творчых майстэрнях. І тое першае ўражанне дасюль памятаю. Палотны, гара цюбікаў ад алейнай фарбы…

**— Калі б сёння давялося праводзіць майстар-клас, на чым бы вы засяродзілі ўвагу?**

— Што вызначае майстэрства? Безумоўна, прафесіяналізм. Але галоўнае — кожны мастак павінен размаўляць мовай сваёй зямлі. Ведаць свае карані, спадчыну, этнаграфію, фальклор, літаратуру.

Упэўнены, беларускае мастацтва зойме сваю нішу ў сусветнай культуры, але перш за ўсё павінна быць праца. Каб зрабіць выдатны твор, трэба скочыць трошкі вышэй за галаву. Але гэта рэдкі момант. Натхненне даруецца звыш, актыўная праца ўздымае да яго. Калі яны сустракаюцца, тады і атрымліваецца тое, што называюць азарэннем.

Прыкладам з майго жыцця расказаў бы пра працу над дыпломам. Быў цэйтнот. Я рабіў літаграфіі да твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ў два колеры. Калі першы колер аддрукавалі, трэба было рабіць другі, раптам зразумеў, што ўжо адразу на камені бачу, што мне трэба рабіць. Колькі часу мінула, а твор і сёння дастойны. Нічога перарабіць не хочацца.

Ці яшчэ. Многа ездзілі па Беларусі. Быў вельмі ўзрушаны абрадам "Гуканне вясны". Хацелася не праілюстраваць — перадаць гук. Ёсць лінія гучання ў музыцы, ёсць лінія гучання ў выяўленчым мастацтве. Дык вось жаданне было, каб загучала. Я зрабіў шмат варыянтаў. Здавалася, на маленькіх недзе атрымоўвалася перадаць галоўныя складнікі — вецтрык і блакіт. Адыход чорнага перад белым. Але ўнутранае пачуццё падказвала, што працаваць трэба ў вялікім памеры. А ў вялікім не атрымлівалася. Было шмат варыянтаў. Я не спыняўся — і раптам за дзве гадзіны дасягнуў мэты. Пасля гэтага страшэннага напружання нават заснуў на месяцы.

Толькі падчас працы прыходзіць азарэнне.

**— А ці ёсць у вас любімы час для працы?**



*Вокладка альбома "Мастацтва Беларусі" (Масква, "Галарт", 2010), для якой выкарыстаны фрагмент работы У. Савіча.*

— Не вылучаю раніцу, вечар. Люблю прыцемкі: калі папрацаваў у майстэрні, стаміўся, пачынае прыцемак зазіраць у вокны. Дзень яшчэ не скончыўся, а вечар не пачаўся. Ты можаш быць задаволены ці не вельмі, але праз нейкае марыва зірнеш на тое, што зроблена, і задасі сабе пытанні, на якія, можа, звычайна і не вельмі ахвота адказваць.

**— Уладзімір Пятровіч, што галоўнае не спыталіся за гэтыя гады ў вас журналісты пра творчасць?**

— Шчыра скажу, прэсай я не пакрыўджаны. Калі іншы раз і крыўдую, то толькі сам на сябе. Бо многія ідэі засталіся нерэалізаванымі па розных прычынах.

**— Калі вы адчуваеце сябе шчаслівым?**

— Самае вялікае шчасце для любога мастака — штодня працаваць творча і рабіць тое, чаго твая душа патрабуе.

**— Якія творы падрыхтавалі да юбілейнай выстаўкі?**

— Прызнаюся, рэтраспектыўных выставак не люблю. Заўсёды стараюся, каб экспанаваліся творы за апошні час. Не стаўлю мэту кагосьці здзівіць, у першую чаргу трэба самому паглядзець трошкі збоку на тое, што зрабіў і як на творы рэагуюць іншыя. Бо ў майстэрні да ўласных работ хутка прызвычайваешся, вока "прымыльваецца". Выстаўка — добрая нагода самому сабе даць адзнаку: што "недацягнуў", у які бок трэба ісці. Дакладна яшчэ не вызначыўся. Абмяркоўваю тры варыянты. Вельмі важна, каб экспазіцыя была культуральная, каб не перагрузіць. Калі, умоўна, выстаўка будзе складацца з 10 твораў, у мяне гатовых будзе 30 — каб было з чаго выбраць. Да самага апошняга моманту ідзе творчы працэс.

Але гэта першая ластаўка, а вялікая юбілейная выстаўка будзе ў верасні ў Нацыянальным мастацкім музеі. Хочацца адсунуць усе справы і займацца толькі яе падрыхтоўкай, ды сённяшняя пасада не дазваляе мне цалкам прысвяціць сябе творчасці. Але ж справы кінуць не магу — гэта будзе проста амаральна.

**— Якія пытанні сёння найбольш хвалююць як кіраўніка творчай суполкі?**

— Як старшыня Саюза і як выкладчык БДАМ не магу не думаць пра будучыню нашага мастацтва. Крыўдна, калі шэсць гадоў укладваў душу ў студэнта, бачыў станаўленне мастака, як ён рухаўся да пэўных вышынь, а пасля раптам знік для творчасці, бо вымушаны займацца пошукам сродкаў для існавання. Абмяркоўваў гэта пытанне з польскімі калегамі. У Польшчы пяць мастацкіх акадэмій, пастаянна ідуць прагляды (конкурсы) работ маладых, усіх, хто атрымаў узнагароды, бяруць пад сваё крыло і стымулююць — ці выстаўкай, ці фінансавай падтрымкай і г.д. Усё робіць, каб дапамагчы маладому чалавеку раскруціць свой творчы механізм. Трэба і ў нас забяспечыць сістэму падтрымкі.

Карыстаючыся нагодай, звяртаюся да пачынаючых творцаў: статутам патрабуецца пяць выставак, неабходных для ўступлення ў маладзёжнае аб'яднанне, — прыходзьце да нас, дапаможам. Апрача ўдзелу ў трох выстаўках штогод (маладзёжная, "Калядны фэст", вясновая) не адмовім у месцы на любой, калі будзе прапанаваны прыстойны твор.

Аб'ядноўвайцеся ў групы з сябрамі, пішыце заявы на дапамогу ў арганізацыі калектыўных выставак. Наша база — Палац мастацтва, галерэі "Мастацтва" і "Беларт". Маем магчымасць выйсці ў абласныя арганізацыі: у полацкую карцінную галерэю, у Ліду, у Гомельскі палацава-паркавы ансамбль. На жаль, за апошнія гады такіх звротаў былі адзінкі. Таму галоўны напрамак нашай дзейнасці — мацаваць звязку "Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў — Саюз мастакоў".

# Графіка як паэзія

Вольга ПАЛОМЦАВА

Шаравата-блакітны колер сцен нядаўна адрамантаванага памяшкання Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў спрыяў успрыманню графічных работ Валерыя Славука, на якіх ажывалі і дэманстравалі яркія характары як незвычайныя фантастычныя істоты, так і зусім рэальныя персанажы. На ўрачыстым адкрыцці сабраліся сябры, калегі, студэнты, прыхільнікі творчасці і таленту Валерыя Пятровіча, прагучала шмат добрых слоў у адрас юбіляра.

Уладзімір Савіч, старшыня Беларускага саюза мастакоў, адзначыў: "Асоба мастака надзвычай цікавая. Ён майстар дыяганалі: можа ўзяць белы аркуш паперы, паставіць кропку ў левым ніжнім кутку і дайсці да верхняга правага, — і ўсё складна, і ўсё скампанавана".

Мастачка Алена Вашчанка прызналася: "Валерый Пятровіч — вялікай душы чалавек, і гэта адчуваецца ў яго работах. Яны выкананы з любоўю да кожнай намаляванай істоты. Заўсёды ўражвае яго скрупулёзнасць, распрацоўка кожнай дэталі і яго багатая фантазія. Казкі робіць шмат хто з нас, але ў яго і жыццёвыя сюжэты — як казачныя. Кожная галінка дрэва і травінка набываюць асаблівы глыбокі сэнс. Мне вельмі падабаюцца яго вобразы. І тое, што адмоўныя казачныя персанажы ўсё роўна сімпатычныя, а не жудасныя".

Мастак Уладзімір Вішнеўскі падкрэсліў: "Выстаўка незвычайная. Валерый Славук адлюстроўвае і рэальнае, і нерэальнае фантастычнае жыццё. І кожны раз адкрывае гледачу нешта новае".

Пра непаўторны свет чароўнай казкі, створаны Валерыем Славуком, гаварыў і загадчык кафедры графікі БДАМ Юрый Хілько.

Рэктар БДАМ Міхал Баразна параўнаў творчасць юбіляра з паэзіяй: "Разважаць пра яго мастацтва — гэта як гаварыць пра паэзію. Ці ў захапленні з вялікай колькасцю эпітэтаў, ці намагацца амаль матэматычна апісаць складнікі: колькасць складоў і да т.п. Але ўсё роўна апісаць гэту з'яву не атрымаецца".

Загадчык кафедры МДМ Уладзімір Зінкевіч высока ацаніў патаемны свет работ Валерыя Славука: "Мы шчодрыя на высокія адзнакі замежным творцам, але чамусьці саромеемся назваць нашага суайчынніка геніем. Валерый Славук гэтага азначэння заслугоўвае".

## Пад вокладкай

Марына ВЕСЯЛУХА



**Смирнов, Н.И. Прощай, "империя", или Из жизни контрразведки… / Николай Смирнов. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 272 с.**

Героем гісторыка-дакументальнага рамана з'яўляецца франтавік, дэсантнік, палкоўнік КДБ Віктар Махоркін. Яго баявы шлях пралягаў праз Ленінградскі фронт, Беларусь, Румынію, Венгрыю, Аўстрыю і Чэхаславакію. Запісы з асабістых дзённікаў Махоркіна перамяжоўваюцца ў рамане з апаведам аўтара пра пасляваенныя гады, адзначаныя супрацьстаяннем спецслужб. Падчас напісання кнігі аўтар выкарыстоўваў малавядомыя матэрыялы з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Цэнтральнага апаратўнага архіва ФСБ Расіі і свой асабісты архіў.



**Грамыка, М. В. Беларускі пейзажны жывапіс першай паловы XX стагоддзя / М. В. Грамыка. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 167 с.**

У выяўленчым мастацтве ў розныя часы на першы план выходзілі розныя жанры. Для сучаснага беларускага мастацтвазнаўства актуальным з'яўляецца даследаванне пейзажа першай паловы XX ст., бо менавіта ў гэты час адбывалася фарміраванне нацыянальнай школы пейзажа, праходзіла далейшае развіццё традыцыйных яго разнавіднасцей і складванне новых. У даследаванні Марыі Грамыкі вызначана спецыфіка ролі пейзажа ў беларускім выяўленчым мастацтве, разгледжаны эвалюцыя традыцыйнай тэматыкі і новыя тэндэнцыі, асветлена творчасць найбольш значных майстроў.



**Новосельский, В.В. История Великого княжества Литовского от рождения до Люблинской унии (1236 — 1569): Великий князь Миндовг (1236 — 1263) / В. В. Новосельский. — Минск: Элайда, 2012. — 308 с.**

Як толькі што народжаная дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае — нягледзячы на многія цяжкасці, змагла не толькі выжыць, але і стала адной з наймацнейшых у сярэднявечнай Еўропе? У чым прычына гэтага феномена? Толькі ў ваяўнічасці аўкшайтаў і жамойтаў, у знаходлівасці палітычных лідараў? Гэта, канечне, так. Але галоўныя прычыны хаваюцца ў іншым. Іх і шукае ў сваёй кнізе гісторык і пісьменнік Валерый Навасельцаў.



**Гарсия Маркес, Г. Любовь во время чумы / Габриэль Гарсиа Маркес; пер. с исп. Л. П. Синявской. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 508 с.**

Беларускі чытач ужо даўно мае магчымасць знаёміцца з творамі вялікага Маркеса. Перш за ўсё — праз пераклады на рускую мову. Але цяпер, калі гэтыя пераклады выдаюцца легальна, калі ў Расіі выйшлі і кніга ўспамінаў пісьменніка, і яго біяграфія, напісаная расійскім журналістам, асабіста знаёмым са знакамітым аўтарам, усё, што пабачыла свет раней, успрымаецца нібыта па-новаму. Так і раман пра каханне, якое перамагае ўсё — час і прастору, жыццёвыя нягоды і нават недасканаласць чалавечай душы, сёння чытаецца зусім па-іншаму.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

# Два апавяданні



Раіса Дзэйкун

## Вёска і …«Паска»

Як і спрадвеку, Вёска рыхтавалася да Вялікадня — галоўнага веснавога свята. Гаспадары-мужчыны паглядвалі на гадавалых парсюкоў — якога спадручней заколоць? Калі таго, што хвацка хлёбае-хапае мешанку — з яго будзе добрае, тлустае сала і кумпякі, а як таго, што перабірае ядою, выварочвае яе з карыта — сала будзе з мяснымі пражылкамі, а сцёгны — сухаватымі.

Галовы жанчын былі заняты іншым. Хаты "да Паскі", як на Палессі кажуць, павінны былі зіхацець чысцінёю — каб жа суседзі не абгаварылі, а госці пахвалілі, ды самім было ўтульна і радасна сустракаць Вялікі святы дзень. За месяц-другі да яго гаспадыні выносілі на прасушку і праветрывалі падушкі, матрацы, дываны; з вокнаў знімалі фіранкі, гардзіны — на мыццё-падсіньванне; бялілі грубкі, печы, столі і кухні. Некаторыя, маладзейшыя, мянялі ў пакоях шпалеры. Пасля такога "марафету" ў хатах станавілася чыста і святочна.

Прыбіраліся-падмяталіся і панадворкі, наводзіўся парадак нават у хлявах, адрынах. Падграбаліся агароды. Дзе-хто па восені ўправіўся пазгрэбваць стары бульбоўнік і папаліць яго, а хто — спецыяльна пакінуў, каб з бацвіння дажджы і снег вымачылі-вымаразілі ўсе спажыўныя рэчывы адразу ў зямлю. Пасля зімоўкі рэшткі бульбоўніку вяскоўцы сцягвалі да куч і палілі. Дым ад смаленых кабаноў, паленага смецця на агародах перамешваўся ў адзін пах, які прадвяшчаў, што хутка настане Вялікдзень.

Вопратцы жанчыны таксама ўдзялялі не абы-якую ўвагу: старэйшыя шылі новыя сукенкі або кофты ў мясцовай краўчыхі, маладзейшыя ехалі па ўборы для ўсёй сям'і на базар у Хойнікі або ў Чарнігаў (на пароме да яго рукой падаць). Там яны прыкуплялі сабе штосьці маднейшае, а старым маткам — "свежую" хустку-гарусоўку, вігоневую або шарсцяную кофту з кішэнямі (у адну — лузанцоў, у другую — семак насыпаць, каб, седзячы на лавачцы святочнай вуліцы, частавала суседак і вулічную дзятву).

А ўжо як сур'ёзна і адказна гаспадыні ставіліся да працэдуры фарбавання яек — спаконвечнага, нязменнага атрыбута доўгачаканага Вялікадня! Адны на працягу года збіралі шалупінне з цыбулі, іншыя, каб пафарсіць і ўцерці носа суседкам, куплялі на базары фарбы. Дзеці аж біліся за тыя сінія ці зялёныя "крашанкі", бо пафарбаваныя шалупіннем былі не такія, на іх погляд, прывабныя. "Пад вялікім сакрэтам" яны загадзя расказвалі-хваліліся адно аднаму, у каго якія яйкі будуць, і дамаўляліся, на што будуць гуляць "у мацакі".

Напярэдадні свята, у Вялікую суботу, "удосвета", над камінамі хат да неба ўзвіваліся колцы дыму — колцы жывой, людной вёскі. Гаспадыні пачыналі чараваць над прыгатаваннем абрадавай і святочнай ежы. Перш-наперш замешвалася цеста для выпякання ў печы велікодных булак-кулічоў — без іх якая ж "Паска"? Цеста павінна было "падысці", каб жа булкі былі "бухонымі" (пульхнымі), а не пляскатымі блінамі. У кожнай гаспадыні Вёскі былі свае рэцэпты іх прыгатавання, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Яйкі, малако, тварог былі дамашнія — мука, разынкі і дрожджы загадзя прыдбаны-нарыхтаваны. Пакуль у дзежачках, місках, тазіках падыходзіла цеста для булак, печ застаўлялася вялізнымі чыгунамі з бульбай — для жывёлы. Тры дні Вёска будзе гуляць-адпачываць. Яе жыхары, "ад малога — да вялікага", ведалі: "Працаваць на Паску — вялікі грэх!" Карміць-паіць жыўнасць грахом не лічылася. Усе велікодныя дні печ не будзе паліцца — так ушаноўвалася смерць Збавіцеля. Калі печ добра прагравалася, наступала чарга кумпякоў, булак, яек… Ужо апоўдні Вёска плыла-купалася ў водарах смажанай, печанай, варанай ежы. Напярэдадні чакала перадвелікодная ноч набажэнства — "усяночная".

Потым наступаў доўгачаканы ранак таго дня, калі гаспадыні паводле спаконвечнага звычая сваіх дзядоў-прадзедаў налівалі ў місачку са свянчонымі "крашанкамі" ваду і ўся сям'я апаласквала тою вадой твары, каб былі яснымі, прыгожымі цэлы год. Толькі пасля гэтай працэдуры можна было сядаць за святочныя сталы. Першымі трэба паспытаць велікодную булку, яйка (пабіцца перад гэтым ім з сямейнікамі) і толькі потым прыступаць да смакавання ўсяго таго, чым застаўляўся стол. Закончыўшы велікодны сняданак, вяскоўцы выходзілі на святочныя вуліцы і "хрыстосаваліся" з суседзямі. З нязменным воклічам: "Хрыстос уваскрос!", а тыя у адказ: "Ваісціну ўваскрос!" — тры разы абдымаліся-цалаваліся і абменьваліся "крашанкамі". І так — тры дні!..

Кажуць: чалавек толькі гадае, а Бог — ведае і мае!

Ніхто з тых, хто так рыхтаваўся да Вялікадня, нават у самым жудасным сне не бачыў, што якраз "на Паску", у святы дзень, калі ў праваслаўных цэрквах будзе адбывацца асвячэнне велікодных яек і булак-кулічоў, ім давядзецца пакідаць сваю Вёску…

У той чорны год і ў той майскі дзень, што таксама стаў чорным, у Вёсцы адбыўся вялікі гвалт. Аўтобусы, нібы вялізныя ненажэрныя жукі-пачвары, забіралі сваю здабычу — людзей — і везлі іх (пад трывожныя сірэны даішных "канарэек") і ад булак-кулічоў, і ад кумпякоў, і ад "крашанак-мацакоў".

Пасля таго, на здзіўленне, сонечнага, як заўжды, дня, таго праклятага Богам і людзьмі года, над камінамі хат Вёскі болей не віўся колцамі ў неба шэра-блакітны дым жыцця, паветра болей не было напоўнена смачнымі пахамі печанага, смажанага, вэнджанага. Па яе вуліцах болей не бегалі з "мацакамі" дзеці, на лавачках не сядзелі ў святочных уборах людзі, дзяўчаткі-падлеткі не ішлі да бліжэйшага лесу па першакветкі.

Вуліцы Вёскі сталі ў той дзень пустымі і чыстымі. Без людзей, без рознакаляровага шалупіння яек, семак і арэхаў яны хутка пачалі травянець, а з часам зараслі быльнягом і хмызнякамі.

У той год, "на Паску", Вёска… памерла…

І толькі былым яе жыхарам яна і цяпер сніцца. Сніцца жывая…

## Начныя змоўшчыкі

Прыехаў да бацькоў у вёску Шура і не вытрымаў — на золку, тайком, каб не разбудзіць яшчэ сонных старых, выйшаў на двор. Пад страхой адрыны віселі лазовыя кашалі і берасцяныя каробкі. Зняў адну з іх — "самую пахватную", як пра яе казала маці. Ногі самі павялі да веснiц на агарод — за ім пачынаўся лес. Змалку, разам з братамі і сёстрамі, ён бегаў-хадзіў сюды па ягады, грыбы, арэхі-лузанцы і жалуды. Ведаў, як і ўсе ў іх сям'і, кожнае грыбовішча, самыя ягадныя мясціны, урадлівыя ляшчыны і старыя дубы-волаты ва ўрочышчы Будзішча пад Дубровіцай. Лясныя дармавыя (толькі не лянуйся) дары: сушаныя, вараныя, настоеныя, закатаныя ў слоікі — не пераводзіліся ў іх хаце. Без лесу палешукі не ўяўлялі сабе жыцця. А пасля той, праклятай Богам і людзьмі, Чарнобыльскай аварыі сюды няма дарогі. Лес стаў небяспечны. Да ўсяго таго, што ў ім расло, нельга нават дакранацца, не тое што ўзяць ды есці. Але дзе ж тут утрымаешся?

Абышоў-прадзёрся па ўсіх сямейных грыбовішчах, якія сніліся па начах, і набраў-выбраў поўную каробку адборных маладых баравікоў і падасінавікаў. Старых, якіх было процьма, не чапаў. Калі прынёс іх дахаты, маці з бацькам толькі ахнулі ад радасці і здзіўлення. (Пасля аварыі, пастарэлыя неяк разам, бацькі баяліся хадзіць у лес). Ні слова не кажучы, селі ўтраіх перабіраць: аглядаючы, абмацваючы і нюхаючы кожны грыб. Бацькі пыталіся пры гэтым, на якім грыбовішчы ён узяў таго ці іншага "красеня". Калі закончылі перабіранне, сын адняў трэцюю частку грыбоў і са словамі: "Шуры пакажу (жонка — таксама Шура), хай пацешыць душу, яна ж такая ж заўзятая грыбніца, як і я", — склаў іх у невялікае пластмасавае вядзерца, а вядзерца паставіў у пакет. Тыя, што засталіся, маці акуратненька разлажыла на бляхе і засунула ў вытапленую печ. Па прывычцы. (Колькі ж тых блях з грыбамі яна высушыла за сваё жыццё!). Вячэрнім прыгарадным цягніком Шура вярнуўся дамоў, у Хойнікі.

— Паглядзі, што я прывёз, — паказаў ён пакет на кухні, калі іх дзеці забаўляліся ў пакоі. Яго Шура ціха ахнула і хутчэй закрыла той пакет: дзеці пабачаць, грыбоў захочуць, яны ж іх смажанымі так любілі…

— Палюбуйся, адвядзі душу і тады занясу ў кантэйнер, — сказаў ён, а сам, вінавата глянуўшы на сваю Шуру, пайшоў да дзяцей. Тая ўсунула галаву ў пакет і пачала нюхаць — водар-пах лясных прыгажуноў, не перадаць, — потым затуліла і схавала пакет пад стол. Змахнула з вачэй няпрошаную слязінку.

Вечарам, калі паўкладвалі спаць дзяцей, іх маці Шура дастала з-пад стала грыбы, памыла іх у некалькіх водах (у адной дык з воцатам), потым адварыла ў трох водах (кожны раз зліваючы яе прэч), пасля пасмажыла пад накрыўкай, дадала цыбулі, лаўровага ліста, перцу. Пакуль управілася з тымі грыбамі, надышла ноч. Шура-гаспадар не спаў. Чакаў грыбоў. Дачакаўшыся, ён, абыякавы да піва, паставіў на стол бутэльку з гарэлкай. Моўчкі паналіваў у кілішкі па грамаў пяцьдзясят. На гэта яго Шура і слова не сказала. Як моўчкі выпілі, так моўчкі і накінуліся яны сярод ночы на тыя грыбы, бы век не бачылі. Потым ён зноў капнуў у чарчыны па пяць грамаў. Елі-глыталі смажэнне, як змоўшчыкі, часта аглядваючыся на дзверы кухні, — баяліся, што ад грыбнога паху папрачынаюцца дзеці і таксама захочуць гэтай смакаты.

…Хойнікі. Ноч. У трохпакаёвай кватэры мікрараёна "Меліяратар" на кухні за чыстай патэльняй сядзяць двое і мараць пра той час, калі яны, не хаваючыся, будуць есці-смакаваць любімыя з дзяцінства грыбы.

# Пяць неадпраўленых лістоў

## *Апавяданне*



Святлана Кражава

Ні бясклапотныя, радасныя хлопчыкі, ні пярэстыя адкормленыя каты не сноўдаюцца па дварах вёсачкі Лажкі — ужо шмат гадоў непалоханыя вавёркі гойсаюць па скрыўленых дахах, дзяцел стукае ў струхнелыя сцены хат. Там, у хатах, не запальваецца святло ўвечары, не чуваць ні размоў, ні музыкі…

Пуста. На стале ў колішнім дзіцячым пакоі сядзіць рудавалосая лялька, побач з ёй жаўцее стос канвертаў, на якіх ледзь-ледзь можна адрозніць ужо выцвілы дзіцячы почырк… У родную вёсачку Лажкі ад Алесі Канапелькі з "гуманітарыя".

Зона адсялення. Лісты без штэмпеляў. Відаць, не пошта, а нейкі выпадковы чалавек прывёз іх сюды, у невялічкую беларускую вёсачку, у дом, дзе калісьці жыла шматдзетная сям'я, гучаў дзіцячы смех, а ў двары залівіста абвяшчаў раніцу гарласты певень, мыкала карова ды дзелавіта хадзіў за гаспадыняю пушысты кот. Нехта ж чытаў гэтыя дзіцячыя лісты… Сёння толькі сонечныя промні прабягаюць па выцвілых радках. Мудрае Неба, яно дакладна ведае пра тое, што адбываецца на прыгожай, але тленнай зямлі, на якой усё ніяк не пасталее наіўнае чалавецтва, якое з цяжкасцю спасцігае ісціны і бясконца робіць адны і тыя памылкі.

### Ліст першы

І вось пачаўся наш "гуманітарый". Завезлі нас вучоныя ад нашай бяды — ад радыяцыі. Але ж і ад вас. Калі мы ехалі па Беларусі, ішоў дождж. Навокал — імглістыя палі і лясы. Матуля, родненькая, як ты паспяваеш без мяне з двайнятамі і неслухам Грышкам? Хто сустракае Рагулю з пашы ўвечары?

Задумалася пра вас, а тут дзеці крычаць, што мы ўжо за мяжой. Нашы выхавальнікі пры чужых ветліва ўсміхаюцца, а калі нікога няма побач — толькі аддаюць распараджэнні. Нічога. Вопратку ў нас забралі. Замест сукенак выдалі фізкультурную форму, сказалі, у іншых краінах сукенкі насіць не прынята, усе носяць штаны. І навошта толькі сястрычка аддала мне сваю любімую сукеначку з карункамі!

### Ліст другі

Учора прыйшлі дактары — вучоныя немцы, хоць бы хто рускі. Бабуля здзівіцца: немцы нас выратоўваюць! Карткі гартаюць, вывучаюць нашы хваробы, аналізы. Ківаюць галовамі — вельмі нас шкадуюць. Усім далі па шакаладцы. І ўсё пра нейкую "цёцю" паўтаралі, ды так сур'ёзна: "Тотэн, уэр"*.

Потым надарылі нам мяккіх кубікаў ды лялек Барбі. Калі дазволяць узяць, я прывязу, сястрычка і малыя парадуюцца. Хутчэй бы дамоў!

### Ліст трэці

Адзін доктар на маленькага Колю кажа Ніколя. Мы пачалі яго дражніць: "Ніколі-Ніколі, не будзе ніколі". Ён заплакаў. Стала шкада яго, я ім крычу: "Маўчыце, дурні!" Потым яго пачалі Колікам клікаць. Мы з ім пасябравалі, гуляем у футбол. Вакол санаторыя, дзе мы тады жылі, лужкоў вельмі шмат. Толькі мы там нядоўга заставаліся. Сталі нас раздаваць па сем'ях.

Коліка да сябе ўзялі пажылыя ўрачы. А нас, сябровак, усіх чацвярых, узяла адна сям'я, добра, што не па адной, а то было б вельмі сумна. Хаця лепей бы дахаты хутчэй адправілі. Яшчэ кепска — кроў ідзе часта з носа і галава баліць.

### Ліст чацвёрты

Раз-пораз нас водзяць да дактароў. Мы думалі, яны нас у вёску завязуць, бо яны размаўлялі пра нейкія "палявыя замеры", але не, па-ранейшаму ўсе жывём у горадзе па сем'ях. Толькі ў бальніцы бачымся. Нас вучаць на камп'ютары гуляць. А так бы добра поле ўбачыць, матылёў. Усё чакаю, калі скончыцца гэты "гуманітарый", каб хутчэй дадому. Толькі, здаецца, і канікулы тут пройдуць. А блізняты без мяне моцна падраслі? Як ты без мяне ўпраўляешся, мамачка?

### Ліст пяты

Нас вазілі на мора! Але зямля тут не такая, як у нас — чужынная, жорсткая. Нават сесці на яе непрыемна. Сонца паліць. А ў вас, перадаюць, дажджы. Можа, ужо і грыбы пайшлі? Але ж радыяцыя, збіраць нельга…

Вадзілі нас у сваю царкву, кажуць, Бог для ўсіх адзіны.

Сумую па дзядзьку Сцяпану і цётачцы Кацярыне, бабулі Ганне. Часта думаю пра іх.

Хтосьці прывёз Алесьчыны лісты дадому. Магчыма, іх прачыталі, ды адказваць на іх не было каму і не было куды. Ды ці да іх было? Усё кінулі пры адсяленні. Раніцай на лісты кладуцца сонечныя промні, уначы на іх глядзяць зоркі. Часам цікаўная вавёрка зазірне праз акно ў чалавечае жытло… Сёння Алесі было б за трыццаць. У яе была б сям'я, дзеці…

Стаіць у зоне адсялення закінутая вёска, ляжаць дзіцячыя лісты ў пустой хаце. А чалавек рыхтуецца ўвасобіць у жыццё новыя ідэі, парабляючы тое, што дасталося яму ад Бога.

**Пераклад з рускай Вольгі Паўлючэнкі**

* Смяротна, безнадзейна.

# Памяць праз вобраз

Галія ФАТЫХАВА

**Нельга жыць і не помніць страшны дзень 26 красавіка 1986 года, які змяніў, перакуліў, зламаў лёсы тысяч і тысяч людзей. За словам “Чарнобыль” для нас — не толькі катастрофа на атамнай станцыі, а і складанае спляценне праблем: палітычных, эканамічных, экалагічных, маральных. І хаця шмат было зроблена і робіцца дзяржавай для пераадолення няўмольных наступстваў радыяцыі, праблемы, звязаныя з ёю, ёсць і сёння. І знаходзяць сваё пранізліва-ўражлівае ўвасабленне ў выяўленчым мастацтве.**

**Чарнобыльская бяда** — гэта з’ява без колеру і паху. Як яе паказаць? Нашы мастакі знайшлі свае індывідуальныя падыходы, увасабляючы радыяцыю падобнай да туману, што пранік у нашы душы, целы, робячы іх пустымі, халоднымі, неўспрымальнымі да дабра: радыяцыя абяцае смерць… Творы гэтай тэматыкі ў розных відах і жанрах экспанаваліся і экспануюцца ў выставачных залах Беларусі і далёка за мяжой. Яны не страчваюць сваю актуальнасць, уражваюць гледача і надоўга застаюцца ў памяці.

Помняцца вобразы жывапісных палотнаў “Апаленыя крылы” І. Белановіча, ”Боль маёй Беларусі” У. Вальнова, “Мёртвая вёска” В.Валынца, “Жанчына з кветкай” Л.Гоманава, “За што, Госпадзі” Л.Дударэнкі, “Трывожная цішыня” У. Кухарава, “Чарнобыль. Тут былі людзі” У.Маскоўскіх, “Адвечны боль” А.Рыбчынскага; у графіцы — “Зона забруджання” М. Арсаланава, серыя “Квадрат Чарнобыля” Л. Асецкага, ”Пакутныя духоўнага Чарнобыля” У. Басалыгі, серыя “Прывіды маёй маленькай Радзімы” У. Васюка, “Бабіна лета ў Мазыры” П. Дурчына, трыптых “Прадчуванне бяды” А. Кашкурэвіча, серыя “Маўчанне” У. Савіча, “Сухія кветкі” А.Сеслікавай, серыя “Краіна забыцця” Р. Сітніцы. Помняцца скульптурныя творы “Загінулым пры тушэнні пажару на АЭС прысвячаецца” М.Дробыша, “Людзі і дрэвы” А. Купрыянава, “Чорная вестка” У.Слабодчыкава, “Апагей” Л.Яшэнкі; у кераміцы — “Метамарфозы” А. Зіменкі, “Кліч” Т. Курачыцкай, “Жанчыны Палесся” А. Ярмоленкі; у ручніках — “Дакрананне”, Травень”, “Дзічкі” П. Бондара. А яшчэ плакаты “26 красавіка 1986 года” Л. Гоманава, “Божа, злітуйся” У. Жука, “Нябачная вайна” Я. Хайруліна; серыя мастацка-графічных рэканструкцый “Нацыянальны касцюм раёнаў Чарнобыля” М. Раманюка... А хто ж не памятае цыкл манументальных палотнаў М.Савіцкага “Чорная быль” (“Крыж надзеі”, “Эвакуацыя”, “Плач па зямлі”, “Рэквіем”, “Відушчы”, “Настальгія”, “Пакінутыя”, “Чарнобыльская мадонна”, “Доля”, “Забароненая зона”)! Па моцы ўздзеяння гэтыя карціны можна параўнаць з яго ж вядомым ваенным цыклам “Лічбы на сэрцы”. Прысвечаныя чарнобыльскай навале работы сталага майстра, выкананыя ў высокіх акадэмічных традыцыях, узрушваюць той вобразнай пераканальнасцю, з якой увасоблена пачуццё неадступнай трагедыі, страху нябачнай смерці.

**Ад гэтай балючай тэмы**, здаецца, не застаўся ў баку ніводзін творца. І асабліва яскрава раскрывалі глыбіню экалагічнай небяспекі праз свой эмацыянальны творчы роздум тыя жывапісцы, якія з’ездзілі на тэрыторыю адчужэння ў маі 1987 года. У смертаноснай зоне яны рабілі натурныя замалёўкі, эцюды, накіды. Як самая лепшая з серыі “Чарнобыль” Валерыя Шкарубы была адзначана кампазіцыя “Туман” (1987, дыплом Саюза мастакоў БССР). Твор уражвае філасофскай глыбінёй. Позірк гледача прыцягвае нейкае невытлумачальнае святло, атмасфера, якая зыходзіць з глыбіні палатна і прымушае зноў і зноў углядацца ў яго. Здаецца, што яшчэ трошкі — і туман паступова паглыне ўсё жывое і стане адчувальным у рэальнасці. Аўтар знаходзіць аналогію: радыяцыя падобная да туману, які хавае нешта страшнае, што немагчыма ні зразумець, ні прадбачыць, ад чаго дранцвее душа, робіцца чэрствай і абыякавай...

У работах Уладзіміра Кожуха на тэму чарнобыльскай трагедыі з-за сухой дакументальнасці прагладае метафарычна абагульнены, глыбока псіхалагічны вобраз. З яго серыі “Чарнобыльская хроніка” мяне асабліва ўражвае “Вар’ят” (1987). Які экспрэсіўны вобраз! Не ведае гэты небарака, як яму змагацца з невядомай бядою, боль і адчай на яго твары, бо не хоча ён пакідаць родны кут, сваю зямлю. Чалавек нібы хоча разагнаць цёмныя атрутныя хмары.

**Не магу не засяродзіць увагу** на творчасці Віктара Шматава, для якога чарнобыльская катастрофа сталася вялікай асабістай трагедыяй, падарвала здароўе, скараціла жыццё мастаку. Нарадзіўся ён за 27 кіламетраў ад цяперашняй “зоны”; на маляўнічым беразе Дняпра, сярод неабсяжных лугоў, магутных дубнякоў і соснаў прайшло яго дзяцінства. Прырода Палесся, сакавітыя і кантрасныя фарбы поўдня Беларусі, адметны фальклор адбіліся ў яго творчасці. Серыі работ В. Шматава прысвечаны родным мясцінам. Сюды ён неаднойчы наведваўся з эцюднікам. І да выбуху ў Чарнобылі, і пасля. Ды толькі тэматыка і назвы яго работ змяніліся: “Палессе пасля Чарнобыля”, “Чарнобыльская трагедыя”... Яны напісаны ў рэалістычнай манеры, проста і даходліва, і кожная мае сваю гісторыю. Палатно “Пахаванне ў чарнобыльскай зоне” нарадзілася адразу пасля паездкі ў Магілёўскую вобласць у вёску Калыбень, што за 18 км ад Чарнобыля. Жудасная сцэна — пахаванне забруджаных радыяцыяй вёсак — занатавана мастаком. З гэткай жа суровай экспрэсіяй напісаныя ім “Дарога ў зону”, “Палескія крыжы”... Карціны такога кшталту беларускія гледачы не купляюць. Але за мяжой — у Францыі, Германіі, Італіі, ЗША, калі там разам з іншымі нашымі мастакамі выстаўляў свае творы В. Шматаў, іх набывалі.

Яго карціна “Маці” — велічны, абагульнены вобраз Радзімы-Беларусі, была задуманая В. Шматавым падчас паездкі з экспедыцыяй у зону ў 1991-м. Размаўляючы з вяскоўцамі, якія адмовіліся выехаць з небяспечных мясцін, рабіў замалёўкі. Ствараў некалькі карцін, і нарэшце з’явілася тая, пра якую загаварылі. Жанчына, увасобленая на ёй, не крочыць, яна нібы ляціць. Аблокі — як белыя крылы, раскінутыя над зямлёй, над маляўнічым палескім краявідам з Дняпром ды неабсяжнымі пушчамі. Твар жанчыны самотны, з пячаткай трагізму. Але ва ўсёй постаці бачны нязломны характар. Насуперак нягодам яна мкне наперад...

**Адзін з першых** адгукнуўся на чарнобыльскую бяду ўраджэнец Гомеля Віктар Барабанцаў. У яго палотнах (“Эвакуацыя”, “Кінуты двор”, “Трывожны крык”, трыпціх “Зона” і “Тут была вёска” ды інш.) — шчырае імкненне данесці сэнс убачанага ў пацярпелых раёнах, перасцерагчы людзей ад сусветнай катастрофы. Тэма Чарнобыля і сёння трывожыць мастака. А праз яе ён прыйшоў і да тэмы асэнсавання рэлігіі ў сваёй творчасці.

У жывапісе Уладзіміра Гардзеенкі пранізліва гучыць тэма любові да роднага Палесся ў спалучэнні з тэмай неадступнага болю мастака за трагічны лёс непаўторна прыгожага, самабытнага кутка, за лёс дарагіх землякоў. Запамінальныя сюжэтна-тэматычныя карціны, партрэты, пейзажы, нацюрморты (серыя “Палессе. Драма ХХ стагоддзя”, палотны “Перасяленцы”, “Чырвоныя дрэвы”, “Час каметы Галея”, “Край майго дзяцінства”, “Музыка мёртвых струнаў”, “Замест некралога, або Ваневы тапачкі” , “Пеўні тут болей не спяваюць” і шмат іншых) ярка раскрываюць талент жывапісца і моцна ўзрушваюць гледача.

**Чорнай ліняй** праходзіць гэтая тэма і ў беларускім дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Аляксандр Кішчанка зрабіў габелен “Чарнобыль” (10 х 4 метры), які цяпер знаходзіцца ў будынку ААН. У творчай спадчыне мастака і тэматычная работа “Ён будзе жыць”: цяжарная маладая жанчына ў чарнобыльскай зоне думае пра будучае немаўля.

Наша знаная суайчынніца Вольга Дзёмкіна, якая цяпер жыве ў Францыі, жыла і працавала на радзіме, калі здарылася чарнобыльская катастрофа. Менавіта ў Беларусі мастачка стварыла свае вядомыя габелены “Чорная быліна” (1989), “Крыніца часу”, “Зорка Палын” (1991). “Чорная быліна” мае і другую назву: “Пра ненароджаных дзяцей Палесся”. Твор гэты В. Дзёмкіна прысвяціла сваёй сястры, якая стала ахвярай чарнобыльскай трагедыі. На габелене — жанчыны ў жалобе: з-за радыяцыйнага абпрамяньвання яны змушаныя пазбавіцца плода, які выношвалі з такой любоўю. Поўныя смутку вочы мацярок зямлі беларускай, апаленых Чарнобылем.



*Габелен Вольгі Дзёмкінай «Зорка Палын» (1991).*

**Не пералічыць** усіх персанальных выставак, якія нашы мастакі прысвячалі чарнобыльскай тэме і ладзілі не толькі ў беларускіх гарадах, але і ў Расіі, Германіі, Літве, Іспаніі, Балгарыі, ЗША, Францыі, Швейцарыі, іншых краінах. Трагедыя адлюстравалася і ў творчасці дзяцей: адпаведная выстаўка была паказана ў Дзіцячым рэабілітацыйным цэнтры “Ждановічы”, вандравала па Беларусі, экспанавалася за мяжой. Пра “мірную” трагедыю нашай зямлі даведаліся ўсе, хто пабываў на выстаўках, якія праходзілі ў далёкіх ад нас краінах. Тэма чарнобыльскага болю нагадала пра сябе з новай вастрынёй, калі год таму ў Японіі выбухнула Фукусіма... Яшчэ адна вялікая бяда на агульнай для ўсіх Зямлі — як жудасны знак апакаліпсісу, папярэджання тым, хто ў клопатах пра вырашэнне надзённых праблем не задумваецца пра перспектыву, пра лёс будучых пакаленняў і страчвае пільнасць перад “мірным” атамам.

Беларусь пераадольвае наступствы катастрофы, што здарылася вясною 1986-га. Мастакі шукаюць актуальныя падыходы да вобразнага асэнсавання чарнобыльскай тэмы, каб з новаю сілай выказаць сваю неабыякавасць і душэўную трывогу.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Сёння ў Мінску адбудзецца ўрачыстае адкрыццё II міжнароднага фестывалю “Уладзімір Співакоў запрашае”. Грандыёзны гала-канцэрт сусветных зорак, лепшых оперных салістаў Еўропы і СНД, будзе суправаджаць Нацыянальны філарманічны аркестр Расіі пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР У. Співакова. У праграме — арыі, аркестравыя фрагменты з твораў В. А. Моцарта, Дж. Вердзі, Ш. Гуно, Ж. Бізэ. Пройдзе канцэрт у НАВТ оперы і балета Беларусі. Тут плануецца і незвычайная фестывальная імпрэза: паказ фільма Чарлі Чапліна “Агні вялікага горада” пад жывое гучанне яго легендарнай музыкі ў выкананні расійскіх гасцей на чале са знакамітым маэстра. Закрыццё фестывалю — 28 красавіка ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.



*Маэстра Уладзімір Співакоў.*

Міжнародны фестываль этнакультур ладзіцца па 20 красавіка ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў межах XXI міжнародных навуковых чытанняў памяці Л. Мухарынскай. У праграме чытанняў і фестывалю, паяднаных агульнаю назвай “Музычная культура Беларусі: новыя кірункі даследаванняў”, бяруць удзел навукоўцы, выканаўцы, этнаграфічныя калектывы з розных краін. Даклады, відэапрэзентацыі спалучаюцца з жывымі канцэртамі, якія прадстаўляюць песенны ды інструментальны фальклор еўрапейскага і азіяцкага культурных рэгіёнаў.

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра “Зьніч” пад кіраўніцтвам Галіны Дзягілевай рыхтуе імпрэзу “Увесь ён — воля і свята” (паэзія Аляксандра Блока ў перакладах Сяргея Грахоўскага і класічная музыка XIX — XX стагоддзяў). У гэтым спектаклі, які абудзецца 25 красавіка ў Белдзяржфілармоніі, удзельнічаюць музыканты Таццяна Шумакова (цымбалы), Наталля Сазановіч (фартэпіяна) ды драматычныя артысты Уладзімір Рагаўцоў і Галіна Дзягілева.

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы сумесна з Беларускай дзяржаўнай акадэміяй музыкі правялі літаратурна-музычную імпрэзу “Янка Купала — выток паэзіі і музыкі”, прысвечаную юбілею народнага паэта. Вершы песняра, музычныя творы на яго словы, а таксама музыку, навеяную творчасцю і асобай класіка, выканалі паэты Сяргей Панізнік, Павел Шруб, выкладчыкі БДАМ Віктар Войцік, Вячаслаў Кузняцоў, Уладзімір Каральчук, Мікола Літвін, Ларыса Мурашка, Сяргей Янковіч, а таксама студэнты і аспіранты гэтай ВНУ.

БЕЛАРУСКІ САЮЗ МУЗЫЧНЫХ ДЗЕЯЧАЎ

**Сучасныя інтэрнэт-тэхналогіі дазваляюць кожнай творчай асобе прадэманстраваць свае здабыткі ўсяму свету. Традыцыйная камунікатыўная форма мастацкай творчасці —"тут і зараз" — змянілася на больш мабільную і гіпермасавую: дзе заўгодна і калі заўгодна". Можна паслухаць канцэрт ці пазнаёміцца з цікавым сцэнічным творам, не выходзячы з кватэры. Аднак эмоцыі і ўражанні ад мастацтва, якія атрымліваеш у рэальнасці, ні з чым не параўнальныя. Таму расійскім, а дакладней — саратаўскім знаўцам і меламанам, якія прысутнічалі на прэм'еры харэаграфічнай сімфоніі "Шчыгрын" беларускага кампазітара, прадстаўніка БСМД Андрэя Мдзівані, пашанцавала больш, чым карыстальнікам YouTube.**



*Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар Андрэй Мдзівані.*

# Прагучаў «Шчыгрын»

Вера **ГУДЗЕЙ-КАШТАЛЬЯН**

Канцэрт адбыўся ў Вялікай зале Саратаўскай кансерваторыі імя Л. В. Собінава, якая сёлета адзначае 100-годдзе з дня заснавання. Твор Андрэя Мдзівані прагучаў у выкананні Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Саратаўскай абласной філармоніі імя А. Шнітке; дырыжор — малады беларускі маэстра Яўген Сцепанцоў.

Дарэчы, імя А. Мдзівані добра ведаюць у гэтым расійскім горадзе. Трыццаць гадоў таму ў Саратаўскім тэатры аперэты ўпершыню была пастаўлена музычная камедыя "Дзяніс Давыдаў" — першы сцэнічны твор нашага кампазітара. Праз некалькі гадоў адбылася прэм'ера і ў Мінску, у тэатры музычнай камедыі.

Харэаграфічная музыка паводле вядомага рамана Анарэ дэ Бальзака "Шчыгрынавая скура", напісаная ў 2006 г., упершыню прагучала ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі чатыры гады таму, у выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава. Яго ўвасабленне "Шчыгрыну" А. Мдзівані было бездакорнае і пераканаўчае. Дзякуючы Яўгену Сцепанцову і, вядома ж, саратаўскаму аркестру партытура, расквечаная рукой майстра аркестрава-тэмбральнага пісьма, адметная тэатральнай выразнасцю і эмацыянальнай выразнасцю, загучала па-іншаму. Параўнаўшы з першым "прачытаннем", можна казаць, што нарадзіўся новы твор.

Глыбокі філасофскі змест, сумяшчэнне лірыкі і трагедыйнасці, сімволікі, алегарычнасці, іроніі, фантастычнага і рэалістычна-жыццёвага, таксама ж "магічныя магчымасці драмы", якія ўтрымлівае бальзакаўскі твор, робяць яго прыцягальным для інтэрпрэтацый у іншых мастацкіх формах. Ёсць экранізацыі, тэлеспектакль, кароткаметражная стужка, якую кінакрытыкі назвалі псеўдадакументальна-іграваой. Твор А. Мдзівані ў сваім родзе ўнікальны, прывабны і арыгінальным зместам, пераасэнсаваным у параўнанні з бальзакаўскім раманам, і своеасаблівай кампазіцыйна-драматургічнай структурай, і незвычайным жанравым азначэннем, што прадугледжвае як сцэнічнае, так і канцэртнае выкананне.

Раскрыць тэму "Шчыгрынавай скуры" — значыць паказаць Жыццё ў барацьбе з Жаданнем — пачаткам усялякай Жарсці. Трагедыйны зыход гэтага сутыкнення наканавана спасцігнуць таму, хто валодае шчыгрынам. "Жадай — і жаданні твае будуць выкананыя. Але сувымярай свае жаданні са сваім жыццём. Яно — тут. З кожным жаданнем я буду скарачацца, як твае дні", — выцісната на скуры. Праблема выбару, у якой выяўлены лёсавызначальны дуалізм існавання, у музыцы "Шчыгрыну" асэнсоўваецца перш за ўсё праз пакутлівы роздум і тэму кахання, праз зямное і ўзнёслае. У вобразна-тэматычнай шматпланавасці твора сутыкаюцца мара і рэальнасць, трагізм светаўспрымання і радасць быцця, усведамленне дваістасці наканаваных абставін і напружаная атмасфера чакання шчасця, знітаваныя тэмай шчыгрыну — сімвалічным вобразам-талісманам, вобразам смутку.

У арсенале выразных сродкаў аўтара аркестраваму пісьму належыць галоўнае месца. Магчыма гэта перадусім робіць харэаграфічную сімфонію А. Мдзівані прывабнай як для масцітых, так і для маладых дырыжораў. "Вельмі ўдзячны за высокапрафесійнае выкананне, — выказаўся аўтар музыкі пасля саратаўскай прэм'еры. — Таксама было прыемна, калі падчас апладысментаў Яўген Сцепанцоў узняў партытуру "Шчыгрыну" над сабой, тым самым дэманструючы, што гэты твор яму блізкі, што ён як дырыжор здолеў выявіць найбольш важнае ў гэтай музыцы".

Леанід **ФЕДАРОНАК**

# Музыка над Бугам

**Брэст ужо даўно стаў горадам фестываляў. Штогод тут ладзяцца святы музычнага і тэатральнага мастацтва. Улетку святкаванне Дня горада ўпрыгожваюць канцэрты "Берасцейскага балю", узімку новы год распачынаюць "Студзеньскія музычныя вечары", а вясна прыносіць традыцыйнае свята "Тыдзень музыкі для дзяцей і юнацтва". Арганізатарам і творчым кіраўніком гэтых падзей шмат гадоў з'яўляецца заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь, выкладчык Брэсцкага музычнага каледжа імя Р. Р. Шырмы, член праўлення БСМД Лілія Батырава. Яе апантаная праца спрыяе стварэнню ў горадзе атмасферы святла і дабрыні, творчага настрою, выхаванню ў жыхарах і гасцях Брэста любові да акадэмічнага мастацтва.**



*Госця імпрэзы — кампазітар Ларыса Мурашка.*

Сёлетні "Тыдзень музыкі для дзяцей і юнацтва" запомніўся яго ўдзельнікам як непаўторная падзея: канцэрты, майстар-класы, творчыя сустрэчы. Адкрыццё "Тыдня" адбылося на сцэне Брэсцкага абласнога тэатра музыкі і драмы. Гэты канцэрт стаў вялікім падарункам для прыхільнікаў музыкі. У выкананні народнага артыста Беларусі, прафесара Ігара Алоўнікава і сімфанічнага аркестра мясцовага музычнага каледжа (мастацкі кіраўнік — Людміла Жабінская) прагучаў Першы канцэрт для фартэпіяна Ф. Ліста. Слухачы атрымалі асалоду ад выканальніцкага майстэрства і прафесіяналізму нашага знакамітага піяніста. Таксама ў праграме бралі ўдзел навучэнцы каледжа Сірануш Сарыбекян і Сяргей Альтшулер: яны саліравалі, адпаведна, у Канцэртах Э. Грыга і Ф. Шапэна. Цікавым і пазнавальным для студэнтаў каледжа аказаўся майстар-клас Ігара Алоўнікава, прысвечаны асаблівасцям выканання фартэпіянных твораў Ё. Гайдна, чыё 280-годдзе з дня нараджэння адзначыў увесь музычны свет.

Падчас "Тыдня" адбылася творчая сустрэча з кампазітарам, дацэнтам Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ларысай Мурашкай. Яна распавяла пра беларускую кампазітарскую школу, асаблівасці і складанасць прафесіі кампазітара, пра сваё творчае станаўленне, настаўнікаў. Навучэнцы каледжа і музычнай школы пры каледжы спецыяльна да гэтай сустрэчы падрыхтавалі творы беларускіх аўтараў Ларысы Мурашкі, Віктара Войціка, Галіны Гарэлавай, Генаддзя Ермачэнкава і з вялікім натхненнем выканалі іх у канцэртнай праграме. Юныя музыканты атрымалі шчырую падтрымку слухачоў і сваёй госці. Цікавым і яркім працягам сустрэчы стаўся паказ музыкі навучэнцаў каледжа, якія займаюцца кампазіцыяй у класе маладога творцы, выкладчыка Юрыя Цагойкі. На завяршэнне імпрэзы салістка Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя І. І. Жыновіча Ніна Кавалёва выканала ў суправаджэнні Л. Мурашкі песні Ларысы Фёдараўны "Прызнанне" на верш Таісы Мельчанкі ды "Бацькаўшчына" на верш Уладзіміра Караткевіча. Уражанні ад візіту кампазітара, прыемныя ўспаміны застануцца ва ўдзельнікаў сустрэчы надоўга.

Такое свята музыкі для моладзі ў Брэсце — падзея незвычайная і добры знак таго, што класічнае мастацтва не страціла сваю годнасць, запатрабаванасць і збірае вакол сябе прыхільнікаў высокай музычнай культуры. Рэпертуар удзельнікаў канцэртаў — і калектываў, і салістаў — быў шматгранны і разнастайны. Гэта творы рускай і заходняй класікі, беларускіх кампазітараў. У выкананні цымбальнага аркестра (кіраўнік — Р. Перачняк) прагучалі дзве часткі Сімфоніі № 13 Д. Смольскага; цымбальнага ансамбля "Лілея" (кіраўнік — А. Літвінчук) — п'есы У. Кур'яна, Г. Ермачэнкава, А. Безенсон; аркестра рускіх народных інструментаў (кіраўнік — Л. Стрэлава) — музычная кампазіцыя "Аперацыя «Багратыён»" Ю. Цагойкі, прысвечаная вызваленню Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Закрыццё "Тыдня музыкі для дзяцей і юнацтва" таксама адбылося ў зале тэатра. Удзельнікамі канцэрта былі ансамбль "Пружанскі Палацык" і Арт-група "Беларусы".

Непаўторныя, добрыя, шчырыя ўражанні кранулі сэрцы прыхільнікаў музычнага мастацтва. Няхай будзе доўгім і па-творчаму плённым жыццё ўсіх фестываляў брэсцкай зямлі.

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.
Тэлефоны:
*(017) 222-37-33 — працоўны;*
*(029) 507-55-05 — МТС;*
*(029) 699-32-00 — Velcom.*

# Ад Урадавай да Прэзідэнцкай

**Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь (да 1992 г. — Урадавая бібліятэка імя М. Горкага) знаходзіцца на сваім гістарычным месцы — на цокальным паверсе правага крыла Дома Урада. З пары, калі з асобных наркамаўскіх бібліятэк стваралася адна — урадавая, прайшло шмат часу. Лёс бібліятэкі як дзяржаўнай кніжніцы для забеспячэння патрэб улады і кіравання знітаваны з лёсам самой краіны з 1933 года. Цяпер існуюць яшчэ два яе філіялы — у памяшканні па вуліцы К. Маркса, 38 (рэзідэнцыя Прэзідэнта краіны) і выканкама СНД.**

**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота Кастуся Дробава**

Рашэннем Кіраўніка дзяржавы Прэзідэнцкай бібліятэцы ў мінулым годзе было прадастаўлена дакументасховішча па вуліцы К. Маркса, 38. Цяпер асноўныя фонды перамясціліся туды. Пра новыя ўмовы мы гутарым з дырэктарам Сяргеем Квачаном.

**— Сяргей Іванавіч, дакументасховішча прадугледжвае стварэнне самых аптымальных умоў для захавання фонду. Якія тэхналагічныя навінкі будуць выкарыстоўвацца для гэтага?**

— Захаванне друкаваных дакументаў фонду з'яўляецца прадметам нашай асаблівай увагі. У дакументасховішчы ўстаноўлена сучаснае тэхнічнае абсталяванне, падключанае да высакахуткаснага канала сувязі.

Для захавання фонду важнае значэнне маюць паказчыкі вільготнасці, тэмпературы, паветраабмену і асвятлення памяшкання. Гэтыя крытэрыі выконваюцца. Устаноўлена магутная сістэма вентыляцыі, якая забяспечвае замену 2 — 3 аб'ёмаў паветра за гадзіну. Аўтаматычна падтрымліваецца аптымальная тэмпература (ад +16 да +20 градусаў) і неабходная вільготнасць — ад 50 да 60 працэнтаў. У памяшканні ўстаноўлена сучасная сістэма апавяшчэння пра пажар і сістэма газавага пажаратушэння. Ёсць таксама комплекс стацыянарных паясоў, з дапамогай якіх праводзіцца абяспыльванне фондаў, бо пыл — самае небяспечнае асяроддзе для папяровых дакументаў, дзе размнажаюцца шкоднікі. У памяшканні вытрымліваюцца асаблівыя ўмовы з выкарыстаннем асвятляльных прыбораў пэўнай магутнасці, а таксама забяспечваецца абарона ад сонечнага святла, каб не дапусціць выгарання тэкстаў. Прыём чытацкіх запытаў вядзецца ў рэжыме рэальнага часу з выкарыстаннем аўтаматызаванай бібліятэчна-інфармацыйнай сістэмы (АБІС). Укараненне яе дазволіла скараціць час падбору дакументаў для чытачоў.

**— Ці магчыма будзе ў новым памяшканні праводзіць рэстаўрацыю і кансервацыю дакументаў, што вельмі важна для выданняў, якія захаваліся праз стагоддзі?**

— Супрацоўнікі аддзела дакументазахавання выяўляюць пашкоджаныя дакументы. Калі такія знаходзяцца, іх перадаюць у спецыялізаваны аддзел, які выконвае працы па пераплёце і рэстаўрацыі. У новым дакументасховішчы было выдзелена два асобныя памяшканні і набыта адпаведнае абсталяванне: выцяжныя шафы, спецыялізаваны стол для рэстаўрацыі.

Плануем выкарыстоўваць гэтае абсталяванне з вялікай загрузкай. Зазвычай мы вяртаем да жыцця каля тысячы кніг у год. Але ў кожным выпадку трэба гаварыць пра аднаўленне паасобку. Працэс рэстаўрацыі адной кнігі можа займаць і дзень, і тыдзень, а магчыма, нават і больш. Трэба выкарыстоўваць самыя сучасныя тэхналогіі, і тут важна вытрымаць прынцып "не нашкодзь". Бяздумная рэстаўрацыя можа зрабіць больш шкоды, чым дапамагчы.

Што да фонду рэдкай кнігі, то мы падыходзім да рэстаўрацыі вельмі і вельмі асцярожна.

**— Недасведчаны чалавек можа падумаць, што ў Прэзідэнцкай бібліятэцы і чытач асаблівы. Хто ж сёння з'яўляецца вашымі наведвальнікамі?**

— Бібліятэка выконвае дзве функцыі: як прэзідэнцкая і як парламенцкая. У Расійскай Федэрацыі, прыкладам, гэта дзве розныя бібліятэкі.

Кніжніца з'яўляецца галіновым бібліятэчна-інфармацыйным цэнтрам і цэнтрам навукова-дапаможнай бібліяграфіі па праблемах дзяржаўнага кіравання і парламентарызму, права, эканомікі і грамадскіх навук. З гэтага перадусім вынікае асноўны характар яе фондаў. Акрамя таго, у сховішчах знаходзіцца і найкаштоўнейшыя зборы старадрукаў і рэдкіх выданняў.



Таму нашы чытачы — Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, супрацоўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, Савета Міністраў, Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, прадстаўнікі мясцовых органаў улады, кіравання, а таксама і звычайныя грамадзяне: пераважна юрысты, эканамісты, упраўленцы, работнікі праваахоўных органаў, дзяржаўныя служачыя, выкладчыкі ВНУ і студэнты. У сярэднім розныя падраздзяленні бібліятэкі выдаюць каля трох тысяч дакументаў. Значна павялічваецца колькасць чытачоў у пятніцу. З красавіка гэтага года мы падоўжылі працу да 19 гадзін.

**— У наступным годзе Прэзідэнцкая бібліятэка будзе святкаваць свой пачэсны юбілей — і яна мае цікавую гісторыю!**

— Так, вялікая роля ў стварэнні кніжніцы належыць яе першаму дырэктару Сямёну Ашаровічу, які кіраваў бібліятэкай трыццаць гадоў, з 1935-га па 1965-ы. Паводле ўспамінаў былых супрацоўнікаў, кніжніца брала актыўны ўдзел у жыцці горада, была ініцыятарам і арганізатарам многіх сустрэч з цікавымі людзьмі таго часу і карысталася вялікай папулярнасцю. Чытальная зала і абанемент былі адчыненыя да 23 гадзін 45 хвілін, уключаючы суботу і нядзелю.

На пачатак вайны фонд складаў 250 тыс. экзэмпляраў. Але ў гады вайны ён быў разрабаваны. На Нюрнбергскім працэсе ў распараджэнні абвінавачвання меўся дакумент — даклад нямецкага яфрэйтара Абеля "Пра бібліятэкі ў Мінску". Даследаваўшы кніжніцы горада, ён адзначаў, што ўсе вынішчаны. Чытаем: "Горкаўская бібліятэка… Тут было сабрана самае каштоўнае з усіх сфер навукі. Пасля таго, як бібліятэку моцна разрабавалі яшчэ да майго прыходу, над уваходнымі дзвярыма была прыбіта дошчачка «Рэквізавана на карысць Узброеных сіл»". На пяты дзень пасля вызвалення Мінска, 8 чэрвеня 1944 года, бібліятэка прадоўжыла працу. Вялікую дапамогу ў вяртанні культурных каштоўнасцей, вывезеных нямецка-фашысцкімі захопнікамі, аказаў Маршал Савецкага Саюза Канстанцін Ракасоўскі. Вядомы факт, што па яго распараджэнні для гэтых мэт быў выдзелены эшалон, у ім былі і кнігі для бібліятэк Беларусі. Дапамагалі і іншыя ваеннаслужачыя. У архіве бібліятэкі захаваўся ліст ад старшага тэхніка лейтэнанта Фёдара Смусь, у якім ён паведамляў, што знайшоў у адным з падвалаў завода ў Польшчы фрагменты фонду нашай бібліятэкі. У час вяртання кніг з паўднёвых раёнаў Германіі і Польшчы (дзе знаходзілі сховішчы) траплялі ў наш фонд і кнігі з іншых бібліятэк. Да прыкладу, у нас маецца частка фонду (каля 1000 кніг і часопісаў) Рускай Тургенеўскай бібліятэкі з Парыжа і кнігі (каля 200) заходнееўрапейскіх бібліятэк. Цяпер створаны Музей Прэзідэнцкай бібліятэкі, дзе захоўваюцца матэрыялы пра вечары беларускай літаратуры, сустрэчы пісьменнікаў з чытачамі, на якіх прысутнічалі Якуб Колас (1941), Пятрусь Броўка (1946), Максім Танк (1946), Янка Брыль (1954), Іван Шамякін (1980). Маем шмат архіўных матэрыялаў, якія расказваюць, як выглядалі чытальныя залы розных перыядаў, захаваліся публікацыі пра бібліятэку ў прэсе. Беражом і друкаркі, канцылярскія прылады — усё, што выкарыстоўвалася ў тады яшчэ Урадавай бібліятэцы імя М. Горкага. Цяпер вось мяркуем стварыць віртуальны музей.

**— Сённяшняя бібліятэка, зразумела, адрозніваецца ад сваёй папярэдніцы…**

— Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь — сучасны інфармацыйны цэнтр. Камп'ютарызаваны ўсе асноўныя працэсы: ад паступлення да выдачы літаратуры чытачам. Ёсць свой сайт з электронным каталогам і онлайн-заказам дакументаў (http://www.preslib.org.by), паслугай электроннай дастаўкі дакументаў і віртуальнай даведачнай службай.

Да паслуг нашых карыстальнікаў — унікальны фонд бібліятэкі, каля 1,5 мільёнаў адзінак захоўвання. Арганізаваны доступ да 17 паўнатэкставых баз даных, перадусім па эканоміцы, палітыцы, праве, статыстыцы і кіраванні. Чытачам даступныя 1300 назваў серыйных выданняў. Фонд штогод папаўняецца на 35 — 40 тыс. выданняў. Мы атрымліваем абавязковы экзэмпляр усёй кніжнай прадукцыі і перыёдыкі, што выдаецца ў краіне, актыўна супрацоўнічаем з шэрагам замежных бібліятэк у рамках міжнароднага кнігаабмену.

Сярод нашых партнёраў — Прэзідэнцкая бібліятэка імя Б.М.Ельцына, Парламенцкая бібліятэка Дзяржаўнай Думы Расіі, Расійская нацыянальная бібліятэка, Бібліятэка Вярхоўнай Рады Украіны, Парламенцкая бібліятэка Рэспублікі Малдова, заканадаўчай палаты Олій Мажліса Рэспублікі Узбекістан, Прэзідэнцкая бібліятэка Упраўлення справамі Прэзідэнта Азербайджанскай Рэспублікі, Бібліятэка Мілі Меджліса (Парламента) Азербайджанскай Рэспублікі, Бібліятэка Сейма Рэспублікі Польшча.

Сёння Прэзідэнцкая бібліятэка Рэспублікі Беларусь імкнецца пашыраць шэраг інфармацыйных паслуг. Калектыў кніжніцы, падтрымліваючы традыцыі, ідзе ў нагу з часам і здольны забяспечыць запыты кожнага з чытачоў.

**Візітка**

*Дырэктар Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Сяргей Квачан пасля службы ва Узброеных Сілах паступіў у Мінскі інстытут культуры, па заканчэнні якога працаваў у бібліятэцы Мінскага інстытута электронікі і радыётэхнікі. Займаўся пытаннямі аўтаматызацыі, праз 5 гадоў перайшоў працаваць намеснікам дырэктара па камп'ютарызацыі Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэкі. Затым вярнуўся намеснікам дырэктара бібліятэкі ў БДУІР, цяпер узначальвае Прэзідэнцкую бібліятэку. Першапачатковая адукацыя: бібліятэкар-бібліёграф.*

# Галасы на скрыжаваннях

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Марыны Ступінскай

**Дарэннем кніг бібліятэкам Бранска, Курска і Чарнігава распачаўся “круглы стол” у Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. І. Леніна. У стосах з 25 выданняў — выключна беларускамоўная літаратура.**

## Цяжкі толькі пачатак

Сярод перададзеных у кніжніцы Расіі і Украіны выданняў — Якуб Колас “На ростанях”, У. Караткевіч “Каласы пад сярпом тваім”, І. Чыгрынаў “Выбранае”, І. Навуменка “Дзяцінства. Падлетак. Юнацтва”, І. Пташнікаў “Пагоня”, Р. Баравікова “Казкі з гербарыя”. Яны цяпер будуць знаходзіцца ў куточках беларускай літаратуры і дапамогуць суайчыннікам на роднай мове прачытаць класікаў і сучасных творцаў. Мяркуецца, што падобны абмен літаратурай паспрыяе абнаўленню фондаў бібліятэк і ўмацуе сяброўскія стасункі.

На міждзяржаўную сустрэчу ў Гомель прыехалі прадстаўнікі Украіны, Расіі і Беларусі: з тым каб абмеркаваць значэнне кнігі не толькі ў кантэксце гісторыі сусветнай культуры, але і ў наш час інфармацыйных тэхналогій. Дырэктар Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі Валянціна Дуброва зазначыла:

— Галоўная мэта нашай сустрэчы — прыцягнуць увагу да мастацкага слова. На самай справе ўстойлівая тэндэнцыя падзення цікавасці да чытання ёсць. І ў аб’яўлены Год кнігі варта парупіцца, каб змяніць сітуацыю да лепшага. Сапраўды, існуюць новыя інфармацыйныя тэхналогіі, але, думаю, мы ўсё ж знойдзем разумны баланс паміж электронным і друкаваным варыянтамі кніг. Мы хацелі пачуць пра цікавы вопыт нашых калег з Расії, дзе праблемы падобныя да нашых, але да рашэння іх расіяне падышлі крышку раней і да гэтага часу назапасілі пэўны вопыт. Бясспрэчна, ён нам карысны. Вельмі важна, каб на шляху прасоўвання кнігі бібліятэкі не засталіся ў адзіноце. Магчыма, цяпер праца будзе больш сістэмнай, і ўстановы адукацыі ды іншыя грамадскія структуры аб’яднаюць свае намаганні.

## Усім светам

На “круглым стале” прысутнічалі навукоўцы, выкладчыкі, бібліятэкары. Такім чынам, праблема разглядалася комплексна. А ў фае разгарнулася выстаўка “Лепшыя кнігі ўсіх часоў”.

Гутарку распачаў дэпутат Гомельскага абласнога Савета дэпутатаў Валерый Сяліцкі, які нагадаў думку Дзмітрыя Ліхачова: “Бібліятэкары — апошнія святыя на зямлі”. І ў час, калі змяншаюцца тыражы кніг, калі найбольш адчуваецца ўплыў новых тэхналогій і чалавек “бяжыць” па жыцці, яны яшчэ могуць зацікавіць вартымі творамі і знайсці чытачоў. На карысць друкаванай кнігі, упэўнены В. Сяліцкі, працуе тое, што да яе мы прывыклі з дзяцінства. Акрамя іншага, яна мае сваю эстэтыку. Электронная ж кніга, якую вельмі хутка адшукаць, досыць папулярная ў маладзёжным асяроддзі. На думку дэпутата, у новых умовах бібліятэкі павінны стаць адмысловымі Дамамі ведаў. Прыклады такія мы назіраем, калі ў кніжніцах ствараюцца музеі, электронныя базы даных, працуюць кансультатыўныя і прававыя цэнтры, залы-галерэі ды інш.



*Выступае У. Гаўрыловіч.*

Між тым усё, звязанае са словам, мае сакральны характар, падкрэсліў прафесар Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны Іван Штэйнер. Ва ўсе часы у беларусаў была моцная вера ў слова. І варта паклапаціцца, каб яна мацавалася.

## Каранацыя слова

Бясспрэчна, досвед суседзяў па прапагандзе кнігі і чытання вельмі карысны. Пра яго распавялі госці “круглага стала”.

Прыкладам, існуе Усеўкраінскі конкурс “Каранацыя слова” — сумесны з тэлеканалам праект кампаніі “Крафт Фудз Украіна”. Гэта конкурс раманаў, кінасцэнарыяў, п’ес і песеннай лірыкі — з мэтаю падтрымкі сучаснай украінскай культуры, пошуку новых імёнаў, выдання раманаў у прыгожым афармленні, ілюстраваных кніг, стымулявання і развіцця сучаснага літаратурнага працэсу, кіно і тэатра, а ў выніку — напаўнення ўкраінскага рынку канкурэнтаздольнай літаратурай. Паводле бібліятэкара Чарнігаўскай абласной бібліятэкі Наталлі Карбоўскай, пра конкурс ведаюць чытачы і творцы, і гэта спрыяе цікавасці да чытання. За час яго існавання выдадзена больш як 100 раманаў, да ўдзелу ў конкурсе далучаюцца прафесійныя пісьменнікі.

Яшчэ пра адну чатырохгадовую праграму распавяла намеснік дырэктара ЦБС па працы з дзецьмі Гараднянскай бібліятэкі (Чарнігаўскай вобласці) Любоў Раманчук. Яны практыкуюць тэлемасты — са спецыялістамі іншых краін, з удзелам Украінскай бібліятэчнай асацыяцыі. Традыцыйна акцёры, спевакі, выдаўцы, пісьменнікі прыходзяць на сустрэчы з чытачамі, чытаюць уголас любімыя творы, распавядаюць пра ролю кнігі ў іх жыцці.

Калегі з Бранска і Курска падзяліліся ідэямі конкурсу “Бібліятэчная кроха” і праграмы “Бібліятэчная няня”, у якія, у прыватнасці, уваходзяць “кніжнае меню” і “літаратурныя абеды”, выстаўкі “Любімыя кнігі маёй сям’і”. З 2008 года ў Бранску пачалі на міжведамасным узроўні каардынаваць дзеянні ў імкненні аб’яднаць інтэлектуальны патэнцыял рэгіёна. Пра гэта распавяла загадчык аддзела Бранскай абласной навуковай універсальнай бібліятэкі імя Ф. Цютчава Вольга Канстанцінава.

На заканчэнне “круглага стала” слова ўзяў старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Гаўрыловіч. Ён распавёў пра стасункі з творцамі памежных тэрыторый, пра нядаўна заснаваны на Гомельскай зямлі Міжнародны саюз пісьменнікаў і дзеячаў мастацтваў. На ўзроўні губернатара цяпер абмяркоўваецца ідэя, блізкая да рэалізацыі, — стварэнне на базе Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна Музея літаратуры.

*Праектная дзейнасць*

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

# Якая паэтычная ноч!

**Вельмі арганічна ўвайшло ў жыццё беларусаў адносна новае свята — Ноч музеяў. Нацыянальны мастацкі, Мір, Нясвіж… Ды шмат яшчэ ў якіх куточках Беларусі практыкуюць падобныя вечарыны. Увага да іх — непадробная. Кожны мінчук у імкненні не адстаць ад жыцця завітвае на імпрэзы, каб на свае вочы даведацца: што ж гэта такое? Ці варта станавіцца іх заўсёднікам? І зазвычай становіцца: мастацтва, недасяжнае з-за загружанасці працоўных дзён, у вольны вечаровы час больш блізкае ды зразумелае. Калі, як не на заходзе сонца, можна дазволіць сабе няспешны роздум пра Вечнае?**

Вось яшчэ адна прапанова: Паэтычная ноч! Яе, прымяркоўваючы да Сусветнага дня паэзіі, правялі ў сталічнай бібліятэцы № 14 імя Францішка Багушэвіча. Загадчык бібліятэкі Наталля Стрыгельская распавяла:

— Гэта сумесная ідэя Цэнтралізаванай сістэмы дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска, Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і нашай бібліятэкі. Мы назвалі Паэтычную ноч “Сэрцам роднага слова краніся” і вельмі спадзяваліся, што яна дапаможа нашым чытачам больш даведацца пра багаты і прыгожы свет беларускай паэзіі, палюбіць яго.

З 16 гадзін пачыналіся прэзентацыі кніг для дзяцей — да гэтага часу ў іх скончыліся заняткі ў школах. Пазней прыходзілі творцы, што пішуць для падлеткаў, дарослых. Пра культуру нашых продкаў нагадалі ўдзельнікі ўзорнага тэатра народных традыцый “Пацешнік”, якія паказалі фальклорныя гумарыстычныя п’ескі.

Прайшла вечарына-партрэт “І вечнасць радка, як вечнасць жыцця...”, прысвечаная класіку беларускай літаратуры Францішку Багушэвічу, імя якога з 2000 года з гонарам носіць бібліятэка. На вечарыне была прадстаўлена выстаўка з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры пра жыццё і творчасць Ф. Багушэвіча. Упрыгожылі імпрэзу музычныя творы беларускіх кампазітараў у выкананні выкладчыкаў і навучэнцаў музычнай школы № 20 г. Мінска.



*Выступае ўзорны тэатр народных традыцый “Пацешнік”.*

У юбілейны год вельмі арганічна ў канве паэтычнай ночы прагучаў міні-марафон “Чытаем Купалу і Коласа разам”, у якім узялі ўдзел народная артыстка Рэспублікі Беларусь Марыя Захарэвіч, артыст і рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі. А ў наступную гадзіну на спатканне з чытачамі “Перабіраю, як пацеркі, словы…” прыйшлі Таццяна Сівец, Навум Гальпяровіч, Міхась Пазнякоў, Алесь Бадак. Узнёслы настрой падтрымаў ігрой на гітары выкладчык музычнай школы № 20 Фёдар Лысенка.

Паэтычную ноч віталі таксама ўдзельнікі суполкі творчай моладзі “Літаратурнае прадмесце” і навучэнцы лінгвагуманітарнага каледжа МДЛУ, а творцы Віка Трэнас, Аксана Спрынчан, Юлія Новік, Уладзімір Кандратаў і Алесь Емяльянаў чыталі свае вершы, спявалі.

Апошнім акордам стала гадзіна, прысвечаная Максіму Багдановічу. Узнёсла прагучала літаратурна-музычная кампазіцыя ў выкананні тэатра “Жывое слова” Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка.

Бібліятэка № 14 знаходзіцца ў Фрунзенскім раёне, які ахоплівае і Каменную горку, і Кунцаўшчыну, і заходнюю частку сталіцы.

— Раён — самы буйны ў Мінску, — зазначае Наталля Стрыгельская. — У ім — дзве публічныя бібліятэкі і тры дзіцячыя. Усе кніжніцы цесна супрацоўнічаюць са школьнымі бібліятэкамі. Бо імкнёмся да таго, каб навучэнцы лепш былі знаёмыя з творамі сучаснай літаратуры.

Раён забудоўваецца вельмі хутка, і бібліятэка чытачамі запатрабавана: ёсць неабходнасць у адукацыйным, інфармацыйным цэнтры.

Адметна, што ў кніжніцы маецца і зала, у якой праходзяць сустрэчы з пісьменнікамі, творчымі людзьмі, прэзентацыі новых выданняў, арганізоўваюцца мастацкія вернісажы і фотавыстаўкі. Летась праходзіла выстаўка нават у 3D-фармаце. Гэта былі “Падарожжы дылетанта” — фотаздымкі паводле новых вандровак, якія на беларускім тэлебачанні вядзе Юры Жыгамонт.

Што чытаюць? З найбольш запатрабаваных — мастацкая літаратура, літаратура для адпачынку. Апошнім часам вяртаецца цікавасць да твораў класічнай літаратуры, якія прымушаюць думаць, разважаць, да гістарычнай кнігі. Студэнты і школьнікі таксама знаходзяць тут матэрыялы, неабходныя ім для паспяховага навучання.

— Думаю, што такія літаратурныя марафоны, як Паэтычная ноч, не трэба рабіць звычкай. Яны павінны быць яркімі і запамінальнымі. Можна іх паўтараць, але галоўнае, каб не страцілася непаўторнасць, — мяркуе загадчык бібліятэкі.

# Што чытаюць на Палессі?

**Чаму аўдыторыя Мазырскай цэнтральнай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна змянілася за апошнія пяць гадоў? Хто з айчынных пісьменнікаў найбольш папулярны сярод мазыран? Як супрацоўнікі ўстановы прапагандуюць беларускіх творцаў? Пра гэта наша размова з Вікторыяй Каральковай, намеснікам дырэктара раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы аддзела культуры Мазырскага райвыканкама.**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**фота аўтара**
**і з фондаў бібліятэкі**



*Вікторыя Каралькова.*

— Гісторыя нашай бібліятэкі налічвае ўжо больш як дзевяноста гадоў. У 1921-м, пасля вызвалення горада ад войскаў Станіслава Булак-Балаховіча, у горад вярнулася савецкая ўлада. Яе прадстаўнікі звярнуліся да насельніцтва з заклікам стварыць бібліятэку, і чытачы пачалі прыносіць кнігі з хат. У выніку напрыканцы года фонд гарадской бібліятэкі налічваў крыху больш як 2 тысячы асобнікаў. Падчас Вялікай Айчыннай вайны ўсе фонды былі знішчаны, але жыхары самі праявілі ініцыятыву па аднаўленні ўстановы і пасля вызвалення горада бібліятэка пачала работу па зборы кніг сярод насельніцтва. 1 верасня 1946 года паводле рашэння Палескага аблвыканкама (у 1938 — 1954 гадах Мазыр з'яўляўся цэнтрам Палескай вобласці) на базе гарадской была адкрыта Палеская абласная бібліятэка. А ў 1949-м, калі святкавалася 150-годдзе з дня нараджэння А.С.Пушкіна, ёй было нададзена імя класіка.

За апошні час найбольш істотная падзея ў нашай гісторыі датаваная лістападам 2007 года: Мазыр і Мазырскі раён былі аб'яднаны ў адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку, а цэнтральная бібліятэка імя А. С. Пушкіна стала галоўнай бібліятэчнай установай цэлага рэгіёна. У наш час на Мазыршчыне дзейнічаюць таксама 7 гарадскіх дарослых, 5 гарадскіх дзіцячых, 21 сельская бібліятэка-філіял і 10 бібліятэк-клубаў.

**— Апошнім часам у вашай галіне актыўна праводзіцца працэс аптымізацыі. Як ён праяўляецца ў рэгіёне?**

— З аднаго боку, аптымізацыя выклікана імкненнем упарадкавання сеткі публічных бібліятэк. З другога — да яе правядзення падштурхоўвае неабходнасць эканоміі фінансавых сродкаў. Пры аптымізацыі бібліятэкі ўзбуйняюцца, становяцца бібліятэкамі-клубамі. Пры адсутнасці чытачоў — зачыняюцца. Зрэшты, апошні варыянт з'яўляецца для нас непажаданым. Таму ў апошні час на Мазыршчыне спыніла сваё існаванне толькі адна бібліятэка, бо ў тым населеным пункце пражывала 50 чалавек сталага ўзросту. Аднак яны ўвайшлі ў зону абслугоўвання іншай бібліятэкі.

**— Якія характэрныя рысы ўласцівыя Пушкінцы?**

— На маю думку, варта спыніцца на такой асаблівасці, як структура ўстановы. Яна куды больш разгалінаваная, чым у большасці раённых бібліятэк: маюцца аддзелы абслугоўвання і інфармацыі; бібліятэчнага маркетынгу; камплектавання, апрацоўкі і арганізацыі адзінага фонду. Першы з пералічаных падзяляецца на шэсць сектараў: абанемент, чытальная зала, краязнаўчы, прававой інфармацыі, мастацтваў, інфармацыі (былы даведачна-бібліяграфічны аддзел). Акрамя таго, у 2009 годзе пачаў працу сектар па абслугоўванні карыстальнікаў з парушэннямі зроку. Яго наведвае больш як 40 чытачоў, якім мы можам прапанаваць больш як 2 тысячы экзэмпляраў агучанай літаратуры (усё, што выходзіць на айчынным прадпрыемстве “Тукатэкс”).

Наогул, на 1 студзеня 2012 года наш фонд налічваў каля 151 тысячы экзэмпляраў дакументаў. Акцэнт у камплектаванні зроблены на сацыяльна значнай літаратуры. У мінулым годзе наша сістэма заняла трэцяе месца ў краіне па аб'ёме камплектавання фондаў гэтай літаратурай. Шмат у фондзе белетрыстыкі ад беларускіх выдаўцоў, а таксама перыядычных выданняў.

**— Пяройдзем да характарыстыкі бібліятэчнай аўдыторыі.**

— Калі кіравацца сухімі лічбамі, дык за мінулы год да нас завіталі больш як 12 тысяч чытачоў. Цікава, што яшчэ пяць гадоў таму 75 працэнтаў ад агульнай колькасці наведвальнікаў складалі старэйшыя школьнікі і студэнты. Але пашырэнне доступу да інтэрнэту, магчымасці карыстання электроннымі сродкамі інфармацыі прывялі да таго, што адпаведная аўдыторыя зменшылася да 10 працэнтаў. Цяпер больш як 60 працэнтаў чытачоў складаюць прадстаўнікі сярэдняга ўзросту.

У выніку змяніліся прыярытэты асноўнай часткі аўдыторыі. Галоўны матыў, які цяпер прыводзіць чытачоў у бібліятэку, — імкненне адысці ад жыццёвых праблем. Кажуць: “Мы стаміліся ад паўсядзённых клопатаў, узялі ў рукі кнігу і на нейкі час забыліся пра іх”. Адпаведна, найбольшым попытам карыстаецца забаўляльнае чытво: дамскія раманы, іранічныя дэтэктывы. Зусім мала цікавяцца класікай. Існуе пэўная катэгорыя людзей, якія стабільна чытаюць тоўстыя літаратурныя часопісы “Полымя”, “Маладосць”, “Нёман”. Але колькасць такіх чытачоў не настолькі вялікая, як хацелася б.

**— Творчасць якіх беларускамоўных пісьменнікаў цікавіць наведвальнікаў?**

— Сярод беларускамоўных твораў найбольшую ўвагу выклікаюць асобы, чый лёс звязаны з Мазыршчынай (ці нарадзіліся тут, ці працавалі): Андрэй Федарэнка, Іван Капыловіч, Анатоль Бароўскі, Святлана Алексіевіч (некаторы час працавала настаўніцай на Мазыршчыне), Уладзімір Ліпскі (Аўцюкі, пра якія ён піша, знаходзяцца ў суседнім Калінкавіцкім раёне), Васіль Ткачоў (курыруе мазырскіх пісьменнікаў ад Саюза пісьменнікаў Беларусі), мясцовыя літаратары Аляксандр Каляда і Васіль Андрыеўскі. Чытачам заўсёды цікава пазнаваць у творах знаёмыя мясціны.

Што датычыць малодшай аўдыторыі, дык супрацоўнікі дзіцячых бібліятэк скардзяцца на адсутнасць новай цікавай літаратуры для сярэдняга школьнага ўзросту. Гэта частка карыстальнікаў сыходзіць або на вуліцу, або за камп'ютар. Адным з прыемных выключэнняў з'яўляюцца кнігі Андрэя Федарэнкі “Шчарбаты талер” і “Афганская шкатулка”. Яны карыстаюцца вялікім попытам, прычым інфармацыя пра іх перадаецца дзецьмі па ланцужку. Упэўнена, што новыя творы пісьменніка, адрасаваныя гэтай аўдыторыі, будуць мець такі ж поспех.



*У Мазырскай цэнтральнай бібліятэцы імя А.С.Пушкіна.*

Наогул, класікай больш цікавяцца навучэнцы, якія праходзяць пэўныя творы па праграме. Дарэчы, у фае нашай установы арганізавана выстаўка, на якой прадстаўлены кнігі сучасных беларускіх пісьменнікаў. Чытачы падыходзяць, глядзяць, але, на жаль, на абанеменце ўсё роўна імі амаль не цікавяцца.

**— А якая сітуацыя з рускамоўнымі творцамі?**

— Вялікай папулярнасцю карыстаюцца раманы Наталлі Батраковай. Пра яе “Территорию души” мы даведаліся ад нашага дырэктара Галіны Напрэенкі, якая прывезла раман з Мінска пасля чарговай нарады ў Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі, парэкамендавала супрацоўнікам, а тыя ўжо чытачам. У фондах знаходзіцца два асобнікі кнігі “Территория души”, зачытаныя літаральна да дзірак. Другі раман пісьменніцы “Площадь согласия” чытачы чакалі з нецярпеннем. А чарга жадаючых прачытаць трэці раман “Миг бесконечности” пачала фарміравацца яшчэ да атрымання яго ў фонды бібліятэкі. Пачалі рэкамендаваць як аўтара, падобнага да Батраковай, Тамару Лісіцкую. На жаль, другі яе раман “Идиотки” ў фондах бібліятэкі ёсць толькі ў агучаным варыянце. Істотна, што абедзве пісьменніцы не штампуюць творы, а пакутліва “нараджаюць” іх на працягу некалькіх гадоў.

Асобна хацелася б адзначыць пэўную цікавасць да краязнаўчай літаратуры як на беларускай, так і на рускай мовах. На вялікі жаль, літаратуры пра Мазыр недастаткова. Найвялікшым попытам карыстаюцца кнігі двух аўтараў: Аляксандра Бабра, які вывучае гісторыю горада, і Міхаіла Копача, які даследаваў мінулае раёна. З мэтай яшчэ больш зацікавіць аўдыторыю і прыцягнуць увагу падрастаючага пакалення да гісторыі, культуры роднага краю і творчасці мясцовых пісьменнікаў і паэтаў на працягу 15 год бібліятэка працуе па праграме “Зямля мазырская — жамчужына стагоддзяў”. Традыцыйна кожны год праходзіць дэкада краязнаўчай літаратуры.

**— Апошні прыклад паказвае, што бібліятэкі прыкладваюць усе намаганні для папулярызацыі кніг. А якія практычныя вынікі такіх акцый?**

— Прывяду вам канкрэтны прыклад. Мы супрацоўнічаем з аддзяленнем дзённага знаходжання маладых інвалідаў. У лютым для іх прайшла сустрэча, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Пасля яе заканчэння чытачы масава накіраваліся на абанемент па творы менавіта гэтых пісьменнікаў. Заўважу, што некаторыя стабільна наведваюць імпрэзы нейкага пэўнага бібліятэкара, ідуць да яго па парады. Хоць нічога дзіўнага тут няма. Любая кніжніца пачынаецца з бібліятэкараў. Наогул, у нас няма выпадковых людзей. Усе, каму праца нецікавая, сыходзяць дастаткова хутка. А вось тыя, каму яна блізкая, працуюць. Напрыклад, Марыя Каваленка кіравала нашай установай больш як трыццаць гадоў. Ужо 15 гадоў дырэктарам Галіна Напрэенка. Менавіта ў іх мы, маладыя бібліятэкары, пачыналі спасцігаць прамудрасці справы. Зрэшты, пра гісторыю бібліятэкі можна пісаць даследаванні, якія, упэўнена, калі-небудзь з'явяцца.

*Імпрэзы*

## Прыгажуня Польшчы і Літвы

У Мастацкай галерэі Віцебскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна адкрылася выстаўка старшыні аб'яднання мастакоў “Віцебская акварэль”, выкладчыка жывапісу, малюнку і кампазіцыі кафедры выяўленчага мастацтва Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава Міхася Ляўковіча “Свет жанчын”.

Сярод работ вылучаюцца партрэты слынных прадстаўніц роду Радзівілаў. Калі мужчыны гэтай сям'і лічыліся некаранаванымі каралямі, то жанчыны, бясспрэчна, славіліся не толькі прыгажосцю… Барбара, Уршуля, Людвіка Караліна і Эліза Радзівіл велічна паўсталі з-пад пэндзля мастака. Сярод іх — сапраўдная каралева, самая прыгожая жанчына Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага — Барбара Радзівіл.

*“Чорная панна”* — непаўторная Барбара з пачуццём высокай чалавечай годнасці паўстае перад намі. Аўтар перадаў сапраўдную каралеўскую высакароднасць і незвычайную элегантнасць, апісаную гісторыкамі і літаратарамі. Адлюстраваў мастак на палатне і трагічнасць яе лёсу.

Пабачыць іншых славутых прадстаўнікоў роду Радзівілаў вы зможаце, наведаўшы выстаўку, якая будзе дзейнічаць да канца красавіка.

**Вольга ПАЛУНЧАНКА**

*Дзіцячы свет*

## Урокі ў вершах

На “Кніжчыны імяніны” ў дзіцячую бібліятэку № 4 г. Мінска завіталі вучні чацвёртых класаў 30-й сталічнай школы і пісьменнікі Ірына Тулупава ды Уладзімір Мазго. Ірына Тулупава правяла адмысловы ўрок малявання — у вершах. Уладзімір Мазго прачытаў мініяцюры, прысвечаныя гарадам, у назвах якіх згадваюцца імёны людзей, а таксама — вершаваную казку ды шмат іншых цікавых вершаў са сваіх новых кніг.

Дзеці не толькі вучыліся маляваць, пазнавалі па апісанні беларускія краявіды, але і спявалі — разам з музычным калектывам 74-й гімназіі.

Пераможца Рэспубліканскага конкурсу “Бібліятэка — асяродак нацыянальнай культуры”, бібліятэка № 4 удала спалучае ў працы традыцыйныя формы і новыя. Акрамя правядзення штогадовага Тыдня дзіцячай кнігі сёлета тут задумалі распачаць цыкл сустрэч “Ці гатова сэрца?”, на якіх размова пойдзе пра духоўныя ды хрысціянскія каштоўнасці.

**Рыта СТАХ**

*З пошты «ЛіМа»*

## За школьнай партаю

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Пішуць вам вашыя пастаянныя чытачы, супрацоўнікі бібліятэкі сярэдняй школы № 1 г. Мінска, натхнёныя падзеямі апошніх дзён.

Вельмі ж нам хацелася, каб Тыдзень дзіцячай кнігі прайшоў ярка і запамінальна, асабліва ўлічваючы той факт, што сёлета — Год кнігі. Правялі рэкламную акцыю, арганізавалі выстаўку “Кніга — сувязь стагоддзяў”, падрыхтавалі рэкламныя лістоўкі. Хоць, па праўдзе кажучы, на вялікі рэзананс не спадзяваліся…

Але ўявіце наша здзіўленне, калі запрасілі нас на дзве сустрэчы: адна праходзіла ў першых класах, другая — у чацвёртых. І мы, бібліятэкары, раптам сталі пачэснымі гасцямі. А як прыемна было пачуць з вуснаў школьнікаў, што бібліятэкар — гэта фея каралеўства кніг! Пастараліся педагогі В. Бягун, С. Бабіцкая, Т. Пякарская. Песні, вершы, загадкі, інсцэніроўкі, мультымедыйныя прэзентацыі, відэафільмы… Усяго ўбачанага і пачутага не пералічыць. А колькі задавальнення атрымалі дзеці!

Так што Тыдзень дзіцячай кнігі стаў святам і для нас, бібліятэкараў, і для ўсёй нашай школы.

**З удзячнасцю,**
**бібліятэкары СШ № 1 г. Мінска**

*Першы крок*

# Хочацца зразумець почырк

**Народная артыстка Беларусі Бэла Масумян уганаравана медалём Францыска Скарыны, вышэйшай узнагародай Беларускага саюза тэатральных дзеячаў “Крыштальная Паўлінка”, медалём Саюзнай дзяржавы “За супрацоўніцтва”. Лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва, Бэла Амікаўна распавядае пра ролю бібліятэкі ў яе жыцці.**



— Я ў свой час з былой нашай Ленінскай бібліятэкі амаль не выходзіла. У мяне там працавала сяброўка Святлана Фядулава. Таму лічыла, што маю асаблівa спрыяльныя абставіны. І гэта вельмі цаніла, бо ў той час не было столькі рознай літаратуры, як цяпер. Але і ў нашыя дні з-за матэрыяльных абставін не заўсёды купіш тое, што хочацца. А тады выходзілі часопісы “Нева”, “Москва”, “Дружба народов”. Мы іх да дзірак зачытвалі! Нават у чарзе стаялі, каб пачытаць. Па сутнасці, усё маё жыццё пачалося з кнігі. І цяпер стасункі з літаратурай не парываюцца. Меней чытаю, магчыма, сучасных кніг, але шмат таго, што неабходна ў тэатры. Шукаю літаратуру, якая датычыць працы. Хочацца зразумець і почырк, і стылістыку аўтара: як чалавек разважаў, што ён выказаў і што патаемнага ў яго засталося. Люблю чытаць Муракамі. Калі яго кнігі масава выходзілі, неяк гэты аўтар прайшоў міма мяне. Не скажу, што не чытала, але ён неяк тады не закрануў. А цяпер як адкрыла. Гэта не рэбус і не загадка, а нешта такое, што прысвячаецца тваёй душы і тваім нявыказаным думкам. Несфармуляваным — ён іх сфармуляваў. І гэта цікава. Таму што ты можаш падняцца, каб зразумець, дацягнуцца да вяршыні. Вось гэта — шчасце!

# І сэрцам калыша калыску сына…

**Прэзентацыя кнігі ўспамінаў Адама Багдановіча “Я всю жизнь стремился к свету” адбылася ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А.С. Пушкіна.**

**Ірына ТУЛУПАВА**

Ёсць слушнае меркаванне: калі ў аўтара пасля заканчэння твора засталося яшчэ шмат таго, што можна было б дадаць да тэмы, — твор атрымаўся. З гэтага пункту гледжання ў выдання, укладальнікам якога з’яўляецца Аляксандр Вашчанка, — бясспрэчны поспех.

На прэзентацыі з нагоды выхаду кнігі сабралася шмат навукоўцаў, даследчыкаў, грамадскіх дзеячаў, хто б мог дадаць інфармацыі да прадстаўленых матэрыялаў і прапанаваць укладальніку цяпер ужо гістарычныя дакументы для далейшай працы. Ды і сам Аляксандр Вашчанка, адкрываючы сустрэчу, прызнаўся: напачатку планавалася адна кніга, але, калі заглыбіўся ў дакументы, зразумеў, што такога аб’ёму будзе недастаткова. Каб перадаць хаця б асноўны змест творчай працы Адама Багдановіча, патрэбны як мінімум два тамы. Цяпер з’явілася першая кніга — “Мои воспоминания”. У другую будуць уключаны літаратурныя творы “Пережитки древнего мироздания у белорусов”, “Страницы из жизни Максима Горького”, “М. Горький и Ф. М. Шаляпин в Нижнем” і інш. Па-за межамі праекта засталася эпісталярная спадчына А. Багдановіча. Да таго ж, як паказалі выступленні, у прыватнасці, галоўнага захавальніка фондаў М. Багдановіча Ніны Гарэлік, ёсць шмат дакументаў і запісак, створаных рукой Адама Ягоравіча, якія яскрава паказваюць узровень адукаванасці і характар гэтага чалавека, моц яго слова — трапнага, высокамастацкага.

“Так сталася, што Адама Ягоравіча мы больш ведаем праз Максіма. Але гэта самадастатковая асоба, веданне жыцця і творчасці якой дапамагае і нам больш грунтоўна ўявіць сябе на гэтай зямлі”, — адзначыў у сваім выступленні пісьменнік Анатоль Бутэвіч. Тое, што рабіў Адам Ягоравіч, датычыла беларусаў як нацыі, якая павінна ведаць і свой радавод, і сваю гісторыю, і сваю зямлю.

Бацька Максіма нарадзіўся 7 красавіка (па новым стылі) 1862 года ў мястэчку Халопенічы Крупскага раёна Мінскай вобласці. Сёлета поруч са святамі 130-годдзя Якуба Коласа і Янкі Купалы адзначаецца і 150-годдзе Адама Багдановіча. Таму выхад выдання — падзея невыпадковая.



*А. Багдановіч. Яраслаўль, 1900 — 1908 гг.*

“Калі кніга табою чаканая і жаданая, яна нясе вялікую стваральную сілу. Гэта шчасце, што ёсць у Беларусі прыхільнікі творчасці Адама Багдановіча і яго вялікага роду. Таму не адна яшчэ кніга выйдзе ў свет”, — выказаў спадзяванне вядучы сустрэчы паэт Мікола Мятліцкі. Зрэшты, гэтая ж думка блізкая многім беларусам. На імпрэзе выступілі таксама дырэктар музея М. Багдановіча Таццяна Шэляговіч, аўтар мастацкай канцэпцыі музея Эдуард Агуновіч, дваюрадная ўнучка Адама Багдановіча Вольга Дашкоўская ды іншыя аматары творчасці неардынарнай асобы.

*Зачытаныя кнігі*

**У Беларускім дзяржаўным універсітэце падведзены вынікі апытання “Што чытае студэнт БДУ?” Праводзілася акцыя з мэтай выяўлення найбольш папулярных у студэнцкім асяроддзі кніг. У выніку ў рэйтынгу “зачытаных кніг” вызначыліся 15 пазіцый.**

1. “Мастер и Маргарита” Міхаіла Булгакава.
2. “Война и мир”, “Анна Каренина” Льва Талстога.
3. “Преступление и наказание”, “Идиот” и “Братья Карамазовы” Фёдара Дастаеўскага.
4. “Властелин колец” Джона Толкіена.
5. “Алхимик” Паула Каэльа.
6. “Три товарища”, “Триумфальная арка” Эрыха Марыя Рэмарка.
7. “Гарри Поттер” Джоан Роўлінг.
8. “Граф Монте-Кристо”, “Королева Марго” и “Три мушкетёра” Аляксандра Дзюма.
9. “Каласы пад сярпом тваім” Уладзіміра Караткевіча.
10. “Дзікае паляванне караля Стаха” Уладзіміра Караткевіча.
11. “Палата № 6” Антона Чэхава.
12. “Маленький принц” Антуана дэ Сент-Экзюперы.
13. “Поющие в терновнике” Колін Маккалоў.
14 “Евгений Онегин”, “Капитанская дочка” Аляксандра Пушкіна.
15. “Гость”, “Сумерки” Стэфані Маер.

*Да ўвагі*

## Зялёны лісток на аршанскай зямлі

**Гэтымі днямі пачынаецца новая старонка ў гісторыі Аршанскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. С. Пушкіна, якая мае больш як стагадовую гісторыю.**

Як нам паведаміла галоўны бібліятэкар аршанскай Пушкінкі Наталля Янкоўская, у адкрытай пасля капітальнага рамонту кніжніцы чытачоў чакаюць абноўленыя абанемент і чытальная зала, публічны цэнтр прававой інфармацыі, прасторная зала масавых мерапрыемстваў. Адметнасцю і гордасцю бібліятэкі з’яўляецца ўнікальная “Чытальная зала Янкі Сіпакова”.

У 2011 годзе вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч культуры Беларусі Янка Сіпакоў падарыў кніжніцы сваю асабістую бібліятэку. Амаль уся беларуская літаратура ў зборы — з аўтографамі. Ёсць надпісы Уладзіслава Луцэвіч, Алега Лойкі, Леаніда Дайнекі, Алеся Бачылы. Аўтар “Зялёнага лістка на планеце Зямля”, “Зубрэвіцкай сагі” клапаціўся пра малую радзіму, апяваў яе ў сваіх творах, цесна зніто ўваючы лёс мясцін, што знаходзяцца ў верхнім цячэнні ракі Дняпро і яе прытока Аршыцы, з лёсам усёй Беларусі, ствараючы своеасаблівы партрэт Айчыны.

**Рыта СТАХ**

*Штрых-код*

## Што будзе

***Брэстчына***

**25 красавіка** наведвальнікам цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэкі г. Баранавічы прапануецца слайд-успамін “Балючая памяць Беларусі” (да дня Чарнобыльскай трагедыі).

**26 красавіка** ў гарадской бібліятэцы Баранавіч (філіял № 4) пройдзе медыя-ўрок “Чарнобыль у нашай памяці” ў межах пасяджэння аматарскага аб’яднання “Слова”.

**26 красавіка** Дзень бібліятэкі правядуць у дзіцячым садку *“Разам з кніжкай я расту”* супрацоўнікі Баранавіцкай гарадской бібліятэкі (філіял № 1 ЦБС).

**26 красавіка** бібліятэкары Малатковіцкай сельскай бібліятэкі Пінскага раёна правядуць урок трывогі да ўгодкаў Чарнобыльскай катастрофы “Радасць вярніце маю, чорныя хмары атруты”.

**28 красавіка** пасяджэнне клуба сямейнага чытання “Старонкі, якія гавораць” пройдзе ў гарадской дзіцячай бібліятэцы (філіял № 3 ЦБС).

**30 красавіка** ў Пінскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Я. Янішчыц адбудзецца прэзентацыя кнігі М. Еляненўскага “Время пастыря”.

***Віцебшчына***

**24 красавіка** Віцебская цэнтральная гарадская бібліятэка імя М. Горкага арганізуе мультымедыйную прэзентацыю “Марк Шагал — ілюстратар кніг”.

**26 красавіка** пройдзе гадзіна памяці “След чорнага ветру” ў Пальмінскай сельскай бібліятэцы Гарадокскай ЦБС.

**26 красавіка** літаратурная вечарына-рэквіем да дня Чарнобыльскай трагедыі пройдзе ў Плінскай сельскай бібліятэцы Ушацкай ЦБС.

**27 красавіка** выстаўку адной кнігі “Адвечная сіла зямлі” (Якуб Колас “Новая зямля”) прапануе Браслаўская цэнтральная раённая бібліятэка.

***Гродзеншчына***

**21 красавіка** Гарадзечанская сельская бібліятэка Навагрудскай ЦБС запросіць вучняў 8 — 9 класаў на паэтычны конкурс “Ветразі паэзіі”, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння М. Танка.

**25 красавіка** ў Воўпаўскай сельскай бібліятэцы Ваўкавыскай ЦБС адбудзецца ўрок смутку “Чарнобыль звоніць у званы”. Прагучаць вершы А. Пісьмянкова, В. Лукшы, Л. Галубовіча, інш. Прапануецца кніжная выстаўка “Звон смутку і засцярогі”.

**25 красавіка** Парэцкая сельская бібліятэка Гродзенскай РЦБС правядзе “круглы стол” для вучняў старэйшых класаў, прысвечаны теме чарнобыльскай трагедыі. Будзе прадстаўлена выстаўка-агляд “Чарнобыль. Гады выпрабаванняў”.

**28 красавіка** бібліятэка-філіял № 10 Гродзенскай ГЦБС сумесна з культурна-асветніцкім грамадскім аб’яднаннем украінцаў “Барвінак” праводзіць літаратурна-музычную вечарыну “Шаўчэнкаўскі шлях на Беларусі”.

**28 красавіка** ў Каменскай сельскай бібліятэцы Навагрудскай ЦБС пройдзе літаратурная віктарына, прымеркаваная да 130-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа.

**29 красавіка** Трабская сельская бібліятэка Іўеўскай ЦБС запросіць на вечарыну “Слухаю сэрца” — да юбілею беларускай пісьменніцы Р. Баравіковай.

***Магілёўшчына***

**У Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна пройдуць выстаўкі:**

**з 19 па 30 красавіка** — “Покліч дабрыні” (да 100-годдзя Л. Прокшы);

**з 18 па 30 красавіка** — “Вядомы бібліятэказнаўца — наш зямляк” (да 120-годдзя І. Сіманоўскага, заслужанага дзеяча культуры Беларусі).

**24 красавіка** на літаратурную гасцёўню “Цуд, імя якому — кніга” запросіць Крычаўская цэнтральная бібліятэка.

**26 красавіка** Дзень памяці “Чарнобыльская трагедыя — боль, смутак, крык чалавечай душы” пройдзе ў Бельскай сельскай бібліятэцы Дрыбінскай бібліятэчнай сістэмы.

***Міншчына***

**23 красавіка** ў сельскай бібліятэцы в. Зачысце Барысаўскага раёна плануецца правесці віртуальнае падарожжа па старонках беларускіх дзіцячых кніг “У краіне таямніц”.

**24 красавіка** Любанская цэнтральная раённая бібліятэка арганізуе літаратурную вечарыну “Сейбіты слова і мудрасці”.

# Вясельныя вянкі — ад крупскіх майстроў

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

**Калекцыя вясельных вянкоў крупскіх майстроў падчас конкурсу традыцыйных касцюмаў Мінскай вобласці, вынікі якога падвялі напрыканцы мінулага года ў Любані, заняла першае месца ў намінацыі "За выдатнае асваенне складаных тэхнік і тэхналогій". Прафесійнае журы ацэньвала цэласнасць касцюмаў, наватарскі падыход, узровень майстэрства пры стварэнні строяў, глыбіню вывучэння рэгіянальных традыцый, асваенне тэхнік і тэхналогій, асабліва старадаўніх.**



*Вольга Алексіевіч з карцінай, вытканай бісерам.*

У Крупскім раённым доме рамёстваў з гонарам расказваюць пра свой поспех, а яго супрацоўнікі гатовы зноў удзельнічаць у конкурсах такога кшталту — ужо з новымі творамі. За стварэнне вянкоў і падрыхтоўку прэзентацыі калекцыі адказвала метадыст гэтай установы Вольга Алексіевіч, якая лічыць, што перамога ў конкурсе — заслуга ўсяго калектыву на чале з дырэктарам Таццянай Сухаплюевай, бо аднаму чалавеку здзейсніць такую творчую задуму не па сілах.

Для самой Вольгі Яўгенаўны шлях да перамогі пачаўся, мабыць, з вялікай лялькі, якую ёй прапанавалі стварыць у Доме рамёстваў. Гэта быў зборны вобраз, у беларускім народным стылі. Потым з'явілася лялька-нявеста. Майстар закончыла яе перад самым пачаткам працы над вянкамі. Дарэчы, ідэя стварэння ўганараванай калекцыі зыходзіла ад вядучага спецыяліста Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Ірыны Смірновай, якая падказала крупскім майстрам, у якім кірунку шукаць неабходную інфармацыю, і прадставіла частку цікавых матэрыялаў.

— Дадатковую інфармацыю чэрпалі і ў інтэрнэце, і ў розных энцыклапедыях ды даведніках, — распавяла Вольга Алексіевіч. — Спачатку хацелі стварыць калекцыю вянкоў Крупскага раёна, але захавалася вельмі мала патрэбных нам матэрыялаў. Паездзіўшы па вёсках і пагутарыўшы са старажыламі, мы знайшлі толькі некалькі ўнікальных вясельных фотаздымкаў. Таму вырашылі пашырыць рамкі і адлюстраваць у сваёй калекцыі тэндэнцыі развіцця вясковай вясельнай моды XIX — XX стагоддзяў у Беларусі на прыкладзе Слуцкага раёна. Так атрымалася, што фотаздымкі, якія мы адабралі, датычылі ў асноўным гэтага рэгіёна. Экспанаты стваралі на працягу года.



*Лялька-нявеста.*

Калекцыя складаецца з дзевяці вянкоў. Ні адзін выраб не паўтарае іншы, бо кожная майстрыха, хоць і захоўвала традыцыйную для сваіх мясцін форму вянка, аздабляла яго ў адпаведнасці з асабістым густам і мастацкімі здольнасцямі. Спачатку былі вянкі-абручы (з кветкамі і стужкамі), вельмі папулярныя ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. У больш позні перыяд з'явіліся вянкі ў выглядзе паўабруча, таксама з кветкамі і стужкамі, але ўжо з вэлюмам. Яго шылі звычайна з марлі ці іншага паўпразрыстага матэрыялу (гэта характэрна для пачатку і сярэдзіны XX стагоддзя). У трэцюю групу ўвайшлі больш сучасныя вянкі з фатою (канец XX стагоддзя).

— Пры вырабе кветак стараліся ўзнавіць старыя тэхнікі, іншы раз нават паводле расповедаў старажылаў, абапіраючыся на вынікі вялікай даследчай працы, — зазначыла Вольга Яўгенаўна. — Штосьці і самі дадумвалі, штосьці падказалі ў абласным Цэнтры народнай творчасці, спецыялісты якога пільна сачылі за нашымі творчымі намаганнямі і іншы раз карэкціравалі іх.

Дарэчы, Вольга Алексіевіч працуе ў Доме рамёстваў толькі год. Прыйшла сюды зусім выпадкова. Пасля дэкрэтнага адпачынку шукала работу, абышла нямала розных устаноў і арганізацый, але безвынікова. Маючы дыплом мадэльера-канструктара верхняга жаночага адзення, адкрыла ўласную майстэрню. Дзесьці праз год маладой жанчыне патэлефанавалі з Дома рамёстваў і запрасілі на працу.

— Мы вырашылі, што тут вельмі патрэбны спецыяліст-універсал, які можа вырабіць, без перабольшання, амаль усё, — расказала дырэктар установы Тацццяна Сухаплюева. — Хаця пэўнымі відамі рамёстваў Вольга Яўгенаўна пачала займацца толькі ў нас. Першае, што яна стварыла, — традыцыйны касцюм старавераў, які складаўся з сарафана і блузы. Потым занялася рознымі відамі ткацтва. Асабліва палюбіла ткацтва бісерам, асвоіла і бісерапляценне.

Вось так Дом рамёстваў знайшоў выдатнага майстра і добрага педагога, якая працуе і з дзецьмі, і з дарослымі, а маладая жанчына — працу для душы.

*З глыбінкі*

## Спагада і падтрымка

Больш як трыццаць гадоў існуе ў Дзяржынску мастацкае аддзяленне Дзіцячай школы мастацтваў, якое ўзначальвае жывапісец, графік, плакатыст, член Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Шчарбін. Работы вучняў экспанаваліся на выстаўках ува многіх краінах свету і ўсюды атрымлівалі добрыя водгукі. А зусім нядаўна калектыў Дзіцячай школы мастацтваў атрымаў запрашэнне ўзяць удзел у праекце "Фукусіма — год пасля…", ідэя якога належыць супрацоўніцы ЮНЕСКА спадарыні Музе Кемагай-Кагава.

Тэма для дзяцей Беларусі, краіны, якая таксама перажыла вялікую тэхнагенную катастрофу — выбух на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, — аказалася блізкай і зразумелай. У ходзе падрыхтоўкі да выстаўкі вучні школы пад кіраўніцтвам вопытных педагогаў У. Шчарбіна, У. Хачатурана і І. Дарашэвіч дэталёва азнаёміліся з культурай Японіі, яе архітэктурай, керамікай, мастацтвам. Адбор дзіцячых прац для Такійскай экспазіцыі спачатку правялі галандскія, а потым японскія мастацтвазнаўцы. У выніку на выстаўку ў Японіі патрапіла 27 малюнкаў з Дзяржынска. Сярод лепшых — работы Данілы Рабцава, Тацццяны Сальнікавай, Яна Макарчыка, Аліны Карніцкай і Крысціны Жаковіч. А над цудоўным пано "Экалогія" працавалі дзевяць вучняў мастацкай школы. Шчырая спагада і жаданне падтрымаць японскіх сяброў — у кожнай рабоце.

**Лявон ЦЕЛЕШ,**
**г. Дзяржынск**

## Сляды ўзыходзячых зорак

Вынікі літаратурнага конкурсу юных літаратараў "Навучыліся чытаць, будзем самі сачыняць", ініцыяванага аддзелам па справах моладзі Уздзенскага райвыканкама і дзіцячым філіялам раённай бібліятэкі пры падтрымцы члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Дзмітрыя Вінаградава, былі падведзены на літаратурным свяце "Наша кніга дзіцячая…", якое адбылося ў раённай дзіцячай бібліятэцы.

Ацаніўшы 63 вершаваныя і празаічныя літаратурныя творы, дасланыя на конкурс вучнямі гарадскіх і сельскіх школ, кампетэнтнае журы прысудзіла ганаровыя граматы пераможцам Сняжане Бушыле, Каці Ліпай, Віцы Казубоўскай, Лізе Кучук, Алёшу Рамановічу і Алёшу Ханцэвічу. Яшчэ некалькі хлопчыкаў і дзяўчынак атрымалі пахвальныя лісты. Добрым дапаўненнем да ўзнагарод сталі кнігі і салодкія падарункі.

Сярод ганаровых гасцей, што завіталі на сустрэчу з дзецьмі, быў рэдактар раённай газеты, кіраўнік раённага літаб'яднання "Нёманец", член СПБ Віктар Сабалеўскі, які ўхваліў таленавітыя дзіцячыя работы. Сваю кнігу "След погасшей звезды" падарыў пераможцам Дзмітрый Вінаградаў.

**Вера ЛУКАШЭВІЧ,**
**Уздзенскі раён**

*Куток таемнасці*

**Тацццяна ШЛЕГ**

## Завітала лета ў музей

**У Лепельскім раённым краязнаўчым музеі лета ў самым разгары. Блакітныя васількі і незабудкі, пунсовыя цюльпаны і макі, рознакаляровыя ружы і браткі сагрэюць кожнага, хто наведае выстаўку "Вышыўка 1960 — 80-х гадоў". Мастацтва вышывання мае шматвекавую гісторыю, але яно і па сённяшні не страціла актуальнасці, паўстала нароўні з жывапісам, скульптурай і музыкай.**

На выстаўцы прадстаўлена каля 60 дэкаратыўных прадметаў інтэр'еру з фондаў лепельскага музея. Большасць экспанатаў была створана майстрыхамі ў пасляваенныя дзесяцігоддзі на ўласную патрэбу. Гэта сурвэткі ("дарожкі" і "вугалкі"), абрусы, падзоры, навалачкі, накідкі на падушкі, кішэнькі для насовак і іншыя рэчы з расліннымі узорам. На карцінах — жывёлы, кветкі, дзяўчаты. Тут жа прадстаўлена 19 ручнікоў, якія выкарыстоўваліся для ўпрыгажэння абразоў і падчас вяселля. Вышыўка на ручніках, паводле павер'яў, павінна была засцерагаць чалавека ад наслання і сурокаў.

З даўніх часоў шырока распаўсюджана аздабленне адзення: абляммоўка рукава, каўняра кашулі, манішкі. Дарэчы, лічылася, што вышыўка, размешчаная на месцах судотыку цела чалавека з навакольным светам (па каўняры, рукавах, падоле), выконвала ролю абярэгу.

Старэйшаму пакаленню выстаўка нагадае пра маладосць. Юныя наведвальнікі пазнаёмяцца з захапленнем сваіх бабуль.

*Афарызм*

*Няма горшага за той суд,*
*якім судзіш сябе сам.*

**Іван МЕЛЕЖ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

**Галоўны рэдактар Тацццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2808
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 19.04.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1750
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686